Кніга “Узнагароды Беларусі” прысвячаецца гераічнаму беларускаму народу, які ва ўмовах гібрыднай расійскай акупацыі і жорсткай дыктатуры мясцовых калабарантаў паказаў усяму свету сваю волю да свабоды і дэмакратыі.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

# Нацыянальны гімн Беларусі

Мы выйдзем шчыльнымі радамі
На вольны родны свой прастор.
Хай воля вечна будзе з намі,
А гвалту мы дамо адпор!

Няхай жыве магутны, смелы
Наш беларускі вольны дух.
Штандар наш бел-чырвона-белы,
Пакрый сабой народны рух.

На бой! За шчасце і за волю
Народу слаўнага свайго!
Браты, цярпелі мы даволі,
На бой — усе да аднаго!

Імя і сілу беларуса
Няхай пачуе й убачыць той,
Хто смее нам нясці прымусы
І першы выкліча на бой.

Браты, да шчасця мы падходзім:
Хай гром грыміць яшчэ мацней!
У крывавых муках мы народзім
Жыццё Рэспублікі сваей!

# Канцэпцыя ўзнагарод Беларусі

19 жніўня 2022 г. пачала працу Геральдычная рада “Пагоня”, якая аб’яднала геральдыстаў, гісторыкаў, мастакоў у галіне сімволікі, эмблематыкі і ўніфармістыкі, а таксама экспертаў у шэрагу іншых кірункаў. Мэта нашай грамадзянскай ініцыятывы — вырашэнне праблемаў нацыянальнай сімволікі, геральдыкі, эмблематыкі, узнагароднай сістэмы, уніфармістыкі і атрыбутыкі. Без гэтага немагчымая паўнавартасная і эфектыўная дзейнасць дэмакратычных сіл, у тым ліку іх сілавога складніка.

Для гэтага Геральдычнай радай праводзіцца збор і аналіз матэрыялаў гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі паводле актуальных тэмаў, іх абмеркаванне, выпрацоўка прымальных падыходаў, адаптацыя адабранага матэрыялу ў адпаведнасці з патрабаваннямі часу, іх тэарэтычнае, прававое ды візуальнае суправаджэнне, распрацоўка ўзорных малюнкаў, вытворчасць і практычнае выкарыстанне найбольш запатрабаваных узораў.

За час існавання Геральдычнай рады зроблена ўжо нямала, праца над асобнымі праектамі працягваецца, паўстаюць новыя актуальныя напрамкі, вядзецца пошук адказаў на выклікі часу. Сярод найважнейшых праектаў Геральдычнай рады — стварэнне Нацыянальнай сістэмы ўзнагарод Беларусі.

Вядома, што ўзнагароды заўсёды паўстаюць у пераломныя, лёсавызначальныя для народа і дзяржавы моманты гісторыі, калі з’яўляецца вялікая колькасць людзей, гатовых ахвяраваць уласным жыццём, здароўем і дабрабытам у імя Бацькаўшчыны. Узнагароды з’яўляюцца тады, калі лідары нацыі бяруць адказнасць за лёс народа, калі неабходна аб’яднаць грамадства для змагання супраць агульных ворагаў.

Сёння ўзнагароды быццам бы ад імя Беларускай дзяржавы ўручае А. Лукашэнка. Але фактычна пад выглядам дзяржаўных узнагарод ён раздае адзнакі вернасці сабе асабіста. Статус узнагароды як адзнакі за асабісты ўнёсак у перамогу дабра над ліхам у сучаснай Беларусі цалкам страчаны, узнагароды сведчаць аб лаяльнасці дыктатару, пра саўдзел у злачынствах нелегітымнай улады. Энергічная раздача расійскіх узнагарод беларусам — яскравае сведчанне пра саўдзел дыктатуры ў агрэсіі супраць Украіны і паступовую страту суверэнітэту Беларусі. Няма сумневу, што прыйдзе час, і пасля перамогі над лукашызмам такая ўзнагарода будзе ўспрымацца як доказ нацыянальнай і дзяржаўнай здрады. Ад такіх доказаў калабарацыі з акупацыйным рэжымам людзі самыя стануць пазбаўляцца.

Акрамя таго, сучасная лукашысцкая сістэма ўзнагарод не з'яўляецца прыкладам арыгінальнасці ці выдатнага дызайну, як гэта маецца ў іншых зніклых ці пакуль яшчэ існуючых дыктатурах. Усе цяперашнія афіцыйныя ўзнагароды постсавецкай Беларусі выкананы збольшага ў савецкай стылістыцы і эстэтыцы. Часам яны не больш як копіі ўзнагарод СССР, што толькі падкрэслівае іх другаснасць.

Спробы ўвесці ў савецкі камплект сапраўды беларускія ўзнагароды ў 1990-я гады скончыліся няўдала: напрыклад, ордэн Кастуся Каліноўскага ніколі не ўручаўся і быў скасаваны паводле рашэння А. Лукашэнкі. А ідэалагічна нейтральныя ўзнагароды, у тым ліку медаль і ордэн Францыска Скарыны, за час дыктатуры былі цалкам дыскрэдытаваны, паколькі шмат хто з узнагароджаных імі нічым не вызначыліся перад Беларуссю — а часам і наадварот, з'яўляюцца адкрытымі ворагамі нашай дзяржавы і нашага народа.

У сваёй працы Геральдычная рада імкнулася да захавання такой часткі нацыянальнай спадчыны Беларусі, як узнагароды Беларускай Народнай Рэспублікі, узнагароды розных

палітычных сіл, вайсковых фармаванняў, якія ставілі на мэце стварэнне суверэннай дэмакратычнай беларускай дзяржавы. І калі ўзнагароды вайсковых фармаванняў мяркуецца пазней аднавіць у якасці памятных у складзе ведамаснай сістэмы ўзнагарод, то ўзнагароды БНР плануецца інкарпараваць у якасці дзяржаўных для дэмакратычнай Беларусі.

Ёсць у гэтай аб’яднаўчай працы як палітычны, так і прагматычны складнікі: мы пазбеглі супрацьпастаўлення ўзнагарод дэмакратычных сіл, а таксама дублявання спісаў узнагароджаных. Наша мэта ў тым, каб у будучай дэмакратычнай Беларусі ўзнагароды БНР арганічна ўвайшлі ў абноўленую Нацыянальную сістэму ўзнагарод, дапоўнілі і ўзбагацілі яе.

Адметнымі рысамі любой нацыянальнай сістэмы ўзнагарод з’яўляюцца форма калодак, суадносіны велічынь калодак і падвесак-медальёнаў, формы крыжоў і зорак, іх візуальныя асаблівасці, канструкцыі, рэльефнасць, выкарыстанне эмаляў, каляровыя спалучэнні, падзелы стужак і іншае, зразумелае фалерыстам, вытворцам ды калекцыянерам. Менавіта гэтая сукупнасць дазваляе вонкава ўвасабляць ва ўзнагародах пэўную дзяржаву, народ, яго культуру, спадчыну, дасягненні.

Кіруючыся прынцыпам беларусацэнтрычнасці, Геральдычная рада ў сваёй працы адмаўляецца ад усіх савецкіх, імперскіх, каланіяльных традыцый, клапатліва адбірае прыклады сваёй, беларускай ідэнтычнасці ў сімволіцы. Аналіз спадчыны нашага народа ў гэтай галіне пераконвае ў пераважным выкарыстанні вертыкальных прастакутных калодак ва ўзнагародах фармаванняў С. Булак-Балаховіча, Беларускай вайсковай камісіі, Беларускай краёвай абароны ды іншых антыбальшавіцкіх сіл. Пацвярджэннем агульнасці гэтых падыходаў з’яўляюцца ўзнагародныя сістэмы Польшчы, Літвы, Украіны.

Мы распрацавалі Нацыянальную сістэму ўзнагарод Беларусі, грунтуючыся на шматлікіх гістарычных, перадусім беларускіх, прыкладах, на агульнаеўрапейскім класічным падыходзе да ўзнагарод і адмове ад расійска-савецка-бальшавіцкай спадчыны.

Вынікам гэтага аналізу стала распрацоўка ўласнай арыгінальнай ізаграфіі, якая складаецца з шасцікутных калодак, медальёнаў, крыжоў, ордэнскіх зорак асаблівага, гістарычна абгрунтаванага памеру. Намі выкарыстаны пэўны арсенал сродкаў для праектавання зорак, крыжоў, круглых і авальных медальёнаў, бантовых калодак, рознага прызначэння стужак, ланцужкоў ды іншага. Да гэтай сістэмы вырашана дадаць узнагароды БНР, якія маюць уласныя пяцікутныя калодкі арыгінальнай формы і вертыкальныя прастакутныя калодкі.

Новыя беларускія ўзнагароды распрацаваны ў адпаведнасці з еўрапейскай традыцыяй. Яны не перагружаны выяўленчымі элементамі, стракатымі эмалямі, складанымі формамі калодак і падзелам стужак, а таксама іншымі дэталямі, характэрнымі для запазычаных з Расіі лукашэнкаўскіх узнагарод.

Новая сістэма ўзнагарод разглядаецца як неабходны інструмент заахвочвання беларусаў да змагання з дыктатурай унутры краіны і са знешнімі ворагамі Беларусі. Яна дае магчымасць адзначыць заслугі чалавека перад Беларуссю і беларускім грамадствам у найважнейшых сферах: як падчас вайны, так і ў мірны час, у тым ліку ў дзяржаўным будаўніцтве, у сферах навукі і культуры. Час патрабуе ад нас і адмысловых узнагарод, скіраваных на беларускую рэчаіснасць. Так паўсталі медаль “Няскораных Ларысы Геніюш” для палітычных вязняў і праваабаронцаў, медаль “Гонар і годнасць” за значны ўнёсак у барацьбу за вызваленне Беларусі, медаль Сцяга для людзей, якія пацярпелі за абарону беларускай нацыянальнай сімволікі.

У залежнасці ад патрабаванняў статутаў і абставінаў гераічнага ўчынку вайскоўцы ўзнагароджваюцца медалём “За баявыя заслугі” ці медалём “За адвагу”, Партызанскім медалём, далей — крыжамі, напрыклад, крыжам Тадэвуша Касцюшкі, Партызанскім народным крыжам, крыжам Эміліі Плятэр. У якасці ордэнаў за гераічную вайсковую службу прадугледжаны ордэн Кастуся Каліноўскага, ордэн Усяслава Чарадзея і, вядома ж, не толькі вайсковая, але і цывільная найвышэйшая ўзнагарода Беларусі — ордэн Герояў. Адпаведны падыход выкарыстоўваецца і ў адносінах да цывільных узнагарод, пры гэтым асоба можа мець як вайсковыя, так і цывільныя адзнакі.

Вельмі важна падкрэсліць, што пад ордэнам, паводле гістарычнага вызначэння, а не так, як прынята ў савецкай ці лукашэнкаўскай традыцыі, мы разумеем не проста адзнаку на грудзях, але арганізацыю — супольнасць заслужаных людзей Беларусі. Сябры гэтых супольнасцяў павінны актыўна ўдзельнічаць у грамадскім, палітычным і культурным жыцці дзяржавы і нацыі, стаць падмуркам дэмакратыі і незалежнасці краіны.

Тытул кавалера ці дамы ордэна — гэта не толькі пашана, але і пэўныя правы і абавязкі, вызначаныя паводле статутаў. Прататыпам для нас былі рыцарскія і царкоўныя ордэны кшталту Мальтыйскага. Ордэн мае быць не проста ўзнагародай, але і інструментам для таго, каб аб’ядноўваць заслужаных асобаў і накіроўваць іх патэнцыял на карысць Беларусі.

Што датычыць паўнамоцтваў па ўзнагароджванні, цяперашняя сістэма прадугледжвае тры галоўныя інстытуцыі: Раду Беларускай Народнай Рэспублікі, Аб’яднаны Пераходны Кабінет Беларусі і Часовую вайсковую камісію Беларускай Вызвольнай Арміі. Гэты падзел — не тоеснасць прыналежнасці ці падпарадкаванню пэўных узнагарод, а толькі рэкамендаваны сучасны алгарытм узнагароджвання,

неабходны для аператыўнага вырашэння гэтага вельмі важнага пытання. Пасля перамогі вольнай Беларусі і аднаўлення суверэнітэту арганізацыйныя паўнамоцтвы агучаных інстытуцый пяройдуць да адзінага прызначанага для гэтай мэты органа новай улады.

Час ідзе, Беларусь змагаецца за свабоду. Узнагародамі адзначаюцца героі гэтай барацьбы, шматлікія выбітныя беларусы, якія плённа працавалі, ваявалі, здзейснілі геранчныя ўчынкі. Яны аднолькава дарагія нам, і мы ўпэўненыя: за медалём, крыжам ці ордэнам б'ецца гарачае сэрца сапраўднага Беларуса, які справай сцвярджае, што жыве Беларусь!

Жыве вечна!

Старшыня Геральдычнай рады "Пагоня"
Мікіта Забуга

# Часовае палажэнне пра нацыянальныя ўзнагароды Беларусі

Геральдычная рада "Пагоня" распрацавала канцэпцыю новай сістэмы нацыянальных узнагарод Беларусі, якая пасля аднаўлення законнасці і дэмакратыі ў Рэспубліцы Беларусь павінна замяніць сістэму ўзнагарод рэжыму А. Лукашэнкі.

У дадзены момант узнагароды новай сістэмы ўручаюцца інстытуцыямі беларускага вызвольнага руху, аб'яднанымі агульнымі каштоўнасцямі і мэтамі:

– Радай Беларускай Народнай Рэспублікі ў выгнанні (Рада БНР);

– Аб'яднаным Пераходным Кабінетам Беларусі (АПК);

– Часовай вайсковай камісіяй Беларускай Вызвольнай Арміі (ЧВК БВА);

– Геральдычнай радай "Пагоня" (ГР "Пагоня").

Геральдычная рада "Пагоня" аказвае экспертна-кансультатыўную падтрымку ўсім інстытуцыям-заснавальніцам для таго, каб забяспечыць сістэмнасць працы па ўзнагароджванні заслужаных беларусаў і сяброў Беларусі.

Рада БНР мае ўласную сістэму ўзнагарод, якая сфармавалася пераважна ў пачатку 1950-х гадоў і была ўдасканаленая ў наш час, у тым ліку ў супрацы з Геральдычнай радай "Пагоня". Новая сістэма нацыянальных узнагарод Беларусі распрацавана з улікам неабходнасці інтэгравання ўзнагарод Рады БНР як важных аб'ектаў беларускай гістарычнай спадчыны ў дзяржаўную сістэму ўзнагарод Рэспублікі Беларусь пасля перадачы Радай БНР сваіх паўнамоцтваў законным пастаянным дэмакратычным уладам Беларусі.

Аб’яднаны Пераходны Кабінет Беларусі на чале з абраным прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь С. Г. Ціханоўскай і ЧВК БВА ўручаюць узнагароды, большасць якіх распрацаваны нанова. АПК мае ў сваёй кампетэнцыі перадусім цывільныя ўзнагароды, у той час як ЧВК БВА ўручае вайсковыя ўзнагароды. Кожная з трох інстытуцый мае ў сваёй структуры адпаведныя камісіі па ўзнагародах, якія дзейнічаюць паводле ўласных нарматыўных дакументаў і якія зацвярджаюць статуты ўзнагародаў і прадстаўленні кандыдатаў на ўзнагароджанне.

Станам на канец 2024 г. адбываюцца ўручэнні не ўсіх узнагарод, прадугледжаных новай сістэмай. У прыватнасці, не адбываецца ўганараванне тытуламі кавалераў і дам ордэнаў, акрамя ордэна Пагоні і ордэна Жалезнага рыцара, заснаваных Радай БНР. Рашэнні аб пачатку ўручэння такіх узнагарод могуць быць прынятыя адпаведнымі інстытуцыямі-заснавальніцамі або адкладзены да моманту, калі сістэма нацыянальных узнагарод будзе прынята законнымі пастаяннымі дэмакратычнымі ўладамі Рэспублікі Беларусь.

Сістэма нацыянальных узнагарод Беларусі складаецца з трох узроўняў:

1) медалі;
2) крыжы;
3) ордэны.

Асобы, узнагароджаныя медалямі, пры паўторных заслугах, у адпаведнасці са статутамі, маюць права быць узнагароджанымі крыжамі, далей — тытулам кавалера ці дамы ордэнаў.

Узнагароды Беларусі падзяляюцца на вайсковыя і цывільныя, пры гэтым, паводле статутаў, пэўная асоба можа ўзнагароджвацца як вайсковымі, так і цывільнымі адзнакамі.

Кожная ўзнагарода мае зацверджаны статут, эталонную выяву і візуальна-семантычнае апісанне.

Статут узнагароды з'яўляецца нарматыўным дакументам, які вызначае крытэрыі ўзнагароджання, патрабаванні да кандыдатаў, а таксама рэгулюе іншыя пытанні.

Кожная ўзнагарода мае адпаведныя знакі ў адпаведнасці са статутам і апісаннем. Знакамі ўзнагарод могуць быць зоркі, крыжы на ланцугах, шыйных стужках і калодках, плечавыя стужкі, разеткі, планкі і іншыя.

Да кожнай узнагароды прыкладаецца дыплом або сертыфікат памерам A4. Ён можа выдавацца як укладыш у футляр узнагароды на афіцыйных бланках інстытуцый-заснавальніц.

Парадак прадстаўлення да ўзнагарод, разгляд прадстаўленняў, прынящце рашэнняў і ўлік узнагароджаных вызначаюцца адпаведнымі інстытуцыямі-заснавальніцамі.

Рытуал узнагароджвання, а таксама нашэнне нацыянальных узнагародаў рэгулююцца рэкамендацыямі, распрацаванымі Геральдычнай радай.

ПРАЕКТ

# Ордэн Герояў Беларусі

ПАСТАНОВА
ад ________________20___ г.

## Аб заснаванні ордэна Герояў Беларусі

Для адзначэння беларусаў за іх вайсковыя і грамадзянскія ўчынкі, здзейсненыя з рызыкай для жыцця і здароўя ва ўмовах адсутнасці легітымных дзяржаўных інстытутаў і ў сітуацыі беззаконня ў Рэспубліцы Беларусь, улічваючы гістарычныя традыцыі беларускага народа і вострую патрэбу ў аб’яднанні і згуртаванні патрыётаў у вызваленні Айчыны, засноўваецца ордэн Герояў Беларусі (далей — Ордэн).

Арт. 1. Ордэн засноўваецца для адзначэння і ўзнагароды найвышэйшых вайсковых і грамадзянскіх (цывільных) заслуг, здзейсненых падчас вайны ці міру ў славу і на карысць беларускаму народу і дзяржаве.

Арт. 2. Ордэн з’яўляецца найвышэйшай узнагародай Беларусі (Беларускай дзяржавы) і будзе надавацца асобам, якія значна і выключна спрычыніліся да справы абароны і ўмацавання незалежнасці і цэласнасці Беларусі (Беларускай дзяржавы), а таксама паспрыялі яе росквіту і дабрабыту. Адзначаныя пры жыцці ці пасмяротна ўзнагародай асобы ўтвараюць Супольнасць кавалераў і дам Ордэна.

Арт. 3. Знакамі Ордэна з’яўляюцца:
а) ордэнская зорка:
Av: залатая беларуская васьміканцовая рыфленая зорка, у цэнтры якой змешчаны герб “Пагоня”, пакрыты эмаллю чырвонага колеру, з вершнікам серабрыстага колеру. Герб мае аблямоўку з ромбаў серабрыстага колеру. Паміж канцамі зоркі — палоскі з дыяментаў, скіраваныя да цэнтра зоркі;
Rv: адваротны бок зоркі Ордэна ідэнтычны галоўнаму. На адваротным баку або тарцы ў тэхналагічна зручным месцы размяшчаецца нумар і проба;

б) ордэнская стужка і бант:
стужка з ядвабу мае кармазынавы (цёмна-чырвоны) колер і мацуецца з зоркай авальным кальцом для нашэння на шыі. Для нашэння зоркі на грудзях з левага боку прадугледжаны бант са стужкі таго ж матэрыялу і колеру.

Арт. 4. Усе кавалеры і дамы Ордэна аб'ядноўваюцца ў Супольнасць на чале з Вялікім магістрам і Капітулай.

Арт. 5. Вялікі магістр Ордэна абіраецца з кола кавалераў і дам пажыццёва. Урачыстым знакам пасады Вялікага магістра Ордэна з'яўляецца залаты ланцуг з ордэнскай зоркай, апісанай у п. а арт. 3.
Ланцуг з'яўляецца каштоўнасцю і ўласнасцю Беларусі (Беларускай дзяржавы).
Вялікі магістр ажыццяўляе агульнае кіраўніцтва Ордэнам і мае права ініцыяваць рашэнні па ўзнагароджванні Ордэнам.

Арт. 6. Капітула Ордэна складаецца з пяці чалавек, якія абіраюцца з кола кавалераў і дам на тры гады. З іх ліку Вялікі магістр прызначае канцлера, скарбніка, суддзю і сакратара.
На чале Капітулы Ордэна стаіць Вялікі магістр.
Для правамоцнасці пастаноў Капітулы Ордэна дастатковая прысутнасць канцлера і двух чальцоў Капітулы.

Арт. 7. Капітула вырашае справы Ордэна, рыхтуе і падае для зацвярджэння праекты распараджэнняў і пастаноў па справах Ордэна Вялікаму магістру, а таксама мае права ініцыяваць рашэнні па ўзнагароджванні Ордэнам праз складанне намінацыйных спісаў і лістоў.
Пры Капітуле дзейнічае Канцылярыя Ордэна на чале з канцлерам, у склад якой уваходзіць сакратар.

Арт. 8. Ордэнскія знакі пры ўзнагароджванні Ордэнам надае Вялікі магістр паводле складзенага ім дэкрэта.
Дэкрэт аб узнагароджванні Ордэна павінен утрымліваць апісанне заслуг, за якія надаюцца ордэнскія знакі.
Кавалерамі і дамамі Ордэна могуць быць мужчыны і жанчыны, якія ўзнагароджаны адным з Ордэнаў: Пагоні, Усяслава Чарадзея, Нябеснай Апякункі Беларусі, Кастуся Каліноўскага, Жалезнага рыцара.

Арт. 9. Замежныя грамадзяне за выключныя заслугі перад беларускім народам і дзяржавай могуць быць узнагароджаны Ордэнам, але яны не ўваходзяць у склад Капітулы і Супольнасці.

Арт. 10. Усе выдаткі за наданне ордэнскіх знакаў нясе Скарб Ордэна.
Скарб Ордэна фармуецца з 10 % адлічэнняў ад прыбыткаў кавалераў і дам, ахвяраванняў прыватных асоб, а таксама заканадаўча зацверджаных квот з бюджэту Беларускай дзяржавы.
Пасля смерці кавалера ці дамы Ордэна ордэнскія знакі павінны быць вернуты ў Скарб.

Арт. 11. Кавалер або дама Ордэна можа быць пазбаўлены ордэнскіх знакаў за крымінальныя злачынствы і іншыя правіннасці на падставе рашэння Капітулы, зацверджанага Вялікім магістрам.

Арт. 12. Дзейнасць Ордэна, Супольнасці, Капітулы, парадак надання і нашэння ордэнскіх знакаў апісаны ў статуце Ордэна, прынятым пастановай на пасяджэнні Геральдычнай рады "Пагоня".

Арт. 13. Адразу пасля абвяшчэння пастановы аб заснаванні Ордэна ствараецца Часовая рада Ордэна, у склад якой уваходзяць пяць чалавек:

1) Прэзідэнт Рады БНР (кіраўнік);
2) прэзідэнт-элект або яго прадстаўнік;
3) лідар вызвольнага руху або яго прадстаўнік;
4) прадстаўнік беларускіх добраахвотнікаў ва Украіне;
5) старшыня Геральдычнай рады "Пагоня".

Арт. 14. Часовая рада Ордэна прадстаўляе намінацыйныя лісты на ўзнагароджванне ордэнскімі знакамі і выконвае функцыі Капітулы да часу замены яе Капітулай, сфармаванай з кавалераў Ордэна.

Арт. 15. Выкананне гэтай пастановы ўскладаецца на чальцоў Часовай рады Ордэна.

Арт. 16. Пастанова набывае моц у дзень яе прыняцця.

Дата Пячатка, подпіс

# Статут Супольнасці кавалераў і дам

Арт. 1. Ініцыятыва збору Супольнасці кавалераў і дам Ордэна належыць Вялікаму магістру або канцлеру паводле яго даручэння. Колькасць кавалераў і дам Ордэна не павінна перавышаць 72 асобы.

Правы кавалера або дамы Ордэна:
а) атрымоўваць замацаваную законам дзяржаўную пенсію;
б) прадстаўляць Ордэн у палітычных, грамадскіх і дзяржаўных арганізацыях і інстытуцыях;
в) паводле рашэння органаў улады Беларускай дзяржавы, мець у прыватнай уласнасці зямельны надзел у 20 га;
г) карыстацца ўсімі льготамі, замацаванымі заканадаўча для кавалераў Ордэна;
д) прымаць удзел у пабудове Дома кавалераў Ордэна.

Абавязкі кавалера або дамы Ордэна:
а) праслаўляць і абараняць званне кавалера Ордэна;
б) насіць ордэнскія знакі і выконваць статут Ордэна;
в) прымаць удзел у мерапрыемствах Ордэна;
г) браць ініцыятыву і адказнасць на сябе ў крытычных сітуацыях;
д) шанаваць і памятаць памерлых кавалераў і дам Ордэна.

Арт. 2. Збор Супольнасці кавалераў і дам склікаецца для выбараў Вялікага магістра і Капітулы.

Арт. 3. Для правамоцнасці пастаноў Супольнасці кавалераў і дам неабходная прысутнасць Вялікага магістра, канцлера і як найменш трох кавалераў і (або) дам.
Пастановы Супольнасці кавалераў і дам прымаюцца большасцю галасоў прысутных на пасяджэнні. Галасаванне тайнае. Пры роўнасці галасоў вырашальны голас належыць Вялікаму магістру.

## КАПІТУЛА

Арт. 4. Пасяджэнні Капітулы Ордэна склікае Вялікі магістр або канцлер паводле яго даручэння.
Вядзе пасяджэнні Вялікі магістр або канцлер паводле яго даручэння.

Арт. 5. Пасяджэнні Капітулы Ордэна павінны адбывацца не менш чым раз на год.

Арт. 6. Для правамоцнасці рашэнняў Капітулы Ордэна неабходная прысутнасць канцлера і не менш чым трох іншых чальцоў Капітулы.
Пастановы Капітулы Ордэна прымаюцца большасцю галасоў прысутных на пасяджэнні. Галасаванне тайнае. Пры роўнасці галасоў вырашальны голас належыць Вялікаму магістру.

КАНЦЛЕР

Арт. 7. Канцлер кіруе дзейнасцю Канцылярыі і з'яўляецца знешнім прадстаўніком Капітулы. Карэспандэнцыю Капітулы вядзе і падпісвае або канцлер, або сакратар Капітулы ў яго адсутнасць.
Канцлер вядзе Хроніку Ордэна, дзе занатоўвае слаўныя чыны кавалераў і дам і дзейнасць усяго Ордэна.

СКАРБНІК

Арт. 8. Скарбнік выконвае кантроль над бюджэтам і маёмасцю Ордэна.

СУДДЗЯ

Арт. 9. Суддзя Ордэна выконвае верыфікацыю кандыдатаў на атрыманне ордэнскіх знакаў і прадстаўляе сваё заключэнне Капітуле і збору Супольнасці кавалераў і дам.
Суддзя сочыць за выкананнем статутных абавязкаў кавалерамі і дамамі Ордэна.
Суддзя ўзначальвае суд гонару Ордэна, які складаецца з прызначаных Вялікім магістрам двух кавалераў і (або) дам і сакратара.

САКРАТАР

Арт. 10. Сакратар вядзе пратакол пасяджэнняў Капітулы.
Сакратар прымае ўдзел у працы суда гонару Ордэна.

БРАТЭРСТВА ОРДЭНА

Арт. 11. Братэрства складаецца з прыхільнікаў Ордэна, якія добраахвотна, паводле ўласнай заявы ўпісваюцца канцлерам у адмысловы рэестр. Колькасць братоў (сясцёр) Ордэна не абмяжоўваецца.
Браты (сёстры) не з'яўляюцца кавалерамі (дамамі) Ордэна, але маюць права прымаць удзел у публічных урачыстасцях Ордэна.
Знакам прыналежнасці да кола братоў (сясцёр) Ордэна з'яўляецца металічны пазалочаны медаль на белай ядвабнай стужцы:
Av: у цэнтры выява ордэнскай зоркі;
Rv: надпіс "Брат (сястра) Ордэна Герояў Беларусі".

НАДАННЕ ОРДЭНА

Арт. 12. Намінацыйныя лісты на ўзнагароджванне Ордэнам ініцыюе Вялікі магістр, Капітула і збор Супольнасці.

Рашэнне аб наданні Ордэна прымае Капітула або збор Супольнасці кавалераў і дам пасля верыфікацыі асабістых дадзеных суддзёй.

Разам з ордэнскімі знакамі кавалер (дама) паводле яго жадання атрымоўвае ад канцлера дыплом, падпісаны канцлерам і сакратаром. За дыплом прымаецца аплата ў Скарб Ордэна. Памер аплаты вызначае Капітула.

Узнагароджванне адбываецца ва ўрачыстай абстаноўцы, паводле выпрацаванага Капітулай і зацверджанага Вялікім магістрам адмысловага цырыманіялу.

ПАРАДАК НАШЭННЯ ОРДЭНСКІХ ЗНАКАЎ

Арт. 13. Ордэнскія знакі носяцца без дэманстрацыі іншых узнагарод, акрамя ордэнаў Пагоні, Усяслава Чарадзея, Нябеснай Апякункі Беларусі, Кастуся Каліноўскага, Жалезнага рыцара, на фраках, касцюме або нацыянальнай вопратцы, а вайскоўцамі — на парадных мундзірах.

Арт. 14. На звычайнай штодзённай вопратцы носіцца разетка ордэнскай стужкі памерамі 20×20 мм, на штодзённым мундзіры — ордэнская планка памерамі 28×12 мм.

Арт. 15. Святочны дзень Ордэна вызначае Капітула.

Арт. 16. Статут набывае моц у дзень яго прыняцця.

Дата Пячатка, подпіс

# Ордэн Герояў Беларусі
## Візуальна-семантычнае апісанне

Аверс ордэна Герояў Беларусі (далей — Ордэн) уяўляе сабой беларускую васьміканцовую рыфленую зорку залацістага колеру, у цэнтры якой герб “Пагоня”, пакрыты эмаллю чырвонага колеру, з вершнікам серабрыстага колеру.

Герб мае аблямоўку з ромбаў серабрыстага колеру. Паміж канцамі зоркі — палоскі з дыяментаў (усяго — 22 шт.), скіраваныя да цэнтра зоркі ў форме крыжа.

Рэверс зоркі Ордэна ідэнтычны аверсу. На адваротным баку або на тарцы ў тэхналагічна зручным месцы размяшчаецца нумар і проба золата.

Зорка Ордэна носіцца ў якасці шыйнай узнагароды на стужцы кармазынавага (цёмна-чырвонага) колеру з авальным кальцом з сямі дыяментаў або на бантовай калодцы таго ж колеру, з такім жа кальцом, на якім прадугледжана заколка-шпілька для мацавання да адзення.

Памеры калодкі-банта зоркі Ордэна: шырыня ленты — 28 мм, шырыня банта — 46 мм, вышыня банта — 28 мм.

Памеры зоркі Ордэна: вышыня — 40 мм, шырыня — 40 мм.

У аснове задумы сюжэта зоркі Ордэна — спалучэнне традыцыйнай беларускай васьміканцовай зоркі, узятай з іканаграфіі пячатак дынастыі Рагвалодавічаў — князёў Полацкага княства XII ст., і герба ВКЛ “Пагоня” у рэдакцыі перыяду яго дзяржаўнага статусу ў Рэспубліцы Беларусь у 1991–1995 гг. Такі сімбіёз адлюстроўвае Беларусь у яе галоўных гістарычных дзяржаўных формах, а таксама пераемнасць паміж імі. Колькасць дыяментаў, пакладзеных у крыж на зорцы Ордэна, — 22 — сімвалізуе моц, дасягненні, ахвярнасць і перамогу. У сваю чаргу, колькасць дыяментаў на мацавальным кальцы — 7 — сімвалізуе ўдачу, розум, парадак, гармонію і Божы промысел. Кшталт зоркі ордэна Герояў Беларусі ідэнтычны з малымі зоркамі вайсковых рангаў і іншых узнагарод Беларусі, а яе памер у адносінах да іх з’яўляецца сімвалам найвышэйшага і найвялікшага подзвігу ў імя народа і Беларускай дзяржавы. З другога боку, такое завочнае маштабаванне зоркі — ад малой да вялікай — можа сведчыць пра гераічны шлях асобы.

Кармазынавы (цёмна-чырвоны) колер стужкі адсылае да вайсковых сцягоў Полацкага княства, ВКЛ і Рэспублікі Беларусь. Золата ў геральдыцы сведчыць пра перамогу, моц і славу, вопыт і традыцыі, срэбра — пра сумленнасць, ахвярнасць і бескарыслівасць.

Ордэн вырабляецца з золата 999-й пробы і срэбра 925-й пробы.

Знак прыналежнасці
да кола братоў (сясцёр)
Ордэна



ПРАЕКТ

# Ордэн Усяслава Чарадзея

ПАСТАНОВА
ад ________________20___ г.

## Аб заснаванні ордэна Усяслава Чарадзея

Для адзначэння беларусаў за выключныя асабістыя заслугі ў справе дзяржаўнага будаўніцтва, забеспячэння нацыянальнай бяспекі і суверэнітэту Рэспублікі Беларусь, за шматгадовую добрасумленную працу, службу і высокія вынікі ў справе ўмацавання абараназдольнасці краіны, развіцця эканомікі, навукі, адукацыі, культуры, мастацтва, аховы здароўя і іншыя заслугі, улічваючы гістарычныя традыцыі беларускага народа і патрэбу ў аб'яднанні і згуртаванні беларускіх патрыётаў у вызваленні Айчыны, засноўваецца ордэн Усяслава Чарадзея (далей — Ордэн).

Арт. 1. Грамадзяне Рэспублікі Беларусь могуць быць узнагароджаны ордэнам Усяслава Чарадзея пры ўмове, што раней яны былі ўзнагароджаны ордэнамі і крыжамі Беларускай дзяржавы.

Арт. 2. Ордэнам Усяслава Чарадзея могуць быць узнагароджаны вядомыя замежныя палітычныя і грамадскія дзеячы, прадстаўнікі дзелавой супольнасці замежных дзяржаў за заслугі ў развіцці шматбаковай супрацы з Беларускай дзяржавай і аказанні садзейнічання ў яе сацыяльна-эканамічным развіцці.

Арт. 3. Знакамі Ордэна з'яўляюцца:

а) ордэнская зорка:

Av: залатая беларуская васьміканцовая рыфленая зорка, у цэнтры якой герб "Пагоня", пакрыты эмаллю чырвонага колеру, з вершнікам серабрыстага колеру. Герб мае аблямоўку з ромбаў серабрыстага колеру. Паміж канцамі зоркі — палоскі з дыяментаў, скіраваныя да цэнтра зоркі;

Rv: адваротны бок зоркі Ордэна ідэнтычны асабоваму. На адваротным баку або тарцы ў тэхналагічна зручным месцы размяшчаецца нумар і проба;

б) ордэнская стужка:

стужка з ядвабу мае чырвоны колер і мацуецца з зоркай авальным кальцом для нашэння на шыі. Для нашэння зоркі на грудзях

з левага боку прадугледжаны бант са стужкі таго ж матэрыялу і колеру;
в) крыж ордэна Усяслава Чарадзея ўяўляе сабой шасціканцовы лапчаты крыж залацістага колеру, на якім у ніжнім перакрыжаванні круг, пакрыты эмаллю чырвонага колеру, з каймой залацістага колеру. У цэнтры круга маецца васьміканцовая зорка залацістага колеру, на кайме якой надпіс: зверху — "УСЯСЛАЎ", знізу — "ПОЛАЦКІ" таго ж колеру. Шчыт увенчаны каронай залацістага колеру з верхам, пакрытым эмаллю чырвонага колеру. Пад шчытом на слупе крыжа маецца меч залацістага колеру з рукаяццю, накіраванай уніз.

Арт. 4. Усе кавалеры і дамы Ордэна аб'ядноўваюцца ў Супольнасць на чале з Вялікім магістрам і Капітулай.

Арт. 5. Вялікі магістр Ордэна выбіраецца з кола кавалераў і дам пажыццёва. Урачыстым знакам пасады Вялікага магістра Ордэна з'яўляецца залаты ланцуг з ордэнскай зоркай, апісанай у п. а арт. 3. Ланцуг з'яўляецца каштоўнасцю і ўласнасцю Беларускай дзяржавы. Вялікі магістр ажыццяўляе агульнае кіраўніцтва Ордэнам і мае права ініцыяваць рашэнні па ўзнагароджанні Ордэнам.

Арт. 6. Капітула Ордэна складаецца з пяці чалавек, якія выбіраюцца з кола кавалераў і дам на тры гады. Сярод іх Вялікі магістр прызначае канцлера, скарбніка, суддзю і сакратара.
На чале Капітулы Ордэна стаіць Вялікі магістр.
Для прыняцця пастаноў Капітулы Ордэна дастатковая прысутнасць канцлера і двух чальцоў Капітулы.

Арт. 7. Капітула вырашае справы Ордэна, рыхтуе і падае для зацвярджэння праекты распараджэнняў і пастаноў па справах Ордэна Вялікаму магістру, а таксама мае права ініцыяваць рашэнні па ўзнагароджанні Ордэнам праз складанне намінацыйных спісаў і лістоў.
Пры Капітуле дзейнічае Канцылярыя Ордэна на чале з канцлерам, у склад якой уваходзіць сакратар.

Арт. 8. Ордэнскія знакі пры ўзнагароджванні Ордэнам надае Вялікі магістр сваім дэкрэтам.
Дэкрэт аб узнагароджванні Ордэна павінен утрымліваць апісанне заслуг, за якія надаюцца ордэнскія знакі.
Кавалерамі і дамамі Ордэна могуць быць мужчыны і жанчыны, якія ўзнагароджаны адным з ордэнаў: Пагоні, Нябеснай Апякункі

Беларусі, Кастуся Каліноўскага, Жалезнага рыцара, а таксама крыжамі Беларускай дзяржавы.

Арт. 9. Замежныя грамадзяне за выключныя заслугі перад беларускім народам і дзяржавай могуць быць узнагароджаны Ордэнам, але яны не ўваходзяць у склад Капітулы і Супольнасці.

Арт. 10. Усе выдаткі за наданне ордэнскіх знакаў нясе Скарб Ордэна.
Скарб Ордэна фармуецца з 10 % адлічэнняў ад прыбыткаў кавалераў і дам, ахвяраванняў прыватных асоб, а таксама заканадаўча зацверджаных квотаў з бюджэту Беларускай дзяржавы.
Пасля смерці кавалера або дамы Ордэна ордэнскія знакі павінны быць вернуты ў Скарб.

Арт. 11. Кавалер ці дама Ордэна можа быць пазбаўлены ордэнскіх знакаў за крымінальныя злачынствы і іншыя правіннасці на падставе рашэння Капітулы, зацверджанай Вялікім Магістрам.

Арт. 12. Дзейнасць Ордэна, Супольнасці, Капітулы, парадак надання і нашэння ордэнскіх знакаў апісаны ў статуце Ордэна, прынятым пастановай на пасяджэнні Геральдычнай рады “Пагоня”.

Арт. 13. Адразу пасля абвяшчэння пастановы аб заснаванні Ордэна ствараецца Часовая рада Ордэна, у склад якой уваходзяць пяць чалавек:

1) Прэзідэнт Рады БНР (кіраўнік);
2) прэзідэнт-элект або яго прадстаўнік;
3) лідар вызвольнага руху або яго прадстаўнік;
4) прадстаўнік беларускіх добраахвотнікаў ва Украіне;
5) старшыня Геральдычнай рады “Пагоня”.

Арт. 14. Часовая рада Ордэна прадстаўляе намінацыйныя лісты на ўзнагароджванне ордэнскімі знакамі і выконвае функцыі Капітулы да часу замены яе Капітулай з кавалераў і дам Ордэна.

Арт. 15. Выкананне гэтай пастановы ўскладаецца на чальцоў Часовай рады Ордэна.

Арт. 16. Пастанова набывае моц у дзень яе прыняцця.

Дата                                        Пячатка, подпіс

# Статут ордэна Усяслава Чарадзея

СУПОЛЬНАСЦЬ КАВАЛЕРАЎ І ДАМ

Арт. 1. Збор Супольнасці кавалераў і дам ордэна Усяслава Чарадзея (далей — Ордэна) ініцыюе Вялікі магістр або канцлер паводле яго даручэння.
Колькасць чальцоў Ордэна не павінна перавышаць 72 асобы.

Правы кавалера (дамы) Ордэна:
- а) атрымоўваць замацаваную законам дзяржаўную пенсію;
- б) прадстаўляць Ордэн у палітычных, грамадскіх і дзяржаўных арганізацыях і інстытуцыях;
- в) паводле рашэння органаў улады Беларускай дзяржавы, мець у прыватнай уласнасці зямельны надзел у 20 га;
- г) карыстацца ўсімі льготамі, замацаванымі заканадаўча для кавалераў і дам Ордэна;
- д) прымаць удзел у пабудове Дома супольнасці Ордэна.

Абавязкі кавалера (дамы) Ордэна:
- а) праслаўляць і абараняць званне кавалера (дамы) Ордэна;
- б) насіць ордэнскія знакі і выконваць статут Ордэна;
- в) прымаць удзел у мерапрыемствах Ордэна;
- г) браць ініцыятыву і адказнасць на сябе ў крытычных сітуацыях;
- д) шанаваць і памятаць памерлых кавалераў і дам Ордэна.

Арт. 2. Збор Супольнасці кавалераў і дам склікаецца для выбараў Вялікага магістра і Капітулы.

Арт. 3. Для правамоцнасці пастаноў Супольнасці кавалераў і дам неабходная прысутнасць Вялікага магістра, канцлера і не менш чым трох чальцоў.
Пастановы Супольнасці кавалераў і дам прымаюцца большасцю галасоў прысутных на пасяджэнні. Галасаванне тайнае. Пры роўнасці галасоў вырашальны голас мае Вялікі магістр.

КАПІТУЛА

Арт. 4. Пасяджэнні Капітулы Ордэна склікае Вялікі магістр або канцлер паводле яго даручэння.
Вядзе пасяджэнні Вялікі магістр або канцлер па яго даручэнні.

Арт. 5. Пасяджэнні Капітулы Ордэна павінны адбывацца не менш аднаго разу на год.

Арт. 6. Для правамоцнасці рашэнняў Капітулы Ордэна неабходная прысутнасць канцлера і не менш чым трох іншых чальцоў Капітулы.
Пастановы Капітулы Ордэна прымаюцца большасцю галасоў прысутных на пасяджэнні. Галасаванне тайнае. Пры роўнасці галасоў вырашальны голас належыць Вялікаму магістру.

## КАНЦЛЕР

Арт. 7. Канцлер кіруе дзейнасцю Канцылярыі і з'яўляецца знешнім прадстаўніком Капітулы. Карэспандэнцыю Капітулы вядзе і падпісвае або канцлер, або сакратар Капітулы ў яго адсутнасць.
Канцлер вядзе Хроніку Ордэна, дзе занатоўвае слаўныя чыны кавалераў і дам і дзейнасць усяго Ордэна.

## СКАРБНІК

Арт. 8. Скарбнік выконвае кантроль за бюджэтам і маёмасцю Ордэна.

## СУДДЗЯ

Арт. 9. Суддзя Ордэна выконвае верыфікацыю кандыдатаў на атрыманне ордэнскіх знакаў і прадстаўляе сваё заключэнне Капітуле і збору Супольнасці кавалераў і дам.
Суддзя сочыць за выкананнем статутных абавязкаў кавалерамі і дамамі Ордэна.
Суддзя ўзначальвае суд гонару Ордэна, які складаецца з прызначаных Вялікім магістрам двух кавалераў (дам) і сакратара.

## САКРАТАР

Арт. 10. Сакратар вядзе пратакол пасяджэнняў Капітулы.
Сакратар прымае ўдзел у працы суда гонару Ордэна.

## БРАТЭРСТВА ОРДЭНА

Арт. 11. Братэрства складаецца з прыхільнікаў Ордэна, якія добраахвотна, паводле ўласнай заявы ўпісваюцца канцлерам у адмысловы рэестр. Колькасць братоў (сясцёр) Ордэна не абмяжоўваецца.
Браты (сёстры) не з'яўляюцца кавалерамі (дамамі) Ордэна, але маюць права прымаць удзел у публічных урачыстасцях Ордэна.
Знакам прыналежнасці да кола братоў (сясцёр) Ордэна з'яўляецца металічны пазалочаны медаль на чырвонай ядвабнай стужцы:
Av: у цэнтры выява ордэнскай зоркі;
Rv: надпіс "Брат (сястра) ордэна Усяслава Чарадзея".

## НАДАННЕ ОРДЭНА

Арт. 12. Намінацыйныя лісты на ўзнагароджванне Ордэна ініцыюе Вялікі магістр, Капітула і збор Супольнасці кавалераў і дам.

Рашэнне аб наданні Ордэна прымае Капітула або збор Супольнасці кавалераў і дам пасля верыфікацыі асабістых дадзеных суддзёй.

Разам з ордэнскімі знакамі кавалер (дама) паводле яго (яе) жадання атрымоўвае ад канцлера дыплом, падпісаны канцлерам і сакратаром. За дыплом бярэцца аплата ў Скарб Ордэна. Памер аплаты вызначае Капітула.

Узнагароджванне адбываецца ва ўрачыстай абстаноўцы, паводле выпрацаванага Капітулай і зацверджанага Вялікім магістрам адмысловага цырыманіялу.

## ПАРАДАК НАШЭННЯ ОРДЭНСКІХ ЗНАКАЎ

Арт. 13. Ордэнскія знакі Ордэна носяцца без дэманстрацыі іншых узнагарод, акрамя ордэнаў Пагоні, Нябеснай Апякункі Беларусі, Кастуся Каліноўскага, Жалезнага рыцара, на фраках, касцюме або нацыянальнай вопратцы, а вайскоўцамі — на парадных мундзірах.

Арт. 14. На звычайнай штодзённай вопратцы носіцца бант з ордэнскай стужкі памерамі 28×12 мм, на штодзённым мундзіры — ордэнская планка памерамі 28×12 мм.

Арт. 15. Святочны дзень Ордэна вызначае Капітула.

Арт. 16. Статут набывае моц у дзень яго прыняцця.

Дата Пячатка, подпіс

# Ордэн Усяслава Чарадзея.
Візуальна-семантычнае апісанне

Ордэн Усяслава Чарадзея складаецца з ордэнскіх зоркі, крыжа і стужкі праз плячо. Зорка Ордэна ўяўляе сабой васьміканцовую рыфленую зорку серабрыстага колеру, у цэнтры якой шасціканцовы лапчаты крыж залацістага колеру, на якім у ніжнім перакрыжаванні круг, пакрыты эмаллю чырвонага колеру, з каймой залацістага колеру. У цэнтры круга маецца васьміканцовая зорка залацістага колеру, на кайме надпіс: зверху — “УСЯСЛАЎ”, знізу — “ПОЛАЦКІ” таго ж колеру. Шчыт увенчаны каронай залацістага колеру з верхам, пакрытым эмаллю чырвонага колеру. Пад шчытом на слупе крыжа — меч залацістага колеру з рукаяццю, накіраванай уніз.

Адваротны бок зоркі Усяслава Чарадзея гладкі, у ніжняй частцы размешчаны нумар і проба. Зорка мацуецца да адзення пры дапамозе заколкі-шпількі.

Памеры зоркі ордэна Усяслава Чарадзея: вышыня — 85 мм, шырыня — 85 мм. Памеры крыжа на зорцы ордэна Усяслава Чарадзея: вышыня — 50 мм, шырыня — 37 мм.

Стужка ордэна Усяслава Чарадзея праз плячо чырвонага колеру з каймой па баках жоўтага колеру. Шырыня стужкі — 95 мм, шырыня палосак каймы — 10 мм.

Крыж ордэна Усяслава Чарадзея ўяўляе шасціканцовы лапчаты крыж залацістага колеру, на якім у ніжнім перакрыжаванні круг, пакрыты эмаллю чырвонага колеру, з каймой залацістага колеру. У цэнтры круга — васьміканцовая зорка залацістага колеру, на кайме надпіс: зверху — “УСЯСЛАЎ”, знізу — “ПОЛАЦКІ” таго ж колеру. Шчыт увенчаны каронай залацістага колеру з верхам, пакрытым эмаллю чырвонага колеру. Пад шчытом на слупе крыжа маецца меч залацістага колеру з рукаяццю, скіраванай уніз.

Адваротны бок крыжа ордэна Усяслава Чарадзея ідэнтычны асабоваму. На адваротным баку або тарцы ў тэхналагічна зручным месцы размяшчаецца нумар і проба.

Крыж мацуецца да калодкі-банта пры дапамозе вушка, кальца і авальнага кальца банта, на якім прадугледжана заколка-шпілька для мацавання да адзення. Лента калодкі-банта чырвонага колеру з каймой па баках жоўтага колеру.

Памеры калодкі-банта ордэна Усяслава Чарадзея: шырыня ленты — 28 мм, шырыня палосак каймы — 2 мм, шырыня банта — 46 мм, вышыня банта — 28 мм.

Памеры крыжа ордэна Усяслава Чарадзея: вышыня — 50 мм, шырыня — 32 мм.

У аснове задумы сюжэта Ордэна — шасціканцовы крыж, ён жа Чэсны, ці Святы, крыж, які выкарыстоўваўся ў якасці галоўнага сімвала полацкай княжацкай дынастыяй Рагвалодавічаў і Усяславам Брачыславічам (Усяславам Чарадзеем) у прыватнасці. Святы крыж як хрысціянскі сімвал трактаваўся ім як духоўная зброя на "бесы", ворагаў і здраднікаў веры, народа і дзяржавы. На крыжы змешчаны круглы чырвоны княжацкі шчыт з залатой васьміканцовай зоркай, узятай з аўтэнтычнай сфрагістыкі полацкіх князёў XII ст. Пад шчыт падкладзены меч вастрыём уверх — матэрыяльны адпаведнік духоўнай сілы крыжа і сімвал княжацкай улады, над шчытом — карона, якая па рангу адпавядае вялікім князям. Яна з'яўляецца рэканструкцыяй кароны з партрэта Усяслава Брачыславіча з "Радзівілаўскага летапісу" XV ст.

Чырвоны колер стужкі паўтарае колер поля княжацкага шчыта, падкрэслівае княжацкую ўладу, а таксама колеры харугваў дружыны Усяслава Брачыславіча, вядомыя па мініяцюрах з "Радзівілаўскага летапісу". Залатая кайма адпавядае металу васьміканцовай зоркі і сімвалізуе росквіт Полацкага княства пры гаспадаранні Усяслава Брачыславіча, яго моц і славу, беларускія ўяўленні і традыцыі ў адлюстраванні багацця, перамогі, найвышэйшых дасягненняў.

Ордэн вырабляецца з золата 999-й пробы і срэбра 925-й пробы.

Урачысты знак пасады
Вялікага магістра Ордэна





ОРДЭН УСЯСЛАВА ЧАРАДЗЕЯ

нададзены

№

ПРАЕКТ

# Ордэн Нябеснай Апякункі Беларусі

ПАСТАНОВА

ад ________________20___ г.

## Аб заснаванні ордэна Нябеснай Апякункі Беларусі

З мэтай адзначэння беларускіх жанчын за іх гераічныя ўчынкі, здзейсненыя з рызыкай для жыцця і здароўя, ва ўмовах адсутнасці легітымных дзяржаўных інстытутаў і ў сітуацыі беззаконня ў Рэспубліцы Беларусь, на падставе Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г., улічваючы гістарычныя традыцыі беларускага народа і патрэбу ў аб'яднанні і згуртаванні беларускіх патрыётак у вызваленні Айчыны, засноўваецца ордэн Нябеснай Апякункі Беларусі (далей — Ордэн).

Арт. 1. Ордэн засноўваецца для адзначэння і ўзнагароджвання найвышэйшых грамадзянскіх (цывільных) заслуг беларускіх жанчын, здзейсненых у славу і на карысць беларускаму народу і дзяржаве.

Арт. 2. Ордэн надаецца асобам, якія значна і выключна спрычыніліся ў справе змагання за правы і свабоды чалавека, адстойванні, у тым ліку са зброяй у руках, нацыянальных інтарэсаў, дэмакратыі і незалежнасці Беларусі (Беларускай дзяржавы), а таксама паспрыялі яе славе і прэстыжу на міжнароднай арэне. Адзначаныя пры жыцці ці пасмяротна ўзнагародай асобы ўтвараюць Згуртаванне дам Ордэна.

Арт. 3. Знакамі Ордэна з'яўляюцца зорка, крыж, ланцуг і стужка:

а) ордэнская зорка:

Av: васьміканцовая рыфленая зорка серабрыстага колеру, у цэнтры якой — ордэнскі крыж;

Rv: адваротны бок зоркі Ордэна гладкі, у ніжняй частцы размешчаны нумар і проба металу;

б) ордэнскі крыж:

Av: залаты чатырохканцовы лапчата-вырубны крыж з упрыгожаннямі па канцах у выглядзе маленькіх шарыкаў, пакрыты эмаллю белага колеру, на якім маецца залаты авальны шчыт, размешчаны вертыкальна. У цэнтры авала размешчана

рэльефная выява Багародзіцы з Дзіцём Ісусам, за якімі прамяні сонца. Авал мае кайму, пакрытую эмаллю белага колеру, на якой надпіс: "INGENTIBUS AUSIS QUO VIS MONSTRAT ITER" ("Ён паказвае шлях да вялікіх здзяйсненняў") серабрыстага колеру. Паміж канцамі крыжа залатыя выявы герба "Пагоня" у выглядзе вершніка з шабляй, які адпавядае ваяру лёгкай кавалерыі Вялікага Княства Літоўскага другой паловы XVII ст.;

Rv: адваротны бок крыжа Ордэна ідэнтычны апісанаму;

в) ордэнскі ланцуг:

залаты ланцуг Ордэна складаецца з 40 звёнаў, якія ўяўляюць сабой пачаргова злучаныя выявы беларускіх васьміканцовых зорак (20 шт.), геральдычных лілей (10 шт.) і палаючых сэрцаў (10 шт.). Да ланцуга пры дапамозе княжацкай мітры залацістага колеру мацуецца ордэнскі крыж;

г) ордэнская стужка:

стужка з ядвабу мае белы колер з блакітнымі палоскамі па краях.

Арт. 4. Усе дамы Ордэна аб'ядноўваюцца ў Згуртаванне дам на чале са Спадарыняй пратэктаркай і Капітулай.

Арт. 5. Спадарыня пратэктарка Ордэна выбіраецца Згуртаваннем з кола дам Ордэна на сем гадоў. Колькасць дазволеных непарыўных кадэнцый — дзве. Урачыстым знакам пасады Спадарыні пратэктаркі Ордэна з'яўляецца залаты ланцуг з ордэнскай зоркай, апісанай у п. а арт. 3.

Ланцуг Ордэна з'яўляецца каштоўнасцю і ўласнасцю Беларускай дзяржавы.

Спадарыня пратэктарка ажыццяўляе агульнае кіраўніцтва Ордэнам і мае права ініцыяваць рашэнні па ўзнагароджанні Ордэнам.

Арт. 6. Капітула Ордэна складаецца з пяці чалавек, якія выбіраюцца з кола дам на пяць гадоў. Сярод іх Спадарыня пратэктарка прызначае спадарыняў канцлерку, скарбніцу, суддзю і сакратарку.

На чале Капітулы Ордэна стаіць Спадарыня пратэктарка.

Для прыняцця пастаноў Капітулы Ордэна дастатковая прысутнасць канцлера і двух чальцоў Капітулы.

Арт. 7. Капітула вырашае справы Ордэна, рыхтуе і падае для зацвярджэння праекты распараджэнняў і пастаноў па справах Ордэна Спадарыні пратэктарцы, а таксама мае права ініцыяваць рашэнні па ўзнагароджанні Ордэнам праз складанне намінацыйных спісаў і лістоў.

Пры Капітуле дзейнічае Канцылярыя Ордэна на чале са спадарыняй канцлеркай, у склад якой уваходзіць спадарыня сакратарка.

Арт. 8. Ордэнскія знакі пры ўзнагароджванні Ордэнам надае Спадарыня пратэктарка сваім прывілеем.
Прывілей аб узнагароджванні Ордэнам павінен утрымліваць апісанне заслуг, за якія надаюцца ордэнскія знакі.
Дамамі Ордэна могуць быць жанчыны, якія ўзнагароджаны адным з крыжоў: Ахвярнасці Эміліі Плятэр, Партызанскім народным крыжам, Свабоды, Адраджэння Беларусі, Добрасуседства.
Ордэнам могуць быць узнагароджаны мужчыны, якія маюць адзін з крыжоў: Змагання Тадэвуша Касцюшкі, Партызанскі народны крыж, Свабоды, Адраджэння Беларусі, Добрасуседства.
Мужчыны, узнагароджаныя Ордэнам, носяць званне рыцара, не ўваходзяць у склад Капітулы, але могуць удзельнічаць у пасяджэннях Згуртавання дам.
Мужчыны (рыцары Ордэна) утвараюць Гвардыю аховы на чале са стражнікам, якога яны выбіраюць на сваім сходзе (пачатковы мінімальны кворум у тры чалавекі), а зацвярджае кандыдатуру Спадарыня пратэктарка.
Стражнік Ордэна ўваходзіць у склад Капітулы Ордэна.

Арт. 9. Замежныя грамадзянкі, якія маюць крыж Добрасуседства, за выключныя заслугі перад беларускім народам і дзяржавай могуць быць узнагароджаны Ордэнам, але яны не ўваходзяць у склад Капітулы і Згуртавання дам.

Арт. 10. Усе выдаткі за наданне ордэнскіх знакаў нясе Скарб Ордэна.
Скарб Ордэна фармуецца з 10 % адлічэнняў з прыбыткаў дам (рыцараў), ахвяраванняў прыватных асоб, а таксама заканадаўча зацверджаных квотаў з бюджэту Беларускай дзяржавы.
Пасля смерці дамы (рыцара) Ордэна ордэнскія знакі павінны быць вернуты ў Скарб.

Арт. 11. Дама (рыцар) Ордэна можа быць пазбаўлена ордэнскіх знакаў за крымінальныя злачынствы і іншыя правіннасці на падставе рашэння Капітулы, зацверджанага Спадарыняй пратэктаркай.

Арт. 12. Дзейнасць Ордэна, Згуртавання дам, Капітулы, парадак надання і нашэння ордэнскіх знакаў апісаны ў статуце Ордэна, прынятым пастановай на пасяджэнні Геральдычнай рады “Пагоня”.

Арт. 13. Пасля абвяшчэння пастановы аб заснаванні Ордэна ствараецца Часовая рада Ордэна, у склад якой уваходзяць пяць чалавек:

1) Прэзідэнт Рады БНР (кіраўнік);
2) прэзідэнт-элект або яго прадстаўнік;
3) лідар вызвольнага руху або яго прадстаўнік;
4) прадстаўнік беларускіх добраахвотнікаў ва Украіне;
5) старшыня Геральдычнай рады "Пагоня".

Арт. 14. Часовая рада Ордэна прадстаўляе намінацыйныя лісты на ўзнагароджванне ордэнскімі знакамі і выконвае функцыі Капітулы да часу замены яе Капітулай, сфармаванай з дам Ордэна.

Арт. 15. Выкананне гэтай пастановы ўскладаецца на чальцоў Часовай рады Ордэна.

Арт. 16. Пастанова набывае моц у дзень яе прыняцця.

Дата Пячатка, подпіс

# Статут ордэна Нябеснай Апякункі Беларусі

## ЗГУРТАВАННЕ ДАМ ОРДЭНА

Арт. 1. Сход Згуртавання дам Ордэна ініцыюе Спадарыня пратэктарка або спадарыня канцлерка паводле яе даручэння.
Колькасць дам (без уліку рыцараў) Ордэна не павінна перавышаць 100 асоб. Колькасць рыцараў — 100 асоб.

Правы дамы (рыцара) Ордэна:
а) атрымоўваць замацаваную законам дзяржаўную пенсію;
б) прадстаўляць Ордэн у палітычных, грамадскіх і дзяржаўных арганізацыях і інстытуцыях;
в) карыстацца ўсімі льготамі, замацаванымі заканадаўча для дам (рыцараў) Ордэна;
г) насіць біжутэрыю з сімволікай Ордэна;
д) засноўваць ад імя Ордэна дабрачынныя фундацыі.

Абавязкі дамы (рыцара) Ордэна:
а) праслаўляць і абараняць званне дамы (рыцара) Ордэна;
б) насіць ордэнскія знакі і выконваць статут Ордэна;
в) прымаць удзел у мерапрыемствах Ордэна;
г) служыць дапамогай пры шпіталях і турмах;
д) праяўляць міласэрнасць, дапамагаць хворым і ўбогім;
е) маліцца за нацыю, за росквіт і дабрабыт Беларусі;
ж) маліцца за памерлых дам (рыцараў) Ордэна.

Арт. 2. Сход Згуртавання дам склікаецца для выбараў Спадарыні пратэктаркі і Капітулы.

Арт. 3. Для правамоцнасці пастаноў Згуртавання дам неабходная прысутнасць Спадарыні пратэктаркі, спадарыні канцлеркі і не менш чым трох дам.
Пастановы Згуртавання дам прымаюцца большасцю галасоў прысутных на пасяджэнні. Галасаванне тайнае. Пры роўнасці галасоў вырашальны голас належыць Спадарыні пратэктарцы.

## КАПІТУЛА

Арт. 4. Пасяджэнні Капітулы Ордэна склікае Спадарыня пратэктарка або спадарыня канцлерка паводле яе даручэння.
Вядзе пасяджэнні Спадарыня пратэктарка або спадарыня канцлерка паводле яе даручэння.

Арт. 5. Пасяджэнні Капітулы Ордэна павінны адбывацца як найменш чатыры разы на год.

Арт. 6. Для правамоцнасці рашэнняў Капітулы Ордэна неабходная прысутнасць спадарыні канцлеркі і не менш чым трох іншых чальцоў Капітулы.
Пастановы Капітулы Ордэна прымаюцца большасцю галасоў прысутных на пасяджэнні. Галасаванне тайнае. Пры роўнасці галасоў вырашальны голас належыць Спадарыні пратэктарцы.

## СПАДАРЫНЯ КАНЦЛЕРКА

Арт. 7. Спадарыня канцлерка кіруе дзейнасцю Канцылярыі і з'яўляецца знешнім прадстаўніком Капітулы. Карэспандэнцыю Капітулы вядзе і падпісвае або спадарыня канцлерка, або спадарыня сакратарка Капітулы ў яе адсутнасць.
Спадарыня канцлерка вядзе Хроніку Ордэна, дзе занатоўвае слаўныя чыны дам (рыцараў) і дзейнасць усяго Ордэна.

## СПАДАРЫНЯ СКАРБНІЦА

Арт. 8. Спадарыня скарбніца выконвае кантроль над бюджэтам і маёмасцю Ордэна.

## СПАДАРЫНЯ СУДДЗЯ

Арт. 9. Спадарыня суддзя Ордэна выконвае верыфікацыю кандыдатаў на атрыманне ордэнскіх знакаў і прадстаўляе сваё заключэнне Капітуле і Згуртаванню дам.
Спадарыня суддзя сочыць за выкананнем статутных абавязкаў дамамі (рыцарамі) Ордэна.
Спадарыня суддзя ўзначальвае суд гонару Ордэна, які складаецца з прызначаных Спадарыняй пратэктарам дзвюх дам і спадарыні сакратаркі.

## СПАДАРЫНЯ САКРАТАРКА

Арт. 10. Спадарыня сакратарка вядзе пратакол пасяджэнняў Капітулы.
Спадарыня Сакратарка прымае ўдзел у працы суда гонару Ордэна.

## БРАТЭРСТВА ОРДЭНА

Арт. 11. Братэрства складаецца з прыхільнікаў Ордэна, якія добраахвотна, паводле ўласнай заявы ўпісваюцца спадарыняй канцлеркай у адмысловы рэестр. Колькасць братоў (сясцёр) Ордэна не абмяжоўваецца.

Браты (сёстры) не з'яўляюцца дамамі ці кавалерамі Ордэна, але маюць права прымаць удзел у публічных урачыстасцях Ордэна.
Знакам прыналежнасці да кола братоў ці сясцёр Ордэна з'яўляецца металічны пазалочаны медаль на блакітнай ядвабнай стужцы:

Av: у цэнтры выява ордэнскай зоркі;

Rv: надпіс "Брат (сястра) ордэна Багародзіцы".

НАДАННЕ ОРДЭНА

Арт. 12. Намінацыйныя лісты на ўзнагароджванне Ордэнам ініцыюе Спадарыня пратэктарка, Капітула і сход Згуртавання дам.
Рашэнне аб наданні Ордэна прымае Капітула або сход Згуртавання дам пасля верыфікацыі асабістых дадзеных спадарыняй суддзёй.
Разам з ордэнскімі знакамі дама атрымоўвае ад спадарыні канцлеркі дыплом, падпісаны спадарыняй канцлеркай і сакратаркай. За дыплом бярэцца аплата ў Скарб Ордэна. Памер аплаты вызначае Капітула.
Узнагароджванне адбываецца ва ўрачыстай абстаноўцы, паводле выпрацаванага Капітулай і зацверджанага Спадарыняй пратэктаркай адмысловага цырыманіялу.

ПАРАДАК НАШЭННЯ ОРДЭНСКІХ ЗНАКАЎ

Арт. 13. Знакі Ордэна носяцца без дэманстрацыі іншых узнагарод, акрамя ордэнаў Пагоні, Усяслава Чарадзея, Кастуся Каліноўскага, Жалезнага рыцара, на сукенках, касцюме або нацыянальнай вопратцы, а вайскоўцамі — на парадных мундзірах.

КОЛЕРЫ АДЗЕННЯ ДАМ ОРДЭНА

Арт. 14. Вопратка дам Ордэна на ордэнскіх урачыстасцях і сходах павінна быць адзінага колеру, напрыклад, белага ці блакітнага або іх спалучэнняў.

Арт. 15. На звычайным паўсядзённым адзенні носіцца разетка з ордэнскай стужкі памерам 20×20 мм, на мундзіры — ордэнская планка памерам 28×12 мм.

Арт. 16. Святочны дзень Ордэна вызначае Капітула.

Арт. 17. Статут набывае моц у дзень яго прыняцця.

Дата Пячатка, подпіс

# Ордэн Нябеснай Апякункі Беларусі. Візуальна-семантычнае апісанне

Ордэн Нябеснай Апякункі Беларусі (далей — Ордэн) складаецца з зоркі, ланцуга, крыжа і стужкі.

Зорка Ордэна ўяўляе сабой васьміканцовую рыфленую зорку серабрыстага колеру, у цэнтры якой — ордэнскі крыж. Адваротны бок зоркі Ордэна гладкі, у ніжняй частцы размешчаны нумар і проба металу. Зорка мацуецца да адзення пры дапамозе заколкі-шпількі.

Памеры зоркі Ордэна: вышыня — 85 мм, шырыня — 85 мм.

Памеры крыжа на ордэнскай зорцы: вышыня — 55 мм, шырыня — 55 мм.

Ланцуг Ордэна залацістага колеру складаецца з 40 звёнаў, якія ўяўляюць сабой пачаргова злучаныя выявы беларускіх васьміканцовых зорак (20 шт.), геральдычных лілей (10 шт.) і палаючых сэрцаў (10 шт.). Да ланцуга пры дапамозе княжацкай мітры залацістага колеру мацуецца ордэнскі крыж.

Памеры звёнаў ланцуга:

– васьміканцовай зоркі: вышыня — 21 мм, шырыня — 21 мм;

– лілеі: вышыня — 27 мм, шырыня — 18 мм;

– палаючага сэрца: вышыня — 26 мм, шырыня — 18 мм.

Агульная даўжыня ланцуга ў 80 мм рэгулюецца пры неабходнасці.

Крыж Ордэна ўяўляе сабой чатырохканцовы лапчата-вырубны крыж залацістага колеру з упрыгожаннямі па канцах у выглядзе шарыкаў, пакрыты эмаллю белага колеру, на якім маецца авал залацістага колеру, размешчаны вертыкальна. У цэнтры авала — рэльефная выява Багародзіцы з Дзіцём Ісусам залацістага колеру, за якімі прамяні сонца таго ж колеру. Авал мае кайму, пакрытую эмаллю белага колеру, на якой надпіс “INGENTIBUS AUSIS QUO VIS MONSTRAT ITER” (“Ён паказвае шлях да вялікіх здзяйсненняў”) серабрыстага колеру. Паміж канцамі крыжа выявы герба “Пагоня” залацістага колеру ў выглядзе вершніка з шабляй, які адпавядае ваяру лёгкай кавалерыі Вялікага Княства Літоўскага другой паловы XVII ст. Адваротны бок крыжа Нябеснай Апякункі Беларусі ідэнтычны апісанаму. Акрамя таго, на ім унізе або на тарцы ў тэхналагічна зручным месцы размяшчаецца нумар і проба металу. Ордэнскі крыж мацуецца да вертыкальнай шасціканцовай калодкі з трапецападобным долам серабрыстага колеру пры дапамозе вушка. На калодцы размешчана стужка шырынёй 28 мм белага колеру з падвойнай аблямоўкай блакітнага колеру. Крыж ордэна Нябеснай Апякункі Беларусі мацуецца да адзення пры дапамозе заколкі-шпількі.

Памеры ордэнскага крыжа: вышыня — 37 мм, шырыня — 37 мм. Вышыня калодкі — 50 мм, шырыня калодкі — 28 мм, шырыня палосак — 2 мм.

Стужка Ордэна праз плячо белага колеру з падвойнай каймой па баках блакітнага колеру. Шырыня стужкі — 95 мм, шырыня палосак каймы — 6 мм.

У аснове задумы сюжэта Ордэна — спалучэнне лапчата-вырубнога крыжа мальтыйскага тыпу, абраза Багародзіцы з Дзіцём Ісусам на руках у сонечных прамянях і чатырох гербавых выяў "Пагоні". Гэта з'яўляецца запазычаннем у новай рэдакцыі пэўных элементаў надворнага (хатняга) ордэна Яніны караля польскага і вялікага князя літоўскага Яна III Сабескага (1674–1696), праект якога не быў ажыццёўлены ў Рэчы Паспалітай. Ордэнскі знак вядомы ў адзіным экзэмпляры, які паходзіць са скарбніцы князёў Радзівілаў у Нясвіжы (сёння захоўваецца ў зборах Каралеўскага замка ў Варшаве).

Усе іканаграфічныя элементы Ордэна сімвалізуюць Радзіму-маці. Багародзіца з'яўляецца Нябеснай Апякункай Беларусі для ўсіх традыцыйных хрысціянскіх канфесій краіны, а "Пагоня" — гербам ВКЛ і Рэспублікі Беларусь. Выкарыстанне на ордэнскім знаку стылізаванага пад XVII ст. вершніка з шабляй чатыры разы ўказвае на чатыры бакі свету — поўнач, поўдзень, захад, усход, куды распаўсюджваецца дзейнасць Ордэна. Надпіс "INGENTIBUS AUSIS QUO VIS MONSTRAT ITER" ("Ён паказвае шлях да вялікіх здзяйсненняў") падкрэслівае Боскі пачатак гэтай дзейнасці.

Зорка, лілея, палаючае сэрца — традыцыйныя атрыбуты, спадарожныя вобразу Багародзіцы — Панны Марыі. Зорка ў хрысціянскай сімволіцы пазначае паняцці "Бог", "сонца", "неба". Яна адпавядае беларускай васьміканцовай зорцы, якая прысутнічае ў іншых беларускіх узнагародах і вайсковых рангах. Лілея з'яўляецца геральдычным сімвалам Панны Марыі і азначае яе чысціню і шляхетнасць. Палаючае сэрца — рэлігійны сімвал Багародзіцы, які мае назву "Удзячнае сэрца" і сведчыць пра яе гарачую любоў і міласэрнасць да людзей. Паводле хрысціянскага разумення, промні сонца ў вобразе Багародзіцы сімвалізуюць "святло Хрыста" і "Сонца праўды", найвышэйшую ісціну і цноту. Месяц, на якім стаіць Багародзіца, сімвалізуе "сакрамэнт хросту", а таксама перамогу дабра над ліхам. Вянок з зорак адлюстроўвае апостальскія дагматы і святасць.

Бела-блакітны колер стужкі Ордэна выводзіцца з геральдычных металу і колеру Багародзіцы Панны Марыі — срэбра і блакіту.

Ордэн вырабляецца з золата 999-й пробы і срэбра 925-й пробы з выкарыстаннем дыяментаў.

Урачысты знак пасады
Спадарыні пратэкtаркі Ордэна





ОРДЭН НЯБЕСНАЙ АПЯКУНКІ БЕЛАРУСІ

нададзены

____________________________________________________

____________________________________________________

№ _________

# Ордэн Пагоні

## Статут ордэна Пагоні

Арт. 1. Устанаўляецца ордэн Пагоні (далей таксама “Ордэн”) з мэтаю ўзнагароджваньня выдатных цывільных ці вайсковых заслугаў у часе вайны ці міру, зробленых для славы і на карысьць беларускага народу.

Арт. 2. Тытул кавалера ці дамы Ордэна Пагоні зьяўляецца найвышэйшым ганаровым адзначэньнем беларускага народу. Тытул кавалера ці дамы Ордэна надаецца асобам, якія выдатна спрычыніліся да здабыцьця незалежнасьці й дэмакратыі, абароны і захаваньня тэрытарыяльнага й нацыянальнага адзінства беларускіх земляў або да ўмацаваньня дэмакратыі, незалежнасьці і росквіту беларускай дзяржавы і беларускага народу.

Арт. 3. Адзнакамі Ордэна зьяўляюцца:
1) крыж ордэна Пагоні;
2) Камандорскі крыж ордэна Пагоні;
3) стужка ордэна Пагоні.

Арт. 4.1. Крыж ордэна Пагоні срэбны, васьміканцовы, пакрыты эмаліяй, берагі срэбныя. На сярэдзіне крыжа срэбная Пагоня. Адваротны бок гладкі з парадкавым нумарам. Да часу пераняцьця Ордэна ў якасьці дзяржаўнай узнагароды ў Рэспубліцы Беларусь на раменьнях (шырэйшых промнях) крыжа зьмешчаныя літары “B.N.R.”.

Арт. 4.2. Камандорскі крыж ордэна Пагоні срэбны, пазалочаны, васьміканцовы, пакрыты эмаліяй, берагі залатыя. На сярэдзіне крыжа залатая Пагоня. Адваротны бок гладкі з парадкавым нумарам. Да часу пераняцьця Ордэна ў якасьці дзяржаўнай узнагароды ў Рэспубліцы Беларусь на раменьнях крыжа зьмешчаныя літары “B.N.R.”. Адзнака Камандорскага крыжу ордэна Пагоні носіцца на ордэннай стужцы ордэна Пагоні Камандорскага крыжу на шыі.

Арт. 4.3. У разе паўторнага ўзнагароджваньня крыжам Пагоні надаецца адзнака Камандорскага крыжу.

Арт. 5. Разам з адзнакамі Ордэна ўручаецца дыплём зь пячаткай Капітулы або воргана, які дзейнічае ў яе якасьці, і з подпісам паўнамоцнай пасадавай асобы, які сьведчыць пра прыняцьцё ў кавалеры ці дамы Ордэну.

Арт. 6. Стужка Ордэна — нацыянальных колераў: вузкая белая, шырокая чырвоная, вузкая белая. Стужка адзнакі Камандорскага крыжу ордэна Пагоні мае ў сярэдзіне вузкую залатую (жоўтую) паласу.

Арт. 7. Выявы адзнакаў Ордэна зьмешчаны ў дадатку да гэтага статуту.

Арт. 8. Кавалерамі ці дамамі Ордэна могуць быць асобы беззаганнага характару, якія маюць асаблівыя заслугі перад беларускім народам паводле арт. 2 гэтага статуту.

Арт. 8.1. Тытул кавалера ці дамы Ордэна можа надавацца пасьмяротна за заслугі, абазначаныя ў гэтым статуце, але ня больш як напрацягу пяці гадоў пасьля сьмерці кавалера ці дамы. Пры рашэньні аб пасьмяротным узнагароджваньні імя ўносіцца ў сьпіс спачылых кавалераў і дамаў Ордэна, а блізкім сваякам выдаецца дыплём аб узнагароджаньні кіраўніцтвам Капітулы Ордэну або ворганам, які дзейнічае ў яе якасьці.

Арт. 9. Старшыня Рады БНР зьяўляецца з тытулу свайго становішча кавалерам ці дамай Ордэна і зьяўляецца з ураду Вялікім магістрам Ордэна і як такі зьяўляецца старшынёю Капітулы Ордэна.

Арт. 10. Ордэн мае Капітулу, якая складаецца з трох асоб; усіх паклікае Вялікі магістар Ордэна з пасярод кавалераў і дамаў Ордэна на пяць гадоў або прызначае выканаўцаў абавязкаў з шэрагу радных БНР.

Арт. 11. Капітула выбірае з пасярод сябе канцлера Капітулы, які зьяўляецца заступнікам Вялікага магістра Ордэна, а таксама сакратара. Канцлер Капітулы і сакратар зацьвярджаюцца Старшынём (Старшынёю) Рады БНР.

Арт. 12. Кандыдаты ў кавалеры і дамы Ордэна прадстаўляюцца і зацьвярджаюцца ў адпаведнасьці з п. 3.1 статуту Камісіі па ўзнагароджваньнях пры Радзе БНР. Перад прадстаўленьнем кандыдатаў на разгляд Старшыні Рады БНР і яе (яго) заступнікаў Камісія па ўзнагароджваньнях пры Радзе БНР павінна атрымаць меркаваньне Капітулы адносна маральных кваліфікацыяў кандыдата.

Арт. 13. Тытул кавалера ці дамы Ордэна надае Старшыня Рады БНР сваім дэкрэтам, у якім адзначае заслугі, за якія надаецца тытул.

Арт. 14. Замежнікі, якія маюць заслугі перад Беларускім народам, могуць таксама быць кавалерамі ці дамамі Ордэна, але ня маюць права быць сябрамі Капітулы.

Арт. 15. Перастае быць кавалерам ці дамай Ордэна той ці тая, каго Капітула або ворган, які дзейнічае ў яе якасьці, выключыць зь ліку кавалераў ці дамаў Ордэна пры ўхваленьні гэтага рашэньня Прэзыдыюмам Рады БНР дзеля:

а) неганаровага ўчынку, у тым ліку карысьлівага злачынства з элемэнтам ашуканства;

б) адкрыцьця новых фактаў, што касуюць праўдзівасьць ці важнасьць падставаў рашэньня аб узнагароджваньні;

в) за здраду ідэалам Беларускай Народнай Рэспублікі.

Арт. 15.1. З увагі на абставіны, зьвязаныя з пералічанымі ў арт. 15 падставамі выключэньня зь ліку кавалераў і дамаў Ордэна, Капітула або ворган, які дзейнічае ў яе якасьці, можа абвясьціць аб забароне кавалеру ці даме Ордэна публічнага нашэньня адзнакаў Ордэна раней ці замест выключэньня.

Арт. 16. Усе падрабязнасьці арганізацыі Капітулы могуць быць зьмешчаны ў асобным распараджэньні Старшыні Рады БНР.

Арт. 17. Мэдаль Пагоні (далей таксама "Мэдаль") зьяўляецца ўзнагародай Ордэна і дзяржаўнай узнагародай Беларусі, адносна якой вышэйшым па сваім статусе ёсьць тытул кавалера ці дамы Ордэна. Узнагароджваньне Мэдалём не азначае прыняцьцё ў кавалеры ці дамы Ордэна.

Арт. 17.1. Мэдаль уручаецца беларускім грамадзянам і замежнікам беззаганнага характару, якія маюць асаблівыя заслугі перад беларускім народам:

– асобам, якія адзначыліся на ніве змаганьня за волю і незалежнасьць Беларусі;

– выбітным грамадзкім і культурніцкім дзеячам у Беларусі і сярод беларускага замежжа;

– замежнікам, якія спрычыніліся да дасьледваньняў і папулярызацыі Беларусі ў сьвеце, а таксама іншым чынам спрыялі нацыянальным інтарэсам Беларусі.

Арт. 17.2. Мэдаль уручаецца адмысловым дэкрэтам Старшыні Рады БНР. Дэкрэт зьмяшчацьме заслугі, за якія ўручаецца Мэдаль.

Арт. 17.2.1. Мэдаль можа быць пасьмяротнай узнагародай за заслугі паводле арт. 17.1 гэтага статуту, але надавацца напрацягу ня больш як 10 гадоў пасьля сьмерці. Пры рашэньні аб пасьмяротным узнагароджаньні імя ўносіцца ў сьпіс спачылых узнагароджаных Мэдалём, блізкім сваякам уручаецца Мэдаль

і выдаецца дыплём аб узнагароджваньні кіраўніцтвам Капітулы Ордэна або воргана, які дзейнічае ў яе якасьці.

Арт. 17.3. Сьпіс кандыдатаў на ўзнагароджваньне складаецца і зацьвярджаецца ў адпаведнасьці з п. 3.1 статута Камісіі па ўзнагароджваньнях пры Радзе БНР. Камісія па ўзнагароджваньнях пры Радзе БНР таксама павінна атрымаць меркаваньне Капітулы Ордэна (пры яе наяўнасьці) датычна кандыдатаў на ўзнагароджваньне.

Арт. 17.4. Асобам, узнагароджаным Мэдалём, выдаецца дыплём ўсталяванага ўзору Камісіяй па ўзнагароджваньнях Рады БНР.

Арт. 17.5. Выгляд Мэдаля і стужкі Мэдаля адлюстраваны ў эскізе, які зьяўляецца дадаткам да гэтага статута.

Арт. 17.5.1. Мэдаль увесь з жоўтага мэталу, круглае формы, на ліцавым баку выява крыжа ордэна Пагоні, на адваротным баку выбіты надпіс “Не разьбіць, Не спыніць, Не стрымаць” і зьмешчаны нумар.

Арт. 17.5.2. Стужка Мэдаля складаецца з вэртыкальных палос наступных колераў, разьмешчаных у наступным парадку: тонкая чырвоная, шырокая белая, шырокая чырвоная, шырокая белая, тонкая чырвоная.

Арт. 17.6. Перастае быць узнагароджаным Мэдалём той ці тая, каго Капітула або ворган, які дзейнічае ў яе якасьці, выключыць зь ліку ўзнагароджаных пры ўхваленьні гэтага рашэньня Прэзыдыюмам Рады БНР дзеля:

а) неганаровага ўчынку, у тым ліку карысьлівага злачынства з элемэнтам ашуканства;

б) адкрыцьця новых фактаў, што касуюць праўдзівасьць ці важнасьць падставаў рашэньня аб узнагароджваньні;

в) за здраду ідэалам Беларускай Народнай Рэспублікі.

Арт. 17.6.1. Капітула або ворган, які дзейнічае ў яе якасьці, можа з увагі на абставіны, зьвязаныя зь пералічанымі ў арт. 17.6 выключэньня зь ліку ўзнагароджаных Мэдалём, абвясьціць аб забароне публічнага нашэньня такой асобай Мэдаля раней ці замест выключэньня.

Арт. 17.7. Асобы, узнагароджаныя раней мэдалём Пагоні, паўторна гэтым мэдалём не ўзнагароджваюцца, а могуць атрымліваць тытул кавалера або дамы Ордэна.

Арт. 18. Характар заслуг, за якія адбылася ўзнагарода Ордэнам ці Мэдалём, можа быць абазначаны на стужцы Мэдаля, крыжа Ордэна і на плянках узнагародаў адпаведнымі адзнакамі:

– за вайсковыя ці аналягічныя вайсковым заслугі або заслугі ў баявых ці аналягічных баявым абставінах: на стужках крыжа, стужцы Мэдаля і на плянках носіцца сымбаль скрыжаваных шабляў залатога колеру;
– за праяву надзвычайнай адвагі ў любых абставінах — знак ліста дубу залатога колеру;
– за дасягненьні ў сфэры адукацыі, навукі, культуры — знак расчыненае кнігі і паходні залатога колеру.

Арт. 18.1. Гэтыя дадатковыя адзнакі могуць надавацца і насіцца адначасова. Узнагароджваньне асобаў, раней узнагароджаных адзнакамі Ордэна ці Мэдалём, правам нашэньня гэтых адзнак можа адбывацца дадаткова. Права на нашэньне гэтых адзнак усталёўваецца ў дэкрэце аб узнагароджваньні, зазначаецца ў дыплёме Ордэна або дыплёме Мэдаля.

Арт. 18.2. Выгляд дадатковых адзнак будзе зацьверджаны асобна.

Арт. 19. Плянкі адзнак ордэна Пагоні і мэдаля Пагоні складаюцца з адпаведных стужак ордэна Пагоні ці мэдаля Пагоні прастакутнай формы або круглай формы (разеткі). На іх дадаюцца асаблівыя адзнакі, пералічаныя ў арт. 18. Могуць насіцца мініятурныя выявы адпаведнай адзнакі ордэна Пагоні ці мэдаля Пагоні. Фракавыя мініятуры адзнак ордэна Пагоні могуць насіцца на разетцы колераў адпаведнай ордэнскай стужкі.

Арт. 20. У выгнаньні Рада БНР узнагароджвае толькі мэдалём і крыжам ордэна Пагоні.

Арт. 21. Гэтае распараджэньне ўваходзіць у жыцьцё дня 5 жніўня 1951 г. Абноўленая рэдакцыя гэтага распараджэньня ўваходзіць у жыцьцё 24 лістапада 2022 г.

Зацьверджана:

Івонка Сурвілла,
Старшыня Рады БНР

24 лістапада 2022 г.

РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

ОРДЭН ПАГОНІ




Дэкрэтам Старшыні Рады БНР ад ______________________________

______________________________________________________________________________

мае тытул кавалера Ордэна Пагоні ў адпаведнасьці

са Статутам Ордэну ад 5 жніўня 1949 г. і адзначаецца

_______________________________________________ крыжам

пад нумарам _______________________.

СТАРШЫНЯ РАДЫ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

# Ордэн Кастуся Каліноўскага

## Пастанова
## аб заснаванні ўзнагарод “Крыж Змагання Тадэвуша Касцюшкі”, “Крыж Ахвярнасці Эміліі Плятэр”, медаля “За адвагу” і адраджэнні ордэна Кастуся Каліноўскага

Для ўзнагароджвання беларускіх вайскоўцаў пастанаўляецца:

Заснаваць узнагароды: “Крыж Змагання Тадэвуша Касцюшкі”, узнагароду “Крыж Ахвярнасці Эміліі Плятэр”, медаль “За адвагу” і адрадзіць скасаваны рэжымам А. Лукашэнкі ордэн Кастуся Каліноўскага (далей — Узнагароды).

Зацвердзіць статуты Узнагарод уключна з апісаннямі і эскізамі.
Даручыць Геральдычнай радзе “Пагоня” і адпаведным структурам БВА арганізаваць выраб Узнагарод і сертыфікатаў да іх, а таксама іх захаванне.

Даручыць Камісіі па ўзнагароджанні БВА арганізаваць:
- працэс прадстаўлення да Узнагарод;
- вядзенне рэгістра ўзнагароджаных.

Пастанова набывае моц у дзень яе прыняцця.

Зацверджана Часовай вайсковай камісіяй БВА.

8 жніўня 2024 г. Пячатка, подпіс

## Статут ордэна Кастуся Каліноўскага

На падставе Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г. і Пастановы ад 8 жніўня 2024 г. сведчым, што:

Арт. 1. Адраджаецца заснаваны 13 красавіка 1995 г. ордэн Кастуся Каліноўскага (далей — Ордэн) як беларускі нацыянальны ордэн для адзначэння выбітных самаадданых учынкаў, асабістай адвагі, вайсковых подзвігаў на карысць Беларусі і беларускага народа.

Арт. 2. Тытул кавалера Ордэна надаецца за наступныя заслугі:
– самаадданы ўчынак і адвагу, праяўленую пры выратаванні людзей, спыненні злачынных замахаў на іх жыццё;
– адвагу, праяўленую ва ўмовах павышанай небяспекі пры ахове грамадскага парадку, абароне дзяржаўнай уласнасці, пры затрыманні злачынцаў і выкрыцці злачынных груповак;
– мужнасць і стойкасць, праяўленыя падчас стыхійных бедстваў, пажараў, аварый, катастрофаў і іншых надзвычайных абставінаў, у выніку чаго была б папярэджаная пагроза жыццю і здароўю людзей або ўратаваныя значныя матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасці;
– іншыя самаадданыя дзеянні, звязаныя з выкананнем воінскага абавязку, грамадзянскага або службовага абавязку і спалучаныя з рызыкай для жыцця.

Арт. 3. Знакамі Ордэна з’яўляюцца крыж і зорка Ордэна, а таксама стужка праз плячо.
Крыж Ордэна ўяўляе сабой чатырохканцовы лапчаты крыж серабрыстага колеру, пакрыты эмаллю чырвонага колеру з водступам ад краю ў выглядзе косаў. У цэнтры крыжа маецца круг, у цэнтры якога рукі, злучаныя ў поціску. Над рукамі змешчана слова “АДВАГА”, пад імі — “РАЗВАГА”. На адваротным баку змешчаны нумар.
Крыж Ордэна носіцца на вертыкальнай шасцікутнай калодцы з трапецападобным нізам залацістага колеру. На калодцы размешчана стужка чырвонага (злева) і сіняга (справа) колераў.
Зорка Ордэна серабрыстага колеру. Складаецца з васьмі пукоў прамянёў. На сярэдзіне зоркі размешчаны крыж Ордэна.
Знак Ордэна носіцца на левым баку грудзей вайсковага мундзіра або цывільнай вопраткі, размяшчаецца перад ніжэйшымі баявымі ўзнагародамі (медалямі і крыжамі), у адпаведнасці з правіламі нашэння ўзнагарод Беларусі.

Стужка Ордэна праз плячо складаецца з дзвюх роўнавялікіх палос цёмна-чырвонага і сіняга колераў.

Арт. 4. Адзначэнне ўзнагародай можа адбывацца пасмяротна. Узнагародай могуць быць адзначаны замежныя грамадзяне.

Арт. 5. Кавалеры Ордэна ўтвараюць Капітулу. Старшынёю Капітулы з'яўляецца Галоўнакамандуючы Беларускім войскам.
Капітула Ордэна склікаецца на пяць гадоў Галоўнакамандуючым і складаецца з усіх кавалераў першага класа, а таксама ўключае да васьмі абраных кавалераў другога класа.
Капітула выбірае заступніка старшыні Капітулы.
Капітула кіруе ўсімі справамі Ордэна, рыхтуе праекты ўсіх распараджэнняў у справах Ордэна.
Капітула мае права вылучаць кандыдатаў на ўзнагароджванне тытулам кавалера Ордэна.

Арт. 6. Перастае быць кавалерам Ордэна той, каго Капітула выключыць з ліку кавалераў Ордэна з-за неганаровага ўчынку. Рашэнне аб выключэнні прымаецца простай большасцю галасоў чальцоў Капітулы і мае быць ухвалена старшынёю Капітулы.

Арт. 7. Знакі Ордэна носяцца без дэманстрацыі іншых узнагарод, акрамя ордэнаў Пагоні, Усяслава Чарадзея, Нябеснай Апякункі Беларусі, Жалезнага рыцара, на фраках, касцюме або нацыянальным касцюме, а вайскоўцамі — на парадных мундзірах.

Арт. 8. На паўсядзённым адзенні носіцца бант з ордэнскай стужкі памерам 28×12 мм, на штодзённым мундзіры — ордэнская планка памерам 28×12 мм.

Арт. 9. Святочны дзень Ордэна вызначае Капітула.

Арт. 10. Гэты статут уваходзіць у жыццё дня 8 жніўня 2024 г.

Зацверджана Часовай вайсковай камісіяй БВА.

8 жніўня 2024 г. Пячатка, подпіс

# Ордэн Кастуся Каліноўскага. Візуальна-семантычнае апісанне

Знакамі ордэна Кастуся Каліноўскага (далей — Ордэн) з'яўляюцца крыж, зорка і стужка Ордэна.

Крыж Ордэна ўяўляе сабой чатырохканцовы лапчаты крыж серабрыстага колеру, пакрыты эмаллю цёмна-чырвонага колеру з водступам ад краю ў выглядзе косаў. У цэнтры крыжа маецца круг, у цэнтры якога размешчана выява поціску рук. Над рукамі змешчана слова "АДВАГА", пад імі — "РАЗВАГА".

У аснове сюжэта крыжа Ордэна — рыцарскі або кавалерскі крыж, утвораны лёзамі косаў — адной з разнавіднасцяў паўстанцкай зброі на тэрыторыі Беларусі ў XVIII–XIX стст.

У цэнтры крыжа — выява поціску рук, узятая з захаваннем арыгінальных мастацкіх асаблівасцяў з пячаткі Літоўскага камітэта, кіроўнага органа паўстанцаў на тэрыторыі Беларусі і Літвы, на чале якога стаяў Кастусь Каліноўскі. Таксама з гэтай пячаткі ўзяты словы "Адвага — Развага", прыведзеныя тут на беларускай мове кірыліцай.

На адваротным баку крыжа або тарцы ў тэхналагічна зручным месцы размяшчаюцца нумар і проба.

Крыж Ордэна носіцца на вертыкальнай шасцікутнай калодцы з трапецападобным нізам серабрыстага колеру. На калодцы размешчана стужка шырынёй 28 мм кармазынавага (злева) і сіняга (справа) колераў. Чырвоны і сіні — колеры, якія выкарыстоўваліся на сцягах паўстанцаў.

Крыж носіцца на вертыкальнай шасцікутнай калодцы з трапецападобным нізам серабрыстага колеру. На калодцы размешчана стужка цёмна-чырвонага і сіняга колераў.

Памеры крыжа Ордэна: вышыня — 37 мм, шырыня — 37 мм. Вышыня калодкі — 50 мм, шырыня калодкі — 28 мм, шырыня палосак — 2 мм.

Зорка Ордэна ўяўляе васьміканцовую рыфленую зорку серабрыстага колеру, у цэнтры якой размешчаны крыж Ордэна. Адваротны бок зоркі Ордэна гладкі, у ніжняй частцы размяшчаюцца нумар і проба.

Памеры зоркі Ордэна: вышыня — 85 мм, шырыня — 85 мм. Памеры крыжа на зорцы ордэна Кастуся Каліноўскага: вышыня — 55 мм, шырыня — 55 мм.

Крыж і зорка мацуюцца да адзення пры дапамозе заколкі-шпількі, вырабляюцца са срэбра 925-й пробы.

Стужка Ордэна праз плячо складаецца з дзвюх роўнавялікіх палос цёмна-чырвонага і сіняга колераў. Шырыня стужкі — 95 мм.

Колеры стужкі — цёмна-чырвоны (малінавы) і сіні — узяты з вайсковых сцягоў часоў антырасійскіх паўстанняў другой паловы XVIII–XIX стст., пачынаючы з Барскай канфедэрацыі 1768–1772 гг. і канчаючы паўстаннем 1863–1864 гг.

Цёмна-чырвоны (малінавы) колер стужкі Ордэна ў спалучэнні з сінім азначае саюз дзяржаў — Вялікага Княства Літоўскага і Польскага Каралеўства — у Рэчы Паспалітай. Золата сімвалізуе перамогу, моц і славу, срэбра — чысціню ідэалаў змагання за незалежнасць і тэрытарыяльную цэласнасць краіны.

# БЕЛАРУСКАЯ ВЫЗВОЛЬНАЯ АРМІЯ

## ОРДЭН КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА




нададзены

______________________________

______________________________

згодна з Загадам ______________________________

Старшыня Часовай вайсковай камісіі ____________________

№ ____________







**БЕЛАРУСКАЯ ВЫЗВОЛЬНАЯ АРМІЯ**

ОРДЭН КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА

нададзены

______________________________

______________________________

Старшыня Часовай вайсковай камісіі

№ ________

# Ордэн Жалезнага рыцара

## Статут ордэна Жалезнага рыцара

Арт. 1. Устанаўляецца вайсковы ордэн Жалезнага рыцара (далей — Ордэн) для адзначэньня ваенных ці вайсковых заслуг. Ордэн зьяўляецца пераемнікам ордэна Virtuti Militari, які існаваў у Вялікім Княстве Літоўскім і быў першай беларускай дзяржаўнай вайсковай узнагародай.

Арт. 2. Адзнакамі Ордэна зьяўляюцца:

1) крыж Жалезнага рыцара. Крыж бывае дзьвюх велічыняў: камандорскі і кавалерскі;

2) стужка крыжа Жалезнага рыцара. Стужка бывае двух тыпаў: да кавалерскага і да камандорскага крыжоў.

Узоры і дакладныя памеры крыжоў Жалезнага рыцара і стужкі знаходзяцца ў дадатку да гэтага статута.

Арт. 3. Адзнакамі Ордэна ў паасобных клясах зьяўляюцца:

1) Камандорскі крыж Жалезнага рыцара (Камандорскі крыж) — чатырохканцовы, залаты, пасярэдзіне крыжа дзьве скрыжаваныя залатыя шаблі. На раменьнях крыжа літары “Б.Н.Р.”. Адваротны бок крыжа як ліцавы, але бязь літар “Б.Н.Р.” і бяз шабляў, унізе выбіты парадкавы нумар, у цэнтры на мэдальёне — лічба “1949” як год заснаваньня Ордэна. Камандорскі крыж Жалезнага рыцара ношаны на шыі. Над крыжом і пад пятлёй для стужкі злучво ў форме герба “Пагоня” на тарчы. Стужка Камандорскага крыжа Жалезнага рыцара: чырвонага й бурага колераў, мае ў сярэдзіне вузкую залатую (жоўтую) палосу. Камандорскі крыж адпавядае першай, другой і трэцяй клясам Ордэна паводле статута ў рэдакцыі ад 5 жніўня 1951 г.

2) Кавалерскі крыж Жалезнага рыцара (Кавалерскі крыж) — чатырохканцовы, срэбны, пасярэдзіне крыжа дзьве скрыжаваныя срэбныя шаблі. На раменьнях крыжа літары “Б.Н.Р.”. Адваротны бок крыжа як ліцавы, але бязь літараў “Б.Н.Р.” і бяз шабляў, унізе выбіты парадкавы нумар, у цэнтры на мэдальёне — лічба “1949” як год заснаваньня Ордэна. Кавалерскі крыж Жалезнага рыцара ношаны зь левага боку грудзей. Стужка Кавалерскага крыжа Жалезнага рыцара: чырвонага й бурага колеру, зложаная трохкутнікамі. На стужцы дзьве срэбныя скрыжаваныя

шаблі, такія ж, як і на крыжу. Кавалерскі крыж адпавядае чацьвёртай і пятай клясам Ордэна паводле статута ў рэдакцыі ад 5 жніўня 1951 г.

Арт. 3.1. Кавалер можа па ўласным жаданьні вырабіць і насіць плянкі з адпаведных стужак Ордэна прастакутнай формы, або разэткі круглай формы, або мініятурныя выявы адпаведнага крыжа Жалезнага рыцара, у тым ліку фракавую мініятуру крыжа Жалезнага рыцара на разэтцы колераў адпаведнай ордэнскай стужкі.

Арт. 3.2. Кавалерам Ордэна выдаецца дыплём (сэртыфікат) усталяванага ўзору.

Арт. 4. Тытул кавалера ў Ордэне зьяўляецца ўзнагародай за выдатныя ваенныя ўчынкі і можа быць наданы за выбітнае пасьпяховае кіраваньне войскам ці атрадам або за асабісты гераічны вайсковы ўчынак. Ордэн мае дзьве ступені, якія адзначаюцца Камандорскім крыжом (вышэйшая ступень) або Кавалерскім крыжом (ніжэйшая ступень):

1) Камандорскі крыж — галоўнакамандуючаму за пераможную вайну, а ў часе міру камандуючаму арміі, ці за выдатную арганізацыйную працу. Камандуючаму арміі ці вышэйшаму камандуючаму, а выняткова камандуючаму групы, дывізіі ці раўнапраўнаму, за сьмелае і ініцыятыўнае вядзеньне вайсковай апэрацыі, якая мела значэньне для выніку вайны. Выняткова Камандорскі крыж можа быць наданы афіцэру, які выдатна прычыніўся да перамогі і яшчэ ня мае Кавалерскага крыжа. Камандуючаму аддзелам да арміі ўключна за надзвычайныя баявыя ўчынкі ці выдатную ініцыятыву, спалучаную з умелым пасьпяховым камандаваньнем. Выняткова афіцэру штабу за супрацоўніцтва з камандуючым, калі гэта супрацоўніцтва выдатна прычынілася да перамогі.

2) Кавалерскі крыж можа быць уручаны афіцэру ці жаўнеру за ўмелае камандаваньне аддзелам да дывізіі ўключна, ці за ўчынак выдатнай ініцыятывы, якая запэўніла ваенную ўдачу, ці за сьмелы і ініцыятыўны баявы ўчынак асаблівае адвагі, спалучаны з умелым і пасьпяховым кіраваньнем аддзелам, або афіцэру ці жаўнеру, які сваім прыкладам уплынуў на сяброў да выдатнага баявога ўчынку, ці за асабістую выдатную адвагу афіцэру ці жаўнеру, які ўжо мае мэдаль "За баявыя заслугі". Выняткава можа быць наданы за праяву асабістай выдатнай баявой адвагі афіцэру ці жаўнеру, які яшчэ ня мае мэдаля "За баявыя заслугі".

Арт. 4.1. Тытул кавалера Ордэна можа надавацца пасьмяротна за заслугі, абазначаныя ў гэтым статуце, але ня больш як напрацягу пяці гадоў пасьля сьмерці кавалера. Пры рашэньні аб пасьмяротным узнагароджваньні імя ўносіцца ў сьпіс спачылых кавалераў Ордэна, а блізкім сваякам выдаецца дыплём аб узнагароджваньні і адпаведныя адзнакі.

Арт. 5. Асобы, адзначаныя Ордэнам, маюць тытул кавалераў Ордэна. Кавалеры Ордэна ўтвараюць Капітулу Ордэна. Старшынёю Капітулы зьяўляецца Галоўнакамандуючы.

Арт. 6. Кавалеры Ордэна маюць права першасьці да аддачы гонару з боку вайсковых роўнае рангі, якія ня ёсьць кавалерамі, і права да афіцэрскіх гонараў пры пасьпяваньні. Падафіцэр, адзначаны кавалерствам у Ордэне, можа быць прызначаны афіцэрам, а жаўнер — сэржантам.

Арт. 7. Дзень сьвята Ордэна ўстановіць Капітула.

Арт. 8. Тытул кавалера Ордэна надае Галоўнакамандуючы асобным загадам аб узнагароджваньні, у якім азначае заслугі, за якія надаецца тытул. Калі ж Галоўнакамандуючага няма, дык тытул надае найраней адзначаны адзін з кавалераў Ордэна найвышэйшай ступені, выбраны Капітулаю.

Арт. 9. Камандорскі крыж Галоўнакамандуючы надае на прапанову Капітулы, а Кавалерскі — на прапанову камандуючага арміі, ці вышэйшага камандуючага, ці Капітулы. Права надаваньня Кавалерскага крыжа можа быць перадана й камандуючаму арміі. Галоўнакамандуючаму надае тытул кавалера Ордэна Галава дзяржавы на прапанову Капітулы.

Арт. 10. Капітула Ордэна паклікаецца на пяць гадоў Галоўнакамандуючым і складаецца з усіх кавалераў, адзначаных Камандорскім крыжом, а таксама ўключае да васьмі абраных кавалераў, што былі адзначаны Кавалерскім крыжом. Старшыня Капітулы вызначаецца на два гады Галоўнакамандуючым з пасярод кавалераў, адзначаных Камандорскім крыжом. Заступніка выбірае Капітула.

Арт. 11. Капітула кіруе ўсімі справамі Ордэна, рыхтуе праекты ўсіх распараджэньняў у справах Ордэна.

Арт. 12. Перастае быць кавалерам Ордэна той, каго Капітула выключыць зь ліку кавалераў Ордэна дзеля неганаровага ўчынку.

Арт. 13. Выдаткі, зьвязаныя з наданьнем тытулу кавалера Ордэна, нясе дзяржаўны Скарб БНР.

Арт. 14. У свой час будуць выданыя асобныя правілы аб асаблівых правох кавалераў і камандораў Ордэна.

Арт. 15. Тымчасова, да асаблівага распараджэньня, правы Галоўнакамандуючага выконвае Старшыня Рады БНР, а правы Капітулы — Камісія па ўзнагароджваньнях пры Радзе БНР. Кандыдатаў у кавалеры Ордэна тымчасова прадстаўляе Камісія па ўзнагароджваньнях пры Радзе БНР, засягнуўшы перад гэтым думку Прэзыдыюма Рады БНР (у тым ліку абавязкова Сакратара па Справах абароны) адносна кандыдата. Перад гэтым прадстаўленьне да тытулу кавалера Ордэна можа быць атрыманае Камісіяй па ўзнагароджваньнях пры Радзе БНР ад камандаваньня адпаведнай вайсковай часткі ці арміі разам з падрабязным апісаньнем учынкаў, за якія мае адбыцца ўзнагароджаньне.

Арт. 16. Гэты статут уваходзіць у жыцьцё дня 5 жніўня 1951 г. Папраўкі да статуту ўнесены 11 чэрвеня 2023 г.

Зацьверджана:

Івонка Сурвілла,
Старшыня Рады БНР

11 чэрвеня 2023 г.

**РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ**

## ОРДЭН ЖАЛЕЗНАГА РЫЦАРА




Дэкрэтам Старшыні Рады БНР ад ______________________________

______________________________________________________________

мае тытул кавалера Ордэна Жалезнага рыцара ў адпаведнасьці
з Статутам Ордэну ад 5 жніўня 1949 г. і адзначаецца
_______________________________ крыжом
пад нумарам _______________.

**СТАРШЫНЯ РАДЫ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ**

# Крыж Змагання Тадэвуша Касцюшкі

## Пастанова
## аб заснаванні ўзнагарод “Крыж Змагання Тадэвуша Касцюшкі”, “Крыж Ахвярнасці Эміліі Плятэр”, медаля “За адвагу” і адраджэнні ордэна Кастуся Каліноўскага

Для ўзнагароджвання беларускіх вайскоўцаў пастанаўляецца:

Заснаваць узнагароды: “Крыж Змагання Тадэвуша Касцюшкі”, узнагароду “Крыж Ахвярнасці Эміліі Плятэр”, медаль “За адвагу” і адрадзіць скасаваны рэжымам А. Лукашэнкі ордэн Кастуся Каліноўскага (далей — Узнагароды).

Зацвердзіць статуты Узнагарод уключна з апісаннямі і эскізамі.
Даручыць Геральдычнай радзе “Пагоня” і адпаведным структурам БВА арганізаваць выраб Узнагарод і сертыфікатаў да іх, а таксама іх захаванне.

Даручыць Камісіі па ўзнагароджанні БВА арганізаваць:
– працэс прадстаўлення да Узнагарод;
– вядзенне рэгістра ўзнагароджаных.

Пастанова набывае моц у дзень яе прынящця.

Зацверджана Часовай вайсковай камісіяй БВА.

8 жніўня 2024 г. Пячатка, подпіс

# Статут крыжа Змагання Тадэвуша Касцюшкі

На падставе Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г. і Пастановы ад 8 жніўня 2024 г. сведчым, што:

Арт. 1. Крыжам Змагання Тадэвуша Касцюшкі (далей — Крыж) узнагароджваюцца камандзіры падраздзяленняў Збройных сіл Беларусі, нацыянальных вайсковых фармаванняў у складзе саюзных Беларускай дзяржаве іншаземных збройных сіл:

– за ўмелую арганізацыю і правядзенне баявых дзеянняў, якія дазволілі дасягнуць пастаўленых камандаваннем мэтаў, нягледзячы на ўпарты супраціў праціўніка, яго колькасную перавагу, высокае тэхнічнае забеспячэнне і больш выгоднае размяшчэнне;
– умелую арганізацыю і кіраванне вайсковымі фармаваннямі пры правядзенні мерапрыемстваў сілавога характару, якія забяспечылі недапушчэнне агрэсіі супраць Беларускай дзяржавы і яе хаўруснікаў або ўзброенага канфлікту;
– неаднаразовыя праявы асабістай мужнасці і храбрасці ў баявой абстаноўцы, адзначаныя вайсковымі медалямі Беларускай дзяржавы.

Арт. 2. Крыжам могуць быць узнагароджаны ў выключных выпадках падраздзяленні Збройных сіл Беларусі, іншыя нацыянальныя вайсковыя фармаванні ў складзе саюзных Беларускай дзяржаве іншаземных збройных сіл:
за выдатныя заслугі ў баях па абароне суверэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасці Беларускай дзяржавы і яе хаўруснікаў, у аперацыях па падтрыманні міру і ў контратэрарыстычных аперацыях.

Арт. 3. Крыжам могуць быць узнагароджаны замежныя грамадзяне — камандзіры вайсковых фармаванняў саюзных Беларускай дзяржаве збройных сіл:
за ўдзел у арганізацыі і правядзенні паспяховых кааліцыйных тактычных аперацый.

Арт. 4. Крыж уяўляе сабой чатырохканцовы лапчаты крыж залацістага колеру з заканчэннямі ў выглядзе маленькіх шарыкаў, пакрыты эмаллю белага колеру з водступам ад краю. У цэнтры крыжа маецца круг, пакрыты эмаллю чырвонага колеру, апраўлены залатым лаўровым вянком. У цэнтры вянка — рэльефны партрэт Тадэвуша Касцюшкі залацістага колеру, скіраваны ўправа. На адвароце змешчана абрэвіятура “В. В. Н.” (“Вернасць. Вольнасць. Незалежнасць”), ніжэй якой маецца нумар.

Памеры: вышыня — 37 мм, шырыня — 37 мм.
Крыж носіцца на вертыкальнай шасцікутнай калодцы з трапецападобным нізам залацістага колеру. На калодцы размешчана стужка цёмна-сіняга колеру шырынёй 28 мм з падвойнай аблямоўкай цёмна-сіняга і белага колераў.
Вышыня калодкі — 50 мм, шырыня калодкі — 28 мм, шырыня палосак — 2 мм.
Крыж мацуецца да адзення пры дапамозе заколкі-шпількі.

Арт. 5. Крыж надаецца адной і той жа асобе адзін раз, а пры паўторным учынку дае магчымасць намінацыі на ўзнагароджванне беларускімі нацыянальнымі ордэнамі, згодна з іх статутамі.

Арт. 6. Узнагароджванне Крыжам можа адбывацца пасмяротна.

Арт. 7. Крыж носіцца на левым баку грудзей вайсковага мундзіра або цывільнай вопраткі, а пры наяўнасці іншых ордэнаў размяшчаецца пасля іх, але перад цывільнымі крыжамі, у адпаведнасці з правіламі нашэння ўзнагарод Беларускай дзяржавы.

Арт. 8. Крыж можа быць адабраны ў асобы, якая скампраметавала сябе ўчынкамі крымінальнага характару, зафіксаванымі судовымі выракамі.

Арт. 9. Узнагароджаныя Крыжам атрымоўваюць яго бясплатна. Разам з узнагародай выдаецца сертыфікат усталяванага ўзору.

Арт. 10. Статут Крыжа ўваходзіць у жыццё дня 8 жніўня 2024 г.

Зацверджана Часовай вайсковай камісіяй БВА.

8 жніўня 2024 г. Пячатка, подпіс

# Крыж Змагання Тадэвуша Касцюшкі. Візуальна-семантычнае апісанне

Крыж Змагання Тадэвуша Касцюшкі (далей — Крыж) уяўляе сабой чатырохканцовы лапчаты крыж залацістага колеру з заканчэннямі ў выглядзе маленькіх шарыкаў, пакрыты эмаллю белага колеру з водступам ад краю, у цэнтры крыжа маецца круг, пакрыты эмаллю чырвонага колеру, апраўлены залатым лаўровым вянком. У цэнтры вянка — рэльефны партрэт Тадэвуша Касцюшкі залацістага колеру, скіраваны ўправа.

На адваротным гладкім баку Крыжа размешчана абрэвіятура "В. В. Н.", ніжэй якой — нумар. Крыж мацуецца да вертыкальнай шасцікутнай калодкі з трапецападобным нізам залацістага колеру пры дапамозе вушка. На калодцы размешчана стужка шырынёй 28 мм цёмна-сіняга колеру з падвойнай аблямоўкай цёмна-сіняга і белага колераў. Крыж мацуецца да адзення пры дапамозе заколкі-шпількі.

Памеры Крыжа: вышыня — 37 мм, шырыня — 37 мм.

Вышыня калодкі — 50 мм, шырыня калодкі — 28 мм, шырыня палосак — 2 мм.

У аснове задумы сюжэта Крыжа ляжыць традыцыйны для беларускай геральдыкі рыцарскі крыж, па свайму выгляду набліжаны да гістарычнага ордэна "Virtuti Militari", уведзенага апошнім польскім каралём і вялікім князем літоўскім Станіславам Аўгустам Панятоўскім у 1792 г. Адным з першых у Рэчы Паспалітай гэтым ордэнам быў узнагароджаны Тадэвуш Касцюшка. У памяць аб гэтых падзеях захаваны выгляд крыжа і структура ўзнагароды — круг у цэнтры аточаны лаўровым вянком. Назва Крыжа прадвызначыла размяшчэнне ў лаўровым вянку партрэта Тадэвуша Касцюшкі — нацыянальнага героя Беларусі, Польшчы, ЗША.

Абрэвіятура з загалоўных літар "В. В. Н." уяўляе сабой скарочаныя словы дэвіза "Вернасць. Вольнасць. Незалежнасць", якія прапанаваны пісьменнікам Уладзімірам Арловым як сучасны беларускі адпаведнік лозунга паўстання Тадэвуша Касцюшкі "Wolność, Całość, Niepodległość".

Цёмна-сіні колер стужкі Крыжа падкрэслівае пераемнасць з традыцыйнымі колерамі стужкі ордэна "Virtuti Militari". Белы колер Крыжа і палосак сімвалізуе Беларусь, а ў спалучэнні з чырвоным колерам поля круга — беларускія нацыянальныя колеры. Золата ў геральдыцы сімвалізуе перамогу, моц і славу.

Крыж вырабляецца з латуні з пакрыццём золатам 999-й пробы.

# БЕЛАРУСКАЯ ВЫЗВОЛЬНАЯ АРМІЯ

## КРЫЖ ЗМАГАНЬНЯ ТАДЭВУША КАСЬЦЮШКІ



нададзены

______________________________________________

______________________________________________

згодна з Загадам ______________________________

Старшыня Часовай вайсковай камісіі ________________

№ ____________




**БЕЛАРУСКАЯ ВЫЗВОЛЬНАЯ АРМІЯ**

**КРЫЖ ЗМАГАНЬНЯ ТАДЭВУША КАСЬЦЮШКІ**

нададзены

______________________________

______________________________

Старшыня Часовай вайсковай камісіі

№ ________

# Крыж Ахвярнасці Эміліі Плятэр

## Пастанова
## аб заснаванні ўзнагарод “Крыж Змагання Тадэвуша Касцюшкі”, “Крыж Ахвярнасці Эміліі Плятэр”, медаля “За адвагу” і адраджэнні ордэна Кастуся Каліноўскага

Для ўзнагароджвання беларускіх вайскоўцаў пастанаўляецца:

Заснаваць узнагароды: “Крыж Змагання Тадэвуша Касцюшкі”, узнагароду “Крыж Ахвярнасці Эміліі Плятэр”, медаль “За адвагу” і адрадзіць скасаваны рэжымам А. Лукашэнкі ордэн Кастуся Каліноўскага (далей — Узнагароды).

Зацвердзіць статуты Узнагарод уключна з апісаннямі і эскізамі.
Даручыць Геральдычнай радзе “Пагоня” і адпаведным структурам БВА арганізаваць выраб Узнагарод і сертыфікатаў да іх, а таксама іх захаванне.

Даручыць Камісіі па ўзнагароджанні БВА арганізаваць:
- працэс прадстаўлення да Узнагарод;
- вядзенне рэгістра ўзнагароджаных.

Пастанова набывае моц у дзень яе прыняцця.

Зацверджана Часовай вайсковай камісіяй БВА.

8 жніўня 2024 г. Пячатка, подпіс

# Статут крыжа Ахвярнасці Эміліі Плятэр

Арт. 1. Засноўваецца крыж Ахвярнасці Эміліі Плятэр (далей — Крыж) як беларуская нацыянальная ўзнагарода за асабістую адвагу і самаахвярнасць, праяўленыя ў баявых умовах.

Арт. 2. Падставамі для ўзнагароджвання могуць быць асаблівыя адвага і самаахвярнасць, праяўленыя ў баявых умовах, звязаных з рызыкай для жыцця, выратаваннем жыцця іншых ваяроў і/або выкананнем асабліва важных вайсковых задач, пры наяўнасці медалёў за асабістую адвагу.

Арт. 3. Крыж уяўляе сабой чатырохканцовы мальтыйскі крыж серабрыстага колеру, пакрыты эмаллю чырвонага колеру з невялікім водступам ад краю. У цэнтры крыжа маецца круг, пакрыты эмаллю чорнага колеру, апраўлены серабрыстым лаўровым вянком. У цэнтры вянка — партрэт Эміліі Плятэр серабрыстага колеру, скіраваны ўправа.
На адвароце змешчаны надпіс "MELIOR MORS MACULA" ("Лепш смерць, чым ганьба"), пад якім маецца нумар. Узнагарода носіцца на вертыкальнай шасцікутнай калодцы з трапецападобным нізам серабрыстага колеру. На калодцы размешчана стужка чырвонага колеру з падвойнай аблямоўкай чырвонага і чорнага колераў. Крыж носіцца на левым баку грудзей вайсковага мундзіра або цывільнай вопраткі, пры наяўнасці ордэнаў размяшчаецца пасля іх, але перад цывільнымі крыжамі, у адпаведнасці з правіламі нашэння ўзнагарод Беларусі.

Арт. 4. Крыж надаецца адной і той жа асобе адзін раз, а пры паўторным учынку дае магчымасць намінацыі на больш высокія ўзнагароды, у тым ліку намінацыі на тытул кавалера або дамы беларускіх ордэнаў, згодна з іх статутамі.

Арт. 5. Адзначэнне Крыжам можа адбывацца пасмяротна. Крыжам могуць быць адзначаны замежныя грамадзяне.

Арт. 6. Крыж можа быць адабраны ў асобы, якая скампраметавала сябе ўчынкамі крымінальнага характару, зафіксаванымі судовымі выракамі.

Арт. 7. Адзначаныя Крыжам атрымоўваюць яго бясплатна. Разам з Крыжам выдаецца сертыфікат вызначанага ўзору.

Арт. 8. Гэты статут уваходзіць у жыццё дня 8 жніўня 2024 г.

Зацверджана Часовай вайсковай камісіяй БВА.

8 жніўня 2024 г. Пячатка, подпіс

# Крыж Ахвярнасці Эміліі Плятэр. Візуальна-семантычнае апісанне

Крыж Ахвярнасці Эміліі Плятэр уяўляе сабой чатырохканцовы лапчата-вырубны крыж серабрыстага колеру, пакрыты эмаллю чырвонага колеру, на якім маецца круг, пакрыты эмаллю чорнага колеру, апраўлены лаўровым вянком серабрыстага колеру. У цэнтры круга — рэльефны партрэт Эміліі Плятэр серабрыстага колеру з шабляй у руцэ.

На адваротным боку крыжа Ахвярнасці Эміліі Плятэр размешчаны дэвіз "MELIOR MORS MACULA", ніжэй якога маецца нумар. Крыж Ахвярнасці Эміліі Плятэр мацуецца да вертыкальнай шасціканцовай калодкі з трапецападобным нізам серабрыстага колеру пры дапамозе вушка. На калодцы размешчана стужка шырынёй 28 мм чырвонага колеру з падвойнай аблямоўкай чырвонага і чорнага колеру. Крыж мацуецца да адзення пры дапамозе заколкі-шпількі.

Памеры крыжа Ахвярнасці Эміліі Плятэр: вышыня — 33 мм, шырыня — 33 мм.

Вышыня калодкі — 50 мм, шырыня калодкі — 28 мм, шырыня палосак — 2 мм.

У аснове задумы сюжэта крыжа Ахвярнасці Эміліі Плятэр ляжыць крыж, па сваім выглядзе набліжаны да гістарычнага ордэна Бязгрэшнага зачацця Панны Марыі, уведзенага польскім каралём і вялікім князем літоўскім Янам III Сабескім для сваіх прыхільнікаў і двара ў 1674–1696 гг., а таксама да ордэна Нябеснай Апякункі Беларусі. Выява ўзброенай Эміліі Плятэр (памерла ў 1830 г.) у лаўровым вянку адсылае да падзей паўстання 1830–1831 гг. на тэрыторыі Беларусі, Літвы і Польшчы супраць акупацыйных уладаў Расійскай імперыі, у якім маладая дзяўчына прымала актыўны ўдзел. Спалучэнне ўсіх апісаных элементаў у крыжы Ахвярнасці Эміліі Плятэр сімвалізуе не толькі пераемнасць беларускай дзяржаўніцкай традыцыі, але і непарыўнасць змагання за свабоду і незалежнасць, прыкладам чаго з'яўляецца ахвярная смерць Эміліі Плятэр.

Дэвіз на латыні "MELIOR MORS MACULA" перакладаецца як "Лепш смерць, чым ганьба" і з'яўляецца аўтэнтычным дэвізам герба графскай галіны роду Плятэраў, да якой належала Эмілія.

Чырвоны з чорным колер стужкі і чорны фон партрэта падкрэсліваюць гераічны шлях маладой дзяўчыны ў змаганні за свабоду Айчыны, цяжкія выпрабаванні вайсковага побыту і яе заўчасную смерць. Чырвоны і чорны з'яўляюцца гербавымі колерамі графскай галіны Плятэраў, а таксама традыцыйна сімвалізуюць ахвярнасць, пагарду да смерці і гераізм, праяўлены ў змаганні за высокія ідэалы.

Крыж вырабляецца з мельхіёру.

# БЕЛАРУСКАЯ ВЫЗВОЛЬНАЯ АРМІЯ

**КРЫЖ АХВЯРНАСЬЦІ ЭМІЛІІ ПЛЯТЭР**




нададзены

______________________________

______________________________

згодна з Загадам ______________________

Старшыня Часовай вайсковай камісіі ______________

№ ____________




**БЕЛАРУСКАЯ ВЫЗВОЛЬНАЯ АРМІЯ**

**КРЫЖ АХВЯРНАСЬЦІ ЭМІЛІІ ПЛЯТЭР**

нададзены

________________________________________

________________________________________

Старшыня Часовай вайсковай камісіі

№ ________

# Партызанскі народны крыж

## Пастанова
## аб заснаванні ўзнагарод "Партызанскі народны крыж" і медаля "За дапамогу Беларускаму войску"

Для ўзнагароджвання беларускіх вайскоўцаў пастанаўляецца:

Заснаваць узнагароды "Партызанскі народны крыж" і медаль "За дапамогу Беларускаму войску" (далей — Узнагароды).

Зацвердзіць статуты Узнагарод уключна з апісаннямі і эскізамі.

Даручыць Геральдычнай радзе "Пагоня" і адпаведным структурам БВА арганізаваць выраб Узнагарод і сертыфікатаў да іх, а таксама іх захаванне.

Даручыць Камісіі па ўзнагароджаннях БВА арганізаваць:
- працэс прадстаўлення да Узнагарод;
- вядзенне рэгістра ўзнагароджаных;
- улік не ўручаных Узнагарод.

Пастанова набывае моц у дзень яе прыняцця.

Зацверджана Часовай вайсковай камісіяй БВА.

24 сакавіка 2024 г. Пячатка, подпіс

## Статут Партызанскага народнага крыжа

Арт. 1. Засноўваецца Партызанскі народны крыж (далей — Крыж) як нацыянальная ўзнагарода Беларусі, якою адзначаюцца беларускія партызаны і падпольшчыкі, вайскоўцы Збройных сіл Беларусі, удзельнікі беларускіх нацыянальных вайсковых фармаванняў у складзе саюзных Беларусі збройных сіл, якія вядуць паспяховыя дыверсійныя і контрдыверсійныя баявыя дзеянні ў тыле ворага.

Арт. 2. Падставамі для ўзнагароджвання Крыжам могуць быць:

– умелая арганізацыя і правядзенне рэйдавых, партызанскіх, дыверсійных і контрдыверсійных дзеянняў у тыле ворага, у прыватнасці паспяховая аперацыя, у выніку якой былі знішчаны ці значна пашкоджаны вайсковая тэхніка і (ці) боепрыпасы ворага ці былі парушаны лагістычныя сувязі ў пастаўках вайсковай тэхнікі і (ці) боепрыпасаў ворага;
– умелая арганізацыя і правядзенне акцый сабатажу, у тым ліку з выкарыстаннем інфармацыйных і тэлекамунікацыйных тэхналогій, якія дазволілі дасягнуць пастаўленых камандаваннем мэтаў і нанесці істотную шкоду ворагу;
– асабістая адвага і гераізм падчас рэйдавых, партызанскіх, дыверсійных і контрдыверсійных дзеянняў супраць узброеных сіл ворага ў яго тыле, у тым ліку на акупаванай тэрыторыі Беларусі;
– здабыццё для беларускага войска і (ці) легітымных дэмакратычных органаў улады Беларусі грамадска значнай інфармацыі, якая істотна паўплывала на зрыў планаў ворага і (ці) істотна спрыяла выкананню задачаў Беларускага войска;
– дзеянні ў тыле ворага, якія прадухілілі вайсковыя злачынствы і злачынствы супраць чалавечнасці;
– пераход на бок народа прадстаўнікоў мясцовых адміністрацый на акупаванай або падкантрольнай незаконным органам улады тэрыторыі Беларусі, выяўленыя як у доўгатэрміновай негалоснай супрацы з легітымнымі дэмакратычнымі органамі ўлады Беларусі з рызыкай для жыцця ці здароўя, так і ў адкрытым супрацьдзеянні акупацыйным уладам і калабарантам;
– асабісты значны ўнёсак у арганізацыю і падтрымку партызанскага руху ў Беларусі ў складзе Беларускай Вызвольнай Арміі ці асобных партызанскіх, падпольных, дыверсійных і контрдыверсійных падраздзяленняў, раней адзначаных медалямі Беларускай дзяржавы.

Арт. 3. Крыж уяўляе сабой чатырохканцовы лапчаты крыж серабрыстага колеру, у цэнтры якога маецца круг, пакрыты эмаллю чырвонага колеру, апраўлены дубовым вянком серабрыстага колеру. У цэнтры круга — выява “Пагоня”, пад якой чэрап з косткамі таго ж колеру. Паміж канцамі Крыжа па дыяганалі — два мячы серабрыстага колеру рукаяцямі ўверх. На адвароце Крыжа размешчаны надпіс “НІКОЛІ НЯ БЫЦЬ У НЯВОЛІ”, пад якім маецца нумар. Крыж мацуецца да вертыкальнай шасціканцовай калодкі. На калодцы размешчана стужка чорнага колеру з падвойнай аблямоўкай чорнага і шэрага колераў.

Арт. 4. Крыж надаецца адной і той жа асобе адзін раз, а пры паўторным учынку дае магчымасць намінацыі на ўзнагароджванне беларускімі нацыянальнымі ордэнамі, згодна з іх статутамі.

Арт. 5. Крыжам могуць быць адзначаны замежныя грамадзяне, перадусім вайскоўцы саюзных Беларусі збройных сіл, за ўдзел у арганізацыі і правядзенні паспяховых кааліцыйных партызанскіх, дыверсійных і контрдыверсійных дзеянняў.
Крыж можа быць нададзены пасмяротна.

Арт. 6. Крыж носіцца на левым баку грудзей вайсковай або цывільнай вопраткі, а пры наяўнасці ордэнаў размяшчаецца пасля іх, перад цывільнымі крыжамі, у адпаведнасці з правіламі нашэння ўзнагарод.

Арт. 7. Крыж можа быць адабраны ў асобы, якая скампраметавала сябе ўчынкамі крымінальнага характару, зафіксаванымі судовымі выракамі.

Арт. 8. Узнагароджаныя атрымоўваюць Крыж бясплатна. Разам з Крыжам выдаецца сертыфікат усталяванага ўзору.

Арт. 9. Гэты статут уваходзіць у жыццё дня 24 сакавіка 2024 г.

Зацверджана Часовай вайсковай камісіяй БВА.

24 сакавіка 2024 г. Пячатка, подпіс

## Партызанскі народны крыж. Візуальна-семантычнае апісанне

Партызанскі народны крыж уяўляе сабой чатырохканцовы лапчаты крыж серабрыстага колеру, на якім маецца круг, пакрыты эмаллю чырвонага колеру, апраўлены дубовым вянком серабрыстага колеру. У цэнтры круга — выява "Пагоня", пад якой чэрап з косткамі таго ж колеру. Паміж канцамі крыжа па дыяганалі — два мячы серабрыстага колеру рукаяткамі ўверх.

На адваротным баку ўзнагароды размешчаны надпіс "НІКОЛІ НЯ БЫЦЬ У НЯВОЛІ", пад якім маецца нумар. Узнагарода мацуецца да вертыкальнай шасціканцовай калодкі з трапецападобным нізам серабрыстага колеру пры дапамозе вушка. На калодцы размешчана стужка шырынёй 28 мм чорнага колеру з падвойнай аблямоўкай чорнага і шэрага колераў. Узнагарода мацуецца да адзення пры дапамозе заколкі-шпількі.

Памеры ўзнагароды: вышыня — 33 мм, шырыня — 33 мм.

Вышыня калодкі — 50 мм, шырыня калодкі — 28 мм, шырыня палосак — 2 мм.

У аснове сюжэта Партызанскага народнага крыжа ляжыць традыцыйны для Беларусі рыцарскі крыж, спалучаны з сімволікай беларускіх палітычных сіл і партызанскіх фармаванняў часоў змагання з расійскай савецкай інтэрвенцыяй у ХХ ст. Герб "Партызанская Пагоня" — вершнік з мячом, пад якім чэрап з косткамі і лісце дуба, — запазычаны з пячатак партызанскіх атрадаў Беларускай сялянскай партыі "Зялёны дуб", якая з 1919 г. і да пачатку 1930-х гг. кіравала падпольным незалежніцкім рухам на тэрыторыі Беларусі.

Герб "Партызанская Пагоня" адрозніваецца ад класічнай "Пагоні" далучэннем чэрапа і костак — сімвала бескампраміснага змагання партызан з ворагам, якому наканавана толькі смерць. Акрамя таго, чэрап з косткамі — традыцыйны элемент хрысціянскай сімволікі Беларусі. Паводле хрысціянскага вучэння, кроў Хрыста, які ахвяраваў сабою, абмыла чэрап Адама і ў ягонай асобе ўсё чалавецтва ад граху, падараваўшы магчымасць выратавання. Такім чынам, галава Адама сімвалізуе вызваленне ад смерці і выратаванне ў хрысціянскім сэнсе. Малюнак чэрапа ўваходзіць у склад шматлікіх варыянтаў распяцця.

Перакрыжаваныя мячы — традыцыйны сімвал вайны, узброенай барацьбы, адвагі на полі бою, змагання за вызваленне Бацькаўшчыны ад іншаземных захопнікаў і калабарантаў.

Надпіс “НІКОЛІ НЯ БЫЦЬ У НЯВОЛІ” — адаптаваныя словы з “Лясной песні” (музыка Уладзіміра Алоўнікава, словы Адама Русака), прысвечанай змаганню беларускіх партызан.

Чорны колер стужкі Партызанскага народнага крыжа падкрэслівае спецыфіку партызанскай і падпольнай барацьбы — таемнасць і незаўважнасць. Шэры колер сімвалізуе лініі камунікацый ворага як асноўную мэту партызан. Срэбра азначае чысціню ідэалаў партызанскай барацьбы за перамогу над акупантамі.

Крыж вырабляецца з латуні з пакрыццём срэбрам 925-й пробы.

# БЕЛАРУСКАЯ ВЫЗВОЛЬНАЯ АРМІЯ

## ПАРТЫЗАНСКІ НАРОДНЫ КРЫЖ




нададзены

______________________________________________

______________________________________________

згодна з Загадам ______________________________

Старшыня Часовай вайсковай камісіі ____________________

№ ____________

ПРАЕКТ

# Крыж Свабоды

ПАСТАНОВА
ад _______________20___ г.

## Аб заснаванні крыжа Свабоды

З мэтай адзначэння заслуг беларускіх і замежных грамадзян, а таксама асоб без грамадзянства, якія зрабілі значны ўнёсак у барацьбу за незалежнасць Беларусі, пабудову свабоднай дэмакратычнай дзяржавы, якая падзяляе агульныя для беларусаў і Еўрапейскай цывілізацыі каштоўнасці, на падставе Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г. засноўваецца крыж Свабоды (далей — Крыж).

Арт. 1. Крыж з'яўляецца ўзнагародай вольнай Беларускай дзяржавы.

Арт. 2. Av: Крыж уяўляе сабой прамы чатырохканцовы крыж залацістага колеру, пакрыты эмаллю белага колеру, на якім герб "Пагоня", пакрыты эмаллю чырвонага колеру, з вершнікам серабрыстага колеру. Паміж канцамі Крыжа — стылізаваныя выявы полымя, пакрытыя эмаллю чырвонага колеру.
Памеры: вышыня — 33 мм, шырыня — 33 мм.
Rv: гладкі, у цэнтры па гарызанталі надпіс "СВАБОДА" таго ж колеру, у ніжняй частцы размешчаны нумар.
Крыж носіцца на калодцы, на якой размешчана стужка шырынёй 28 мм, якая складаецца з трох роўнавялікіх палос цёмна-чырвонага, белага і цёмна-чырвонага колераў. Вышыня калодкі — 50 мм, шырыня калодкі — 28 мм, шырыня палос — 9,33 мм.

Арт. 3. Выкананне гэтай пастановы ўскладаецца на Аб'яднаны Пераходны Кабінет.

Арт. 4. Пастанова набывае моц у дзень яе прыняцця.

Дата Пячатка, подпіс

# Статут крыжа Свабоды

На падставе Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г. і пастановы ад ________ 20___ г. сведчым, што:

Арт. 1. Крыжам Свабоды (далей — Крыж) узнагароджваюцца беларускія і замежныя грамадзяне, а таксама асобы без грамадзянства за барацьбу за незалежнасць Беларусі, пабудову свабоднай дэмакратычнай дзяржавы, якая падзяляе агульныя для беларусаў і Еўрапейскай цывілізацыі каштоўнасці:

– за арганізацыю эфектыўных структур нацыянальнага супраціву дыктатуры і (або) умелае і плённае кіраўніцтва імі;
– стварэнне і асабісты плённы ўдзел у ячэйках нацыянальнага супраціву з рызыкай для жыцця і здароўя;
– асабісты ўдзел у акцыях грамадзянскага супрацьстаяння з наданнем эфектыўнага адпору прадстаўнікам дыктатуры;
– плённую працу па прасоўванні вольнай Беларусі на парадак дня міжнародных структур;
– плённую працу па супрацьдзеянні прапагандзе дыктатуры ў медыя і сацыяльных сетках;
– асабісты грамадзянскі ўчынак, які стаў сімвалам барацьбы беларусаў за свабоду.

Арт. 2. Крыж Свабоды ўяўляе сабой прамы чатырохканцовы крыж залацістага колеру, пакрыты эмаллю белага колеру, на якім герб "Пагоня", пакрыты эмаллю чырвонага колеру, з вершнікам серабрыстага колеру. Паміж канцамі Крыжа — стылізаваныя выявы полымя, пакрытыя эмаллю чырвонага колеру.
Адваротны бок крыжа Свабоды гладкі, у цэнтры па гарызанталі надпіс "СВАБОДА" таго ж колеру, у ніжняй частцы размешчаны нумар.
Крыж Свабоды мацуецца да вертыкальнай шасцікутнай калодкі з трапецападобным нізам серабрыстага колеру пры дапамозе вушка. На калодцы размешчана стужка шырынёй 28 мм, якая складаецца з трох роўнавялікіх палос цёмна-чырвонага, белага і цёмна-чырвонага колераў. Крыж мацуецца да адзення пры дапамозе заколкі-шпількі.
Памеры крыжа Свабоды: вышыня — 33 мм, шырыня — 33 мм.

Арт. 3. Крыж надаецца адной і той жа асобе адзін раз, а пры паўторным учынку дае магчымасць намінацыі на ўзнагароджванне беларускімі нацыянальнымі ордэнамі, згодна з іх статутамі. Кандыдатуры на атрыманне Крыжа могуць быць вылучаны дзяржаўнымі органамі, грамадскімі аб'яднаннямі, а таксама прыватнымі асобамі. Усе

яны падлягаюць верыфікацыі ў Камісіі па ўзнагароджаннях паводле пададзеных звестак аб заслугах кандыдата. Канчатковае рашэнне аб узнагароджванні і ўручэнні Крыжа прымаецца і ажыццяўляецца прэзідэнтам або іншай высокапастаўленай асобай краіны.

Арт. 4. Узнагароджванне Крыжам можа адбывацца пасмяротна.

Арт. 5. Крыж носіцца на левым баку грудзей, а пры наяўнасці ордэнаў размяшчаецца пасля іх, але перад вайсковымі і цывільнымі медалямі, у адпаведнасці з Правіламі нашэння ўзнагарод Беларускай дзяржавы.

Арт. 6. Крыж можа быць адабраны ў асобы, якая скампраметавала сябе ўчынкамі крымінальнага характару, зафіксаванымі судовымі выракамі. Кожны такі выпадак публікуецца ў медыя.

Арт. 7. Узнагароджаныя Крыжам атрымоўваюць яго бясплатна. Разам з узнагародай выдаецца сертыфікат усталяванага ўзору.

Арт. 8. Статут Крыжа ўваходзіць у жыццё дня ____________ 20___ г.

Дата　　　　　　　　　　　　　　　　Пячатка, подпіс



# Крыж Свабоды. Візуальна-семантычнае апісанне

Крыж Свабоды ўяўляе сабой прамы чатырохканцовы крыж залацістага колеру, пакрыты эмаллю белага колеру, на якім размешчаны герб “Пагоня”, пакрыты эмаллю чырвонага колеру, з вершнікам серабрыстага колеру. Паміж канцамі крыжа — стылізаваныя выявы полымя, пакрытыя эмаллю чырвонага колеру.

Адваротны бок крыжа Свабоды гладкі, у цэнтры па гарызанталі надпіс “СВАБОДА” таго ж колеру, у ніжняй частцы размешчаны нумар.

Крыж Свабоды мацуецца да вертыкальнай шасцікутнай калодкі з трапецападобным нізам серабрыстага колеру пры дапамозе вушка. На калодцы размешчана стужка шырынёй 28 мм, якая складаецца з трох роўнавялікіх палос цёмна-чырвонага, белага і цёмна-чырвонага колераў. Крыж мацуецца да адзення пры дапамозе заколкі-шпількі.

Памеры ўзнагароды: вышыня — 33 мм, шырыня — 33 мм. Вышыня калодкі — 50 мм, шырыня калодкі — 28 мм, шырыня чырвоных палос — 9 мм, белых палос — 10 мм.

У аснове задумы сюжэта крыжа Свабоды — просты чатырохканцовы крыж, які падкрэслівае хрысціянскую культурную традыцыю беларускага народа, выявы полымя — яго імкненне да свабоды і годнага чалавечага жыцця праз змаганне і барацьбу, герб “Пагоня” ў рэдакцыі 1991 г. — Рэспубліку Беларусь, якая аднавіла сваю незалежнасць пасля распаду СССР у XX ст.

Чырвона-бела-чырвоны колер стужкі крыжа Свабоды бярэ свае вытокі ад сцяга Рэчы Паспалітай часоў дынастыі Вазаў і адлюстроўвае перыяд шляхецкай дэмакратыі і “залатых вольнасцяў”, аформленых у III Статуце Вялікага Княства Літоўскага 1588 г. Залата ў геральдыцы ўвасабляе моц і славу, досвед і традыцыі.

Крыж вырабляецца з латуні з пакрыццём золатам 999-й пробы.

**АБ'ЯДНАНЫ ПЕРАХОДНЫ КАБІНЭТ БЕЛАРУСІ**

---

## Крыж Свабоды




**нададзены**

______________________________________________

______________________________________________

**згодна з Пастановай ад** ____________________

**КІРАЎНІЦА АБ'ЯДНАНАГА ПЕРАХОДНАГА КАБІНЭТУ БЕЛАРУСІ**

**Сьвятлана Ціханоўская**

№ ______________

# Крыж Адраджэння Беларусі (братоў Луцкевічаў)

ПАСТАНОВА
ад 16 лістапада 2024 г.

## Аб заснаванні крыжа Адраджэння Беларусі (братоў Луцкевічаў)

З мэтай адзначэння заслуг беларускіх і замежных грамадзян, а таксама асоб без грамадзянства, якія зрабілі значны ўнёсак у нацыянальнае адраджэнне Беларусі ў галіне палітыкі, эканомікі, культуры, навукі, адукацыі і спорту, на падставе Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г. засноўваецца крыж Адраджэння Беларусі (далей — Крыж).

Арт. 1. Крыж з'яўляецца ўзнагародай вольнай Беларусі (Беларускай дзяржавы).

Арт. 2. Крыж уяўляе сабой чатырохканцовы лапчаты крыж з зубчастымі канцамі, пакрыты эмаллю сіняга колеру, з упрыгожаннямі па баках у выглядзе стылізаванага лісця кветкі валошкі серабрыстага колеру.
Памеры: вышыня — 33 мм, шырыня — 33 мм.

Av: у цэнтры Крыжа пакладзены срэбраны круг, у цэнтры якога змешчаны ў профіль партрэты Івана і Антона Луцкевічаў серабрыстага колеру, скіраваныя ў левы бок, пад імі — герб Беларускай Народнай Рэспублікі таго ж колеру. На кайме надпіс "ІВАН І АНТОН ЛУЦКЕВІЧЫ" серабрыстага колеру, справа і злева ад герба БНР — стужкі, стылізаваныя пад бел-чырвона-белы сцяг таго ж колеру.

Rv: па цэнтры размешчаны надпіс "НЯХАЙ ЖЫВЕ НЕЗАЛЕЖНАЯ ВОЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ", ніжэй якога маецца нумар.

Крыж носіцца на вертыкальнай шасцікутнай калодцы з трапецападобным нізам серабрыстага колеру. На калодцы мацуецца

стужка шырынёй 28 мм сіняга колеру з аблямоўкай белага колеру, у цэнтры якой тры палосы белага, чырвонага і белага колераў.

Вышыня калодкі — 50 мм, шырыня калодкі — 28 мм, шырыня палос — 2,5 мм.

Арт. 3. Выкананне гэтай пастановы ўскладаецца на Аб’яднаны Пераходны Кабінет.

Арт. 4. Пастанова набывае моц у дзень яе прыняцця.

Кіраўніца Аб’яднанага Пераходнага Кабінета Беларусі
С. Г. Ціханоўская

16 лістапада 2024 г.

# Статут крыжа Адраджэння Беларусі (братоў Луцкевічаў)

Арт. 1. Засноўваецца крыж Адраджэння Беларусі (братоў Луцкевічаў) (далей — Узнагарода) з мэтай адзначэння беларускіх і замежных грамадзян, якія зрабілі значны ўнёсак у нацыянальнае адраджэнне і развіццё Беларусі праз сваю дзейнасць у сферах культуры, навукі, адукацыі, палітыкі, эканомікі, спорту і ў грамадскай сферы.

Арт. 2. Узнагарода ўяўляе сабой чатырохканцовы лапчаты крыж з зубчастымі канцамі, пакрыты эмаллю сіняга колеру, з упрыгожаннямі па баках у выглядзе стылізаванага лісця кветкі васілька серабрыстага колеру. У цэнтры крыжа пакладзены срэбраны круг, дзе змешчаны партрэты Івана і Антона Луцкевічаў, пад якімі — герб Беларускай Народнай Рэспублікі. На кайме надпіс "ІВАН І АНТОН ЛУЦКЕВІЧЫ" серабрыстага колеру, справа і злева ад герба БНР — стужкі, стылізаваныя пад бел-чырвона-белы сцяг. На адвароце па цэнтры размешчаны надпіс "НЯХАЙ ЖЫВЕ НЕЗАЛЕЖНАЯ ВОЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ", ніжэй якой маецца нумар.
Узнагарода носіцца на вертыкальнай шасцікутнай калодцы з трапецападобным нізам серабрыстага колеру. На калодцы размешчана стужка сіняга колеру з аблямоўкай белага колеру, у цэнтры якой тры палосы белага, чырвонага і белага колераў.
Узнагарода носіцца на левым баку грудзей цывільнай вопраткі або вайсковага мундзіра, а пры наяўнасці нацыянальных ці беларускіх ордэнаў размяшчаецца пасля іх.
Дэталёвае апісанне і выява Узнагароды змешчаны ў дадатку да гэтага статута.

Арт. 3. Узнагародаю адзначаюцца асобы:
- за абарону інтарэсаў беларускага народа і Беларусі;
- развіццё дэмакратыі, правоў і свабод чалавека ў Беларусі;
- значны ўнёсак у эканамічнае адраджэнне краіны;
- стварэнне пазітыўнага вобраза Беларусі, замацаванне прэстыжу Беларусі на міжнароднай арэне;
- аказанне гуманітарнай дапамогі Беларусі і беларускаму народу;
- актыўны ўдзел у прасоўванні беларускай мовы і культуры;
- выхаванне высокіх духоўных і маральных якасцяў маладога пакалення;

– захаванне і папулярызацыю беларускай нацыянальнай спадчыны;
– значныя даследаванні і распрацоўкі ў навуковай сферы, якія садзейнічаюць нацыянальнаму развіццю;
– асаблівыя дасягненні ў сферы аховы здароўя і сацыяльным забеспячэнні беларускага народа;
– умацаванне міжнародных сувязяў, прасоўванне міру і дружбы паміж народамі;
– іншыя выбітныя дасягненні на карысць Беларусі.

Арт. 4. Узнагарода надаецца адной і той жа асобе адзін раз, а пры паўторным учынку дае магчымасць намінацыі на ўзнагароджванне беларускімі нацыянальнымі ордэнамі, згодна з іх статутамі.

Арт. 5. Адзначэнне Узнагародай можа адбывацца пасмяротна.

Арт. 6. Асоба, якая скампраметавала сябе ўчынкамі крымінальнага характару, зафіксаванымі судовымі выракамі, можа быць пазбаўлена Узнагароды.

Арт. 7. Адзначаныя Узнагародаю атрымоўваюць яе бясплатна. Разам з Узнагародай выдаецца сертыфікат усталяванага ўзору.

Арт. 8. Гэты статут уваходзіць у жыццё дня 16 лістапада 2024 г.

Кіраўніца Аб’яднанага Пераходнага Кабінета Беларусі
С. Г. Ціханоўская

16 лістапада 2024 г.

# Крыж Адраджэння Беларусі. Візуальна-семантычнае апісанне

Крыж Адраджэння Беларусі (далей — Крыж) уяўляе сабой чатырохканцовы лапчаты крыж з зубчастымі канцамі, пакрыты эмаллю сіняга колеру, з упрыгожаннямі па баках у выглядзе стылізаванага лісця кветкі валошкі серабрыстага колеру. У цэнтры крыжа змешчаны круг серабрыстага колеру з каймой таго ж колеру. У цэнтры круга змешчаны ў профіль партрэты Івана і Антона Луцкевічаў серабрыстага колеру, скіраваныя ў левы бок, пад якімі — герб Беларускай Народнай Рэспублікі таго ж колеру. На кайме надпіс “ІВАН І АНТОН ЛУЦКЕВІЧЫ” серабрыстага колеру, справа і злева ад герба БНР — стужкі, стылізаваныя пад бел-чырвона-белы сцяг таго ж колеру.

На адваротным боку Крыжа размешчаны надпіс “НЯХАЙ ЖЫВЕ НЕЗАЛЕЖНАЯ ВОЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ”, ніжэй якой маецца нумар. Крыж мацуецца да вертыкальнай шасцікутнай калодкі з трапецападобным долам серабрыстага колеру пры дапамозе вушка. На калодцы размешчана стужка шырынёй 28 мм сіняга колеру з аблямоўкай белага колеру, у цэнтры якой тры палосы белага, чырвонага і белага колераў. Крыж мацуецца да адзення пры дапамозе заколкі-шпількі.

Памеры Крыжа: вышыня — 33 мм, шырыня — 33 мм. Вышыня калодкі — 50 мм, шырыня калодкі — 28 мм, шырыня палосак каймы — 2 мм, шырыня палос у цэнтры стужкі — 2,7 мм.

У аснове задумы сюжэта Крыжа ляжыць традыцыйны для беларускай геральдыкі рыцарскі крыж, стылізаваны пад кветку валошкі — традыцыйны народны сімвал Беларусі. Менавіта гэтым вызначаны асноўныя колеры Крыжа — срэбра (белы) і сіні.

Профільныя партрэты будзіцеляў беларускай нацыі братоў Івана (1881–1919) і Антона (1884–1942) Луцкевічаў аддаюць даніну павагі значным заслугам гэтых дзеячаў беларускага нацыянальнага адраджэння XX ст., якія стаялі ля вытокаў Беларускай Народнай Рэспублікі. На “айцоў БНР” указваюць таксама герб “Пагоня” ўзору 1918–1921 гг. (запазычаны з пашпарта БНР) і стужка, стылізаваная пад бел-чырвона-белы сцяг. Спалучэнне ўсіх гэтых элементаў на аверсе Крыжа сімвалізуе незнішчальную моц беларускага нацыянальна-вызваленчага руху і змаганне за сваю незалежную дзяржаву.

На адвароце надпіс “НЯХАЙ ЖЫВЕ НЕЗАЛЕЖНАЯ ВОЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ” з’яўляецца лозунгам, які быў агучаны 25 сакавіка 1918 г.

пры прыняцці ў Менску III Устаўной граматы аб незалежнасці БНР. У ім сфармулявана галоўная палітычная мэта беларускага нацыянальнага адраджэння, якая актуальная і сёння.

Сіні колер стужкі з белай каймой паўтарае галоўныя колеры валошкавага крыжа — срэбраны і сіні. Бел-чырвона-белая ўстаўка апелюе да колераў беларускага нацыянальнага сцяга.

Срэбра ў геральдыцы азначае сціпласць, шляхетнасць, ахвярнасць і чысціню.

Ордэн вырабляецца са срэбра 999-й пробы.

**АБ’ЯДНАНЫ ПЕРАХОДНЫ КАБІНЭТ БЕЛАРУСІ**

---

## КРЫЖ АДРАДЖЭНЬНЯ БЕЛАРУСІ




**нададзены**

______________________________________________

______________________________________________

**згодна з Пастановай ад** ____________________

**КІРАЎНІЦА АБ’ЯДНАНАГА ПЕРАХОДНАГА КАБІНЭТУ БЕЛАРУСІ**

**Сьвятлана Ціханоўская**

№ ______________









**АБ’ЯДНАНЫ ПЕРАХОДНЫ КАБІНЭТ БЕЛАРУСІ**

**КРЫЖ АДРАДЖЭНЬНЯ БЕЛАРУСІ**

**нададзены**

______________________________________

______________________________________

**КІРАЎНІЦА АБ’ЯДНАНАГА ПЕРАХОДНАГА КАБІНЭТУ БЕЛАРУСІ**

**Сьвятлана Ціханоўская**

№ __________

# Крыж Добрасуседства

ПАСТАНОВА
ад 16 лістапада 2024 г.

## Аб заснаванні крыжа Добрасуседства

Для адзначэння замежных грамадзян за выдатныя заслугі перад беларускім народам і Беларускай дзяржавай, якія сваёй дзейнасцю істотна паўплывалі на вырашэнне пэўных праблем палітычнага, сацыяльна-эканамічнага і культурнага характару, на падставе Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г. засноўваецца крыж Добрасуседства (далей — Крыж).

Арт. 1. Крыж з’яўляецца ўзнагародай вольнай Беларусі (Беларускай дзяржавы).

Арт. 2. Крыж уяўляе сабой прамы чатырохканцовы крыж серабрыстага колеру, пакрыты эмаллю белага і чырвонага колераў уздоўж канцоў, утвараючы роўнавялікія палосы белага, чырвонага і белага колераў. Крыж пакладзены на лаўровы вянок серабрыстага колеру. Памеры: вышыня — 33 мм, шырыня — 33 мм.

Av: у цэнтры круг серабрыстага колеру з вершнікам герба “Пагоня” таго ж колеру.

Rv: гладкі, у цэнтры па гарызанталі надпіс “ARMA IN MANU CUM PACE IN CORDE” серабрыстага колеру, у ніжняй частцы Крыжа размешчаны нумар.

Крыж носіцца на вертыкальнай шасцікутнай калодцы з трапецападобным нізам серабрыстага колеру. На калодцы размешчана стужка чырвонага колеру шырынёй 28 мм, у цэнтры якой тры роўнавялікія палосы белага, чырвонага і белага колераў шырынёй 2,5 мм кожная.

Арт. 3. Выкананне гэтай пастановы ўскладаецца на Аб’яднаны Пераходны Кабінет.

Арт. 4. Пастанова набывае моц у дзень яе прыняцця.

Кіраўніца Аб’яднанага Пераходнага Кабінета Беларусі

С. Г. Ціханоўская

16 лістапада 2024 г.

# Статут крыжа Добрасуседства

Арт. 1. Засноўваецца крыж Добрасуседства (далей — Узнагарода) з мэтай адзначэння замежных грамадзян за заслугі перад Беларуссю ў сферы міжнародных адносін.

Арт. 2. Узнагарода ўяўляе сабой прамы чатырохканцовы крыж серабрыстага колеру, пакрыты эмаллю белага і чырвонага колераў уздоўж канцоў, утвараючы роўнавялікія палосы белага, чырвонага і белага колераў.
На Узнагародзе змешчаны круг серабрыстага колеру з вершнікам герба "Пагоня" таго ж колеру. Крыж пакладзены на лаўровы вянок серабрыстага колеру. Адваротны бок гладкі, у цэнтры па гарызанталі надпіс "ARMA IN MANU CUM PACE IN CORDE" серабрыстага колеру, у ніжняй частцы Крыжа размешчаны нумар.
Узнагарода носіцца на вертыкальнай шасцікутнай калодцы. На ёй размешчана стужка чырвонага колеру, у цэнтры якой тры роўнавялікія палосы белага, чырвонага і белага колераў.
Дэталёвае апісанне і выява Узнагароды змешчаны ў дадатку да гэтага статута.
Узнагарода носіцца на левым баку грудзей цывільнай вопраткі або вайсковага мундзіра, а пры наяўнасці нацыянальных ці беларускіх ордэнаў размяшчаецца пасля іх.

Арт. 3. Узнагародай адзначаюцца замежныя грамадзяне:
- – за развіццё і паглыбленне мірных і добрасуседскіх адносін паміж беларускім і іншымі народамі праз палітычную, сацыяльную, культурніцкую і эканамічную супрацу;
- – развіццё публічнай дыпламатыі і пашырэнне дыялогу паміж беларускім і іншымі народамі;
- – дзейсную дапамогу і эфектыўнае спрыянне беларускаму народу і Беларускай дзяржаве ў мірны ці ваенны час, якія істотна паўплывалі на вырашэнне пэўных праблем знешнепалітычнага характару;
- – плённую дзейнасць па выяўленні, выратаванні, вывучэнні і захаванні беларускай культурнай спадчыны;
- – выратаванне і дапамогу беларускім грамадзянам падчас надзвычайных сітуацый і ваенных канфліктаў.

Арт. 4. Узнагарода надаецца адной і той жа асобе адзін раз, а пры паўторным учынку дае магчымасць намінацыі на ўзнагароджванне беларускімі нацыянальнымі ордэнамі, згодна з іх статутамі.

Арт. 5. Адзначэнне Узнагародай можа адбывацца пасмяротна.

Арт. 6. Асоба, якая скампраметавала сябе ўчынкамі крымінальнага характару, зафіксаванымі судовымі выракамі, можа быць пазбаўлена Узнагароды.

Арт. 7. Адзначаныя Узнагародай атрымоўваюць яе бясплатна. Разам з узнагародай выдаецца сертыфікат усталяванага ўзору.

Арт. 8. Гэты статут уваходзіць у жыццё дня 16 лістапада 2024 г.

Кіраўніца Аб'яднанага Пераходнага Кабінета Беларусі

С. Г. Ціханоўская

## Крыж Добрасуседства. Візуальна-семантычнае апісанне

Крыж Добрасуседства ўяўляе сабой прамы чатырохканцовы крыж серабрыстага колеру, пакрыты эмаллю белага і чырвонага колераў уздоўж канцоў, утвараючы роўнавялікія палосы белага, чырвонага і белага колераў. На крыжы — круг серабрыстага колеру з вершнікам герба "Пагоня" таго ж колеру. Крыж пакладзены на лаўровы вянок серабрыстага колеру.

Адваротны бок крыжа Добрасуседства гладкі, у цэнтры па гарызанталі надпіс "ARMA IN MANU CUM PACE IN CORDE" серабрыстага колеру, у ніжняй частцы крыжа размешчаны нумар.

Крыж Добрасуседства мацуецца да вертыкальнай шасцікутнай калодкі з трапецападобным нізам серабрыстага колеру пры дапамозе вушка. На калодцы размешчана стужка чырвонага колеру шырынёй 28 мм, у цэнтры якой тры роўнавялікія палосы белага, чырвонага і белага колераў шырынёй 2,5 мм кожная. Крыж мацуецца да адзення пры дапамозе заколкі-шпількі.

Памеры крыжа Добрасуседства: вышыня — 33 мм, шырыня — 33 мм.

У аснове задумы сюжэта крыжа Добрасуседства — просты чатырохканцовы крыж, які складаецца з чатырох плахтаў беларускага нацыянальнага сцяга і вершніка герба "Пагоня" ў рэдакцыі 1991 г. у цэнтры, што ўтварае сабой умоўнае перакрыжаванне напрамкаў на захад, усход, поўнач і поўдзень знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь. Лаўровы вянок з'яўляецца сімвалам пашаны, даверу, узаемаразумення і падзякі за наладжванне адносін добрасуседства паміж Беларуссю і іншымі краінамі.

Надпіс "ARMA IN MANU CUM PACE IN CORDE" на рэверсе перакладаецца як "Зброя ў руках, з мірам у сэрцы", што з'яўляецца вербальным тлумачэннем сэнсу выявы "Пагоня", зробленым у 1918 г. Раманам Скірмунтам пры фармуляванні прынцыпаў дыпламатыі Беларускай Народнай Рэспублікі.

Чырвоны колер стужкі і палосы нацыянальных колераў разам з крыжам утвараюць умоўны шлях да вольнай Беларусі праз паразы і перамогі, кроў ахвяр і чысціню душы беларусаў. Срэбра сімвалізуе сумленнасць, шляхетнасць і сціпласць.

Крыж вырабляецца з латуні з пакрыццём срэбрам 925-й пробы.

**АБ’ЯДНАНЫ ПЕРАХОДНЫ КАБІНЭТ БЕЛАРУСІ**

**Крыж добрасуседства**




**нададзены**

______________________________________________

______________________________________________

**згодна з Пастановай ад** ____________________

**КІРАЎНІЦА АБ’ЯДНАНАГА ПЕРАХОДНАГА КАБІНЭТУ БЕЛАРУСІ**

**Сьвятлана Ціханоўская**

№ ______________






АБ'ЯДНАНЫ ПЕРАХОДНЫ КАБІНЭТ БЕЛАРУСІ

Крыж добрасуседства

нададзены

________________________________

________________________________

КІРАЎНІЦА АБ'ЯДНАНАГА ПЕРАХОДНАГА КАБІНЭТУ БЕЛАРУСІ

Сьвятлана Ціханоўская

№ ________

# Медаль “За баявыя заслугі”

## Статут медаля “За баявыя заслугі”

1. Медаль за баявыя заслугі (далей — Медаль) з’яўляецца ўзнагародай, якая мае пераемнасць з найстарэйшай гістарычнай вайсковай узнагародай Беларускай дзяржавы — ордэнам “Virtuti Militari”, заснаваным у 1792 г. Адроджаная і змененая ўзнагарода адлюстроўвае каштоўнасці Беларусі як незалежнай дэмакратычнай рэспублікі.

2. Медаль надаецца за асабістую адвагу, праяўленую ў абставінах, звязаных з рызыкай для жыцця і з абаронай свабоды, суверэнітэту і дэмакратычнага канстытуцыйнага ладу Беларусі на грунце ідэалаў 25 сакавіка, у прыватнасці, пры выкананні вайсковага і службовага абавязку, у баях і пры выкананні спецыяльных заданняў у нацыянальных інтарэсах Беларусі.

3. Медаль можа ўручацца:
- – удзельнікам Збройных сіл Беларусі і службаў, якія прыраўноўваюцца да вайсковых, у тым ліку беларускіх партызанскіх аддзелаў і беларускіх вайсковых аддзелаў у складзе замежных войскаў;
- – беларусам (як беларускім грамадзянам, так і асобам, якія належаць да беларускага народа, не з’яўляючыся грамадзянамі Рэспублікі Беларусь), якія ў асабістай якасці ваююць у шэрагах замежных войскаў і службаў па-за межамі беларускіх вайсковых аддзелаў;
- – замежным вайскоўцам, якія адпавядаюць крытэрыям, вызначаным у арт. 2 статута, і якія істотна спрыялі выкананню вайскоўцамі-беларусамі збройнай місіі ў адпаведнасці з крытэрыямі, вызначанымі ў арт. 2 статута;
- – цывільным асобам-некамбатантам, якія адпавядаюць умовам арт. 2 статута.

4. Медаль надаецца дэкрэтам Старшыні Рады БНР.

4.1. Спісы кандыдатаў на ўзнагароджванне рыхтуюцца Камісіяй па ўзнагароджаннях пры Радзе БНР, разглядаюцца і зацвярджаюцца Старшынёю Рады БНР і заступнікамі Старшыні Рады БНР у адпаведнасці са статутам Камісіі па ўзнагароджаннях пры Радзе БНР.

4.2. Камісія па ўзнагароджаннях пры Радзе БНР рыхтуе спісы кандыдатаў на ўзнагароджванне на падставе прадстаўленняў камандзіраў адпаведных вайсковых частак або ўласных звестак.

4.2.1. Прадстаўленні да ўзнагароджання падаюцца ў Камісію па ўзнагароджаннях пры Радзе БНР у адвольнай пісьмовай або электроннай форме.

4.2.2. Прадстаўленне да ўзнагароджвання Медалём павінна змяшчаць агульныя звесткі пра кандыдата на ўзнагароджванне і характар учынку, за які мае адбыцца ўзнагароджванне. У рамках аднаго прадстаўлення могуць быць прадстаўлены да ўзнагароды як адзін, так і некалькі кандыдатаў.

4.3. Узнагароджванне Медалём можа адбывацца пасмяротна.

4.4. Узнагароджанне Медалём, якое ўжо адбылося, можа быць скасавана, калі высветліцца непраўдзівасць звестак, якія сталі падставай для ўзнагароджвання, або калі ўзнагароджаная асоба дыскрэдытуе сябе дзеяннямі, якія супярэчаць ідэалам вольнай і дэмакратычнай Беларусі ў адпаведнасці з прынцыпамі 25 сакавіка.

4.4.1. Касаванне ўзнагароджвання можа быць ініцыявана Камісіяй па ўзнагароджаннях пры Радзе БНР, яно патрабуе ўхвалення з боку Старшыні Рады БНР і заступнікаў Старшыні Рады БНР, адбываецца паводле дэкрэта Старшыні Рады БНР.

5. Асобам, узнагароджаным Медалём, выдаецца сертыфікат усталяванага ўзору.

6. Старэйшаю ўзнагародай адносна Медаля з'яўляецца тытул кавалера (дамы) ордэна Жалезнага рыцара. Медаль носіцца на левым баку грудзей, пасля ордэнскіх знакаў.

7. Выгляд Медаля адлюстраваны ў эскізе, які з'яўляецца дадаткам да статута.

7.1. Медаль увесь з белага (для шарагоўцаў і падафіцэраў) або жоўтага (для афіцэраў, паўторнага ўзнагароджання шарагоўцаў і падафіцэраў або за асаблівыя заслугі) металу, авальнай формы. На ліцавым баку выява гістарычнага герба "Малая Пагоня" (рука вершніка з герба "Пагоня", якая трымае меч) і стужкі з трыма палосамі, якая ўвасабляе беларускі бел-чырвона-белы сцяг.

На адваротным баку надпіс “Virtute et Gladio” (“Адвагаю і мячом” на лацінскай мове) і індывідуальны нумар Медаля. Пры пазначэнні нумара Медаля ў сертыфікаце для медалёў жоўтага металу побач з нумарам робіцца пазнака “(A)”. У выпадку нашэння калодак на калодцы для медаля жоўтага металу пасярэдзіне можа дадавацца вузкая вертыкальная лінія залатога колеру.

7.2. Стужка Медаля складаецца з вертыкальных палос наступных колераў і размешчаных у наступным парадку: вельмі вузкая белая, шырокая кармазынавая, вельмі вузкая белая.

8. Гэты статут уваходзіць у жыццё дня 21 студзеня 2023 г.

Зацьверджана:

Івонка Сурвілла,
Старшыня Рады БНР

21 студзеня 2023 г.

**РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ**

## МЭДАЛЬ “ЗА БАЯВЫЯ ЗАСЛУГІ”




Мэдаль “За баявыя заслугі” Рады Беларускае Народнае Рэспублікі
нададзены

________________________________________

________________________________________

згодна Дэкрэту Старшыні Рады БНР ад ____________________

**СТАРШЫНЯ РАДЫ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ**

**Івонка Сурвіла**

№ ______________




РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

**МЭДАЛЬ ЗА БАЯВЫЯ ЗАСЛУГІ**

нададзены

______________________________

па прадстаўленьні ______________________

паводле Дэкрэту Старшыні Рады БНР ад ______________

СТАРШЫНЯ РАДЫ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ
Івонка Сурвілла

№ __________

# Медаль "За адвагу"

Пастанова
аб заснаванні ўзнагарод "Крыж Змагання Тадэвуша Касцюшкі", "Крыж Ахвярнасці Эміліі Плятэр", медаля "За адвагу" і адраджэнні ордэна Кастуся Каліноўскага

Для ўзнагароджвання беларускіх вайскоўцаў пастанаўляецца:

Заснаваць узнагароды: "Крыж Змагання Тадэвуша Касцюшкі", узнагароду "Крыж Ахвярнасці Эміліі Плятэр", медаль "За адвагу" і адрадзіць скасаваны рэжымам А. Лукашэнкі ордэн Кастуся Каліноўскага (далей — Узнагароды).

Зацвердзіць статуты Узнагарод уключна з апісаннямі і эскізамі.
Даручыць Геральдычнай радзе "Пагоня" і адпаведным структурам БВА арганізаваць выраб Узнагарод і сертыфікатаў да іх, а таксама іх захаванне.

Даручыць Камісіі па ўзнагароджанні БВА арганізаваць:
– працэс прадстаўлення да Узнагарод;
– вядзенне рэгістра ўзнагароджаных.

Пастанова набывае моц у дзень яе прыняцця.

Зацверджана Часовай вайсковай камісіяй БВА.

8 жніўня 2024 г. Пячатка, подпіс

# Статут медаля “За адвагу”

На падставе Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г. і Пастановы ад 8 жніўня 2024 г. сведчым, што:

Арт. 1. Засноўваецца медаль “За адвагу” (далей — Медаль) з мэтай узнагароджвання беларускіх і замежных грамадзян за асабістую мужнасць і адвагу ў мірны і ваенны час. Медаль уручаецца асобам, якія ў небяспечнай для навакольных сітуацыі з рызыкай для свайго жыцця і здароўя праявілі вытрымку, асабістую мужнасць і адвагу, што садзейнічала выкананню пастаўленай задачы, выратаванню людзей, жывёл ці маёмасці або ліквідацыі іншых пагроз.

Арт. 2. Медаль “За адвагу” ўяўляе сабой круглы медальён серабрыстага колеру, у цэнтры якога выява льва з мячом і тарчай, на якой шасціканцовы крыж.
На адваротным баку медальёна ў цэнтры размешчаны надпіс “АДВАГА”, пад якім лісце дуба і тры жалуды. Ніжэй маецца нумар.
Медальён мацуецца да вертыкальнай шасцікутнай калодкі з трапецападобным нізам серабрыстага колеру пры дапамозе вушка. На калодцы размешчана стужка чорнага колеру, у цэнтры якой палоса чырвонага колеру. Медаль “За адвагу” мацуецца да адзення пры дапамозе заколкі-шпількі.
Вышыня калодкі — 50 мм, шырыня — 28 мм, шырыня палосак — 2 мм.
Медаль носіцца пасля ордэнаў, крыжоў і баявых медалёў (пасля медалёў “За баявыя заслугі”), перад медалямі Францыска Скарыны, “Няскораных Ларысы Геніюш”, “За плённую працу на карысць Беларусі”, “Гонар і Годнасць”, Сцяга і замежнымі ўзнагародамі.

Арт. 3. Медаль надаецца адной і той жа асобе адзін раз, а пры паўторным учынку дае магчымасць намінацыі на ўзнагароджванне крыжам Змагання Тадэвуша Касцюшкі, Партызанскім народным крыжам, крыжам Ахвярнасці Эміліі Плятэр, крыжам Свабоды, крыжам Адраджэння Беларусі ці крыжам Добрасуседства (для замежных грамадзян).

Арт. 4. Узнагароджванне Медалём можа адбывацца пасмяротна.

Арт. 5. Медаль можа быць адабраны ў асобы, якая скампраметавала сябе ўчынкамі крымінальнага характару, зафіксаванымі судовымі выракамі.

Арт. 6. Узнагароджаныя Медалём атрымоўваюць яго бясплатна ва ўрачыстай абстаноўцы ў адпаведнасці з вызначаным цырыманіялам. Разам з ім выдаецца сертыфікат усталяванага ўзору.

Арт. 7. Статут Медаля ўваходзіць у жыццё дня 8 жніўня 2024 г.

8 жніўня 2024 г. Пячатка, подпіс

# Медаль “За адвагу”.
# Візуальна-семантычнае апісанне

Медаль “За адвагу” ўяўляе сабой круглы медальён серабрыстага колеру, у цэнтры якога выява льва з мячом і тарчай, на якой шасціканцовы крыж.

На адваротным баку медальёна ў цэнтры размешчаны надпіс “АДВАГА”, пад якім лісце дуба і тры жалуды. Ніжэй маецца нумар.

Медальён мацуецца да вертыкальнай шасцікутнай калодкі з трапецападобным нізам серабрыстага колеру пры дапамозе вушка. На калодцы размешчана стужка чорнага колеру, у цэнтры якой палоса чырвонага колеру. Медаль “За адвагу” мацуецца да адзення пры дапамозе заколкі-шпількі.

Памеры медаля: дыяметр медальёна — 32 мм, вышыня калодкі — 50 мм, шырыня калодкі — 28 мм, шырыня палосак — 2 мм.

У аснове задумы сюжэта медаля “За адвагу”— леў з мячом і тарчай з шасціканцовым крыжам. Атакуючы леў — распаўсюджаная фігура ў беларускай геральдыцы і сімволіцы. Леў — сімвал моцы і адвагі, жывёла, якая не саступае нікому. Дуб — культавае дрэва для беларусаў, традыцыйны сімвал вайсковай і працоўнай славы, цвёрдасці і зацятасці. Дуб з жалудамі сімвалізуе сілу і сталасць, дуб без жалудоў — юначую доблесць, жалуды дуба — годнае падрастаючае пакаленне.

Чорны колер стужкі медаля азначае пагарду да смерці, чырвоны колер сімвалізуе ахвяру ўласным жыццём і здароўем. Срэбра ў геральдыцы сімвалізуе сумленнасць, ахвярнасць і бескарыслівасць.

Медаль вырабляецца з латуні з пакрыццём срэбрам 925-й пробы.

# БЕЛАРУСКАЯ ВЫЗВОЛЬНАЯ АРМІЯ

## МЕДАЛЬ «ЗА АДВАГУ»




нададзены

________________________________________

________________________________________

згодна з Загадам ____________________________

Старшыня Часовай вайсковай камісіі __________________

№ ______________




**БЕЛАРУСКАЯ ВЫЗВОЛЬНАЯ АРМІЯ**

**МЕДАЛЬ «ЗА АДВАГУ»**

нададзены

______________________________________________

______________________________________________

Старшыня Часовай вайсковай камісіі

№ ________

# Мэдаль Партызана

## Статут мэдаля Партызана

1. Мэдаль Партызана надаецца Прэзыдэнтам БНР беларусам, якія змагаліся ў радох Беларускай Нацыянальнай Партызанкі за Незалежнасьць Беларусі супроць акупантаў нашай Радзімы.

2. Мэдаль Партызана надаецца на прапанову партызанскага штабу камандзірам партызанскіх аддзелаў і на прапанову камандзіраў партызанскіх аддзелаў праз партызанскі штаб кожнаму партызану.

3. Мэдаль Партызана Першай Ступені надаецца камандзірам аддзелаў і начальнікам штабаў аддзелаў. Мэдаль Партызана Другой Ступені — кожнаму партызану. Мэдаль Партызана Першай Ступені можа атрымаць кожны партызан за выдатныя баявыя заслугі.

4. Мэдаль Партызана Першай Ступені ўвесь залаты, на ліцавым баку выбітыя дзьве скрыжаваныя стрэльбы і літары "Б.Н.Р.", на адваротным баку выбіты дэвіз: "За Бацькаўшчыну". Мэдаль Партызана Другой Ступені срэбны, рэшта — як Першая Ступень. Істужка мэдалю Партызана трох колераў — чырвона-зямельна-зялёная, зложаная трохкутнікам. На істужцы Першай Ступені дзьве скрыжаваныя стрэльбы (глядзі рысунак).

5. Гэтае распараджэньне ўваходзіць у жыцьцё дня 5 жніўня 1951 г.

# Мэдаль да 100-годдзя Беларускай Народнай Рэспублікі

## Статут мэдаля да 100-годдзя Беларускай Народнай Рэспублікі

1. Мэдаль да 100-годзьдзя БНР (далей — Мэдаль) надаецца ў адзначэньне стогадовага юбілею з дня прыняцьця Трэцяе Ўстаўнае граматы Рады БНР 25 сакавіка 1918 г., у якой абвяшчалася пра дзяржаўную незалежнасьць Беларусі.

2. Мэдаль надаецца на адзначэньне асаблівых заслуг на карысьць увасабленьня ідэалаў 25 сакавіка, у тым ліку за дасьледваньні і папулярызацыю беларушчыны, здабыцьцё і ўмацаваньне дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі, барацьбу за свабоду і дэмакратыю ў Беларусі.

3. Мэдаль уручаецца:

– асобам, якія адзначыліся на ніве змаганьня за волю і незалежнасьць Беларусі;

– выбітным грамадзкім і культурніцкім дзеячам у Беларусі і сярод беларускага замежжа;

– замежнікам, якія спрычыніліся да дасьледваньняў і папулярызацыі Беларусі ў сьвеце, а таксама іншым чынам спрыялі нацыянальным інтарэсам Беларусі.

4. Мэдаль надаецца дэкрэтам Старшыні Рады БНР.

4.1. У 2018 г. Мэдалём адзначаюцца ня менш як 120 асобаў, сьпіс якіх падрыхтаваны Камісіяй па ўзнагароджваньнях пры Радзе БНР, зацьвярджаецца Старшынёю Рады БНР і заступнікамі Старшыні Рады БНР у адпаведнасьці з статутам Камісіі па ўзнагароджваньнях пры Радзе БНР.

4.2. Старшыня Рады БНР пасьля кансультацый з Камісіяй па ўзнагароджваньнях пры Радзе БНР і з заступнікамі Старшыні Рады БНР можа таксама надаваць Мэдаль сваім спэцыяльным дэкрэтам ці распараджэньнем іншым асобам у колькасьці ня больш за 10 на працягу 2018 г. або пасьля яго.

5. Асобам, узнагароджаным Мэдалём, выдаецца пасьведчаньне ўсталяванага ўзору.

6. Выгляд Мэдалю адлюстраваны ў эскізе, які зьяўляецца дадаткам да гэтага статута.

6.1. Мэдаль увесь бронзавы, круглае формы, на ліцавым баку выява герба “Пагоня”, на адваротным баку выбіты надпіс “100 гадоў БНР”.

6.2. Стужка Мэдалю складаецца з вэртыкальных палос наступных колераў і разьмешчаных у наступным парадку: шырокая белая, вузкая чорная, шырокая чырвоная, вузкая чорная, шырокая белая.

7. Кошты, зьвязаныя з выпрацоўкай Мэдалю, нясе Скарб БНР.

8. Гэты статут уваходзіць у жыцьцё дня 25 сакавіка 2018 г.

Зацьверджана:

Івонка Сурвілла,
Старшыня Рады БНР

23 сакавіка 2018 г.

З папраўкамі ад 17 сьнежня 2018 г.

**РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ**

## МЭДАЛЬ ДА 100-ГОДЗЬДЗЯ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

 


Мэдаль да 100-годзьдзя Беларускае Народнае Рэспублікі
нададзены

______________________________

______________________________

згодна Дэкрэту Старшыні Рады БНР ад ______________

**СТАРШЫНЯ РАДЫ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ**

**Івонка Сурвіла**

№ __________

# Мэдаль ордэна Пагоні

У 2022 г. Рада БНР абнавіла статут ордэна Пагоні, дадаўшы ў яго мэдаль ордэна Пагоні ў якасьці ордэнскай узнагароды. Гэтая ўзнагарода нефармальна разглядаецца Радай БНР як "бестэрміновы" і пастаянны эквівалент мэдаля да 100-годзьдзя БНР, які ў якасьці асноўнай узнагароды Рады БНР у выгнаньні мае ўручацца да моманту перадачы паўнамоцтваў Рады БНР сталаму дэмакратычнаму ўраду незалежнай Беларусі.

## Вытрымка са статута ордэна Пагоні

Арт. 17. Мэдаль Пагоні (далей таксама "Мэдаль") зьяўляецца ўзнагародай Ордэна і дзяржаўнай узнагародай Беларусі, адносна якой вышэйшым па сваім статусе ёсьць тытул кавалера ці дамы Ордэна. Узнагароджваньне Мэдалём не азначае прыняцьцё ў кавалеры ці дамы Ордэна.

Арт. 17.1. Мэдаль уручаецца беларускім грамадзянам і замежнікам беззаганнага характару, якія маюць асаблівыя заслугі перад беларускім народам:

- асобам, якія адзначыліся на ніве змаганьня за волю і незалежнасьць Беларусі;
- выбітным грамадзкім і культурніцкім дзеячам у Беларусі і сярод беларускага замежжа;
- замежнікам, якія спрычыніліся да дасьледваньняў і папулярызацыі Беларусі ў сьвеце, а таксама іншым чынам спрыялі нацыянальным інтарэсам Беларусі.

Арт. 17.2. Мэдаль уручаецца адмысловым дэкрэтам Старшыні Рады БНР. Дэкрэт зьмяшчацьме заслугі, за якія ўручаецца Мэдаль.

Арт. 17.2.1. Мэдаль можа быць пасьмяротнай узнагародай за заслугі паводле арт. 17.1 гэтага статута, але надавацца напрацягу ня больш як 10 гадоў пасьля сьмерці. Пры рашэньні аб пасьмяротным узнагароджваньні імя ўносіцца ў сьпіс спачылых узнагароджаных Мэдалём, блізкім сваякам уручаецца Мэдаль і выдаецца дыплём аб узнагароджаньні кіраўніцтвам Капітулы Ордэна або воргана, які дзейнічае ў яе якасьці.

Арт. 17.3. Сьпіс кандыдатаў на ўзнагароджваньне складаецца і зацьвярджаецца ў адпаведнасьці з п. 3.1. статута Камісіі па ўзнагароджваньнях пры Радзе БНР. Камісія па ўзнагароджваньнях пры Радзе БНР таксама павінна атрымаць меркаваньне Капітулы Ордэна (пры яе наяўнасьці) датычна кандыдатаў на ўзнагароджаньне.

Арт. 17.4. Асобам, узнагароджаным Мэдалём, выдаецца дыплём ўсталяванага ўзору Камісіяй па ўзнагароджваньнях Рады БНР.

Арт. 17.5. Выгляд Мэдаля і стужкі Мэдаля адлюстраваны ў эскізе, які зьяўляецца дадаткам да гэтага статуту.

Арт. 17.5.1. Мэдаль увесь з жоўтага мэталу, круглае формы, на ліцавым баку выява крыжа ордэну Пагоні, на адваротным баку выбіты надпіс: "Не разьбіць, Не спыніць, Не стрымаць" і зьмешчаны нумар.

Арт. 17.5.2. Стужка Мэдаля складаецца з вэртыкальных палосаў наступных колераў, разьмешчаных у наступным парадку: тонкая чырвоная, шырокая белая, шырокая чырвоная, шырокая белая, тонкая чырвоная.

Арт. 17.6. Перастае быць узнагароджаным Мэдалём той ці тая, каго Капітула або ворган, які дзейнічае ў яе якасьці, выключыць зь ліку ўзнагароджаных пры ўхваленьні гэтага рашэньня Прэзыдыюмам Рады БНР дзеля:

а) неганаровага ўчынку, у тым ліку карысьлівага злачынства з элемэнтам ашуканства;
б) адкрыцьця новых фактаў, што касуюць праўдзівасьць ці важнасьць падставаў рашэньня аб узнагароджваньні;
в) за здраду ідэалам Беларускай Народнай Рэспублікі.

Арт. 17.6.1. Капітула або ворган, які дзейнічае ў яе якасьці, можа з увагі на абставіны выключэньня зь ліку ўзнагароджаных Мэдалём, зьвязаныя зь пералічанымі ў арт. 17.6, абвясьціць аб забароне публічнага нашэньня такой асобай Мэдаля раней ці замест выключэньня.

Арт. 17.7. Асобы, узнагароджаныя раней мэдалём Пагоні, паўторна гэтым мэдалём не ўзнагароджваюцца, а могуць атрымліваць тытул кавалера або дамы Ордэна.

Арт. 18. Характар заслуг, за якія адбылася ўзнагарода Ордэнам ці Мэдалём, можа быць абазначаны на стужцы Мэдаля, крыжа Ордэна і на плянках узнагарод адпаведнымі адзнакамі:

– за вайсковыя ці аналягічныя вайсковым заслугі або заслугі ў баявых ці аналягічных баявым абставінах: на стужках крыжа, стужцы Мэдаля і на плянках носіцца сымбаль скрыжаваных шабляў залатога колеру;
– праяву надзвычайнай адвагі ў любых абставінах — знак ліста дубу залатога колеру;
– дасягненьні ў сфэры адукацыі, навукі, культуры — знак расчыненае кнігі і паходні залатога колеру.

Арт. 18.1. Гэтыя дадатковыя адзнакі могуць надавацца і насіцца адначасова. Узнагароджваньне асобаў, раней узнагароджаных адзнакамі Ордэна ці Мэдалём, правам нашэньня гэтых адзнакаў можа адбывацца дадаткова. Права на нашэньне гэтых адзнак усталёўваецца ў дэкрэце аб узнагароджваньні, зазначаецца ў дыплёме Ордэна або дыплёме Мэдаля.

Арт. 18.2. Выгляд дадатковых адзнак будзе зацьверджаны асобна.

Арт. 19. Плянкі адзнак ордэна Пагоні і мэдаля Пагоні складаюцца з адпаведных стужак ордэна Пагоні ці мэдаля Пагоні прастакутнай формы або круглай формы (разеткі). На іх дадаюцца асаблівыя адзнакі, пералічаныя ў арт. 18. Могуць насіцца мініятурныя выявы адпаведнай адзнакі ордэна Пагоні ці мэдаля Пагоні. Фракавыя мініятуры адзнакаў ордэна Пагоні могуць насіцца на разетцы колераў адпаведнай ордэнскай стужкі.

Арт. 20. У выгнаньні Рада БНР узнагароджвае толькі мэдалём і крыжам ордэну Пагоні.

Арт. 21. Гэтае распараджэньне ўваходзіць у жыцьцё дня 5 жніўня 1951 г. Абноўленая рэдакцыя гэтага распараджэньня ўваходзіць у жыцьцё 24 лістапада 2022 г.

Зацьверджана:

Івонка Сурвілла,
Старшыня Рады БНР

24 лістапада 2022 г.

**РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ**
**RADA OF THE BELARUSIAN DEMOCRATIC REPUBLIC**

## МЭДАЛЬ ОРДЭНУ ПАГОНІ
## THE MEDAL OF THE PAHONIA ORDER




Мэдаль Ордэну Пагоні,
усталяваны папраўкамі да Статуту
ад 24 лістапада 2022 году,
нададзены

______________________________

на знак прызнаньня

______________________________________________
______________________________________________

згодна Дэкрэту Старшыні Рады БНР
ад ___________________

Мэдаль за нумарам ___________________

**СТАРШЫНЯ РАДЫ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ**

**Івонка Сурвілла**

The Medal of the Pahonia Order
established by the amendments
to the Charter of 24 November 2022
is presented to

______________________________

in recognition of

______________________________________________
______________________________________________

by the Decree of the President of the
Rada of the Belarusian Democratic
Republic in Exile of ____________________

Medal number ___________________

**PRESIDENT OF THE RADA OF THE BELARUSIAN DEMOCRATIC REPUBLIC IN EXILE**

**Ivonka J. Survilla**







**РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ**

**МЭДАЛЬ ОРДЭНУ ПАГОНІ**

нададзены

______________________________________________

па прадстаўленьні ______________________________

паводле Дэкрэту Старшыні Рады БНР ад ______________

**СТАРШЫНЯ РАДЫ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ**

**Івонка Сурвілла**

№ __________

# Медаль “Нямкораных Ларысы Геніюш”

ПАСТАНОВА
ад 16 лістапада 2024 г.

## Аб заснаванні медаля “Няскораных Ларысы Геніюш”

Для адзначэння беларускіх і замежных грамадзян за значныя заслугі перад беларускім народам і Беларускай дзяржавай у абароне ў мірны і ваенны час правоў чалавека, дэмакратычных свабод, агульначалавечых і нацыянальных культурных каштоўнасцяў, а таксама ў адстойванні маральных прынцыпаў і нормаў на падставе Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г. засноўваецца медаль “Няскораных Ларысы Геніюш”.

Арт. 1. Медаль “Няскораных Ларысы Геніюш” (далей — Медаль) з’яўляецца ўзнагародай Беларусі (Беларускай дзяржавы).

Арт. 2. Медаль уяўляе сабой круглы медальён залацістага колеру (дыяметр — 32 мм).

Av: у цэнтры — партрэт Ларысы Геніюш, скіраваны ўлева, за якім унізе стужка, падзеленая на тры роўнавялікія палосы, якія сімвалізуюць бел-чырвона-белыя колеры беларускага нацыянальнага сцяга. Знізу партрэта па краі Медаля подпіс “Ларыса Геніюш”. Поле медальёна рэльефна падзелена наўскос на дзве часткі, правая з якіх — больш цёмная.

Rv: у цэнтры ў промнях сонца размешчаны надпіс “ЖЫЦЬ ДЛЯ БЕЛАРУСІ”, над ім геральдычна ўправа ляціць птушка.

Медаль носіцца на вертыкальнай шасцікутнай калодцы з трапецападобным нізам. На калодцы размешчана стужка шэрага колеру з падвойнай аблямоўкай жоўтага і шэрага колераў. Медаль мацуецца да адзення пры дапамозе заколкі-шпількі. Вышыня калодкі — 50 мм, шырыня — 28 мм, шырыня палос — 2,5 мм.

Арт. 3. Выкананне гэтай пастановы ўскладаецца на Геральдычную раду “Пагоня” і Аб’яднаны Пераходны Кабінет.
Парадак прысваення Медаля вызначае Камісія па ўзнагароджаннях.

Арт. 4. Пастанова набывае моц у дзень яе прыняцця.

Кіраўніца Аб’яднанага Пераходнага Кабінета Беларусі
С. Г. Ціханоўская

6 лістапада 2024 г.

## Статут медаля “Няскораных Ларысы Геніюш”

Арт. 1. Засноўваецца медаль “Няскораных Ларысы Геніюш” (далей — Медаль) з мэтай узнагароджвання за значныя заслугі перад беларускім народам у барацьбе за правы чалавека і дэмакратычныя свабоды.

Арт. 2. Медаль уяўляе сабой круглы медальён залацістага колеру, на аверсе якога ў цэнтры партрэт Ларысы Геніюш. За ім унізе стужка, падзеленая на тры роўнавялікія паласы, якія сімвалізуюць колеры беларускага нацыянальнага сцяга. Унізе партрэта па краі Медаля подпіс “Ларыса Геніюш”. Поле медальёна рэльефна падзелена наўскос на дзве часткі, правая з якіх — больш цёмная. На рэверсе ў цэнтры ў промнях сонца размешчаны надпіс “ЖЫЦЬ ДЛЯ БЕЛАРУСІ”, над ім — геральдычна ўправа ляціць птушка.
Медаль носіцца з левага боку грудзей на калодцы са стужкай шэрага колеру з падвойнай жоўтай і шэрай аблямоўкай. Медаль мацуецца да адзення пры дапамозе заколкі-шпількі.

Арт. 3. Медаль можа ўручацца беларускім ды замежным грамадзянам і асобам без грамадзянства, якія:
- сваёй актыўнай дзейнасцю спрыялі абароне і ўмацаванню ў Беларусі ідэалаў дэмакратыі і правоў чалавека, развіццю беларускай грамадзянскай супольнасці або
- праявілі асабістую адвагу, стойкасць і ахвярнасць у дзейнасці на карысць прасоўвання ідэалаў дэмакратыі і правоў чалавека.

Арт. 4. Медаль можа надавацца адной і той жа асобе адзін раз і пры будучых заслугах дае магчымасць намінацыі на атрыманне больш высокіх узнагарод.

Арт. 5. Узнагароджанне Медалём можа адбывацца пасмяротна.

Арт. 6. Асоба, якая скампраметавала сябе ўчынкамі крымінальнага характару, зафіксаванымі судовымі выракамі, можа быць пазбаўлена Медаля.

Арт. 7. Узнагароджаныя Медалём атрымоўваюць яго бясплатна. Разам з Медалём выдаецца сертыфікат усталяванага ўзору.

Арт. 8. Гэты статут уваходзіць у жыццё дня 16 лістапада 2024 г.

Кіраўніца Аб’яднанага Пераходнага Кабінета Беларусі

С. Г. Ціханоўская

16 лістапада 2024 г.

# Медаль “Няскораных Ларысы Геніюш”. Візуальна-семантычнае апісанне

Медаль “Няскораных Ларысы Геніюш” (далей — Медаль) уяўляе сабой круглы медальён залацістага колеру, у цэнтры якога партрэт Ларысы Геніюш, скіраваны ўлева. За ім унізе стужка, падзеленая на тры роўныя палосы, якія сімвалізуюць бел-чырвона-белыя колеры беларускага нацыянальнага сцяга. Знізу партрэта па краі Медаля подпіс “Ларыса Геніюш”. Поле медальёна рэльефна падзелена наўскос на дзве часткі, правая з якіх — больш цёмная.

На адваротным баку медальёна ў цэнтры ў промнях сонца размешчаны надпіс “ЖЫЦЬ ДЛЯ БЕЛАРУСІ”, над ім — геральдычна ўправа ляціць птушка.

Медальён мацуецца да вертыкальнай шасціканцовай калодкі з трапецападобным нізам пры дапамозе вушка. На калодцы размешчана стужка шэрага колеру з падвойнай аблямоўкай жоўтага і шэрага колераў. Медаль мацуецца да адзення пры дапамозе заколкі-шпількі.

Памеры Медаля: дыяметр медальёна — 32 мм, вышыня калодкі — 50 мм, шырыня калодкі — 28 мм, шырыня палос — 2 мм.

У аснове задумы сюжэта Медаля — вобраз Ларысы Геніюш, няскоранай палітзняволенай у БССР і СССР, профіль якой выступае з цемры ў святло, яна аптымістычна глядзіць у будучыню, сцвярджаючы перамогу свабоды і дэмакратыі ў Беларусі. Надпіс на рэверсе — гэта фрагмент яе верша, які сімвалізуе непахіснасць і вернасць паэткі нацыянальным і дэмакратычным ідэалам, фактычна, яе запавет наступным пакаленням беларусаў. Промні сонца сімвалізуюць непазбежную перамогу дабра над ліхам, святла над цемрай, дэмакратыі над дыктатурай. Птушка — сімвал свабоды, надзеі на вызваленне і перамогі над прыгнятальнікамі. Маленькая птушка згадваецца ва ўспамінах Ларысы Геніюш у перыяд яе знаходжання ў турэмнай камеры, а ізаграфія птушачкі ўзятая з яе ліста.

Шэры колер стужкі Медаля падкрэслівае няскораны, стальны характар паэткі, шэрыя муры няволі, а жоўты (залаты) — прамяні сонца Свабоды. Золата ў геральдыцы азначае славу, гонар, перамогу.

Медаль вырабляецца з латуні з пакрыццём золатам 999-й пробы.

**АБ’ЯДНАНЫ ПЕРАХОДНЫ КАБІНЭТ БЕЛАРУСІ**

---

# МЭДАЛЬ
# НЯСКОРАНЫХ ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ




**нададзены**

______________________________________________

______________________________________________

**згодна з Пастановай ад** ____________________

**КІРАЎНІЦА АБ’ЯДНАНАГА ПЕРАХОДНАГА КАБІНЭТУ БЕЛАРУСІ**

**Сьвятлана Ціханоўская**

№ ______________









АБ'ЯДНАНЫ ПЕРАХОДНЫ КАБІНЭТ БЕЛАРУСІ

МЭДАЛЬ
НЯСКОРАНЫХ ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ

нададзены

______________________________

______________________________

КІРАЎНІЦА АБ'ЯДНАНАГА ПЕРАХОДНАГА КАБІНЭТУ БЕЛАРУСІ

Сьвятлана Ціханоўская

№ ________

# Медаль Сцяга

ПАСТАНОВА
ад 11 лістапада 2024 г.

## Аб заснаванні медаля Сцяга

Для адзначэння беларускіх і замежных грамадзян за заслугі, праяўленыя пры публічнай дэманстрацыі, абароне, захаванні, а таксама праслаўленні з рызыкай для жыцця і здароўя беларускага нацыянальнага бел-чырвона-белага Сцяга ў мірны і ваенны час, на падставе Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г. засноўваецца медаль Сцяга (далей — Медаль).

Арт. 1. Медаль з'яўляецца ўзнагародай Беларусі (Беларускай дзяржавы).

Арт. 2. Медаль уяўляе сабой авальны медальён серабрыстага колеру.
Памеры Медаля: вышыня — 42 мм, шырыня — 32 мм.
Av: у цэнтры — партрэт Клаўдзія Дуж-Душэўскага ў профіль, скіраваны ў левы бок. Пад партрэтам надпіс "КЛАЎДЗІЙ ДУЖ-ДУШЭЎСКІ".
Rv: выява рукі Бога, якая выходзіць з воблака і трымае бел-чырвона-белы Сцяг на тронку з навершам. Вышэй Сцяга змешчаны надпіс "IN HOC VEXILLO VINCES" ("З гэтым Сцягам пераможаш").
Медаль носіцца на калодцы са стужкай бел-чырвона-белага колеру, дзе па цэнтры белых палос пушчаны вузкія чырвоныя.
Вышыня калодкі — 50 мм, шырыня — 28 мм, шырыня палос абляможкі — 3 мм.

Арт. 3. Выкананне гэтай пастановы ўскладаецца на Геральдычную раду "Пагоня", Раду БНР, Аб'яднаны Пераходны Кабінет, Нацыянальна-вызвольны рух, ПКК.

Арт. 4. Пастанова набывае моц у дзень яе прыняцця.

Старшыня Геральдычнай рады "Пагоня" Мікіта Забуга
11 лістапада 2024 г.

# Статут медаля Сцяга

На падставе Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г. і пастановы ад 11 лістапада 2024 г. сведчым, што:

Арт. 1. Засноўваецца медаль Сцяга (далей — Медаль) з мэтай узнагароджвання заслуг, праяўленых асобай пры публічнай дэманстрацыі, абароне, захаванні, а таксама праслаўленні з рызыкай для свайго жыцця і здароўя беларускага нацыянальнага бел-чырвона-белага Сцяга ў мірны і ваенны час.

Арт. 2. Медаль уяўляе сабой авальны медальён серабрыстага колеру. Памеры: вышыня — 42 мм, шырыня — 32 мм, на Av якога ў цэнтры змешчаны партрэт Клаўдзія Дуж-Душэўскага ў профіль, скіраваны ў левы бок. Пад партрэтам надпіс “КЛАЎДЗІЙ ДУЖ-ДУШЭЎСКІ”. На Rv — выява рукі Бога, якая выходзіць з воблака і трымае бел-чырвона-белы Сцяг на тронку з навершам. Вышэй Сцяга змешчаны надпіс “IN HOC VEXILLO VINCES” (“З гэтым Сцягам пераможаш”). Медаль носіцца на грудзях з левага боку на калодцы са стужкай з белай, чырвонай і белай палос, дзе па цэнтры белых палос пушчаны вузкія чырвоныя. Вышыня калодкі — 50 мм, шырыня — 28 мм, шырыня палос аблямоўкі — 3 мм. Медаль носіцца пасля ордэнаў і крыжоў.

Арт. 3. Медаль можа ўручацца беларускім і замежным грамадзянам, якія асабіста і публічна прадэманстравалі, абаранілі, захавалі, а таксама праславілі з рызыкай для свайго жыцця і здароўя беларускі нацыянальны бел-чырвона-белы Сцяг як у краіне, так і па-за яе межамі.

Арт. 4. Медаль надаецца адной і той жа асобе адзін раз, а пры паўторным учынку дае магчымасць намінацыі на ўзнагароджванне крыжамі.

Арт. 5. Узнагароджванне Медалём можа адбывацца пасмяротна.

Арт. 6. Медаль можа быць адабраны ў асобы, якая скампраметавала сябе і нацыянальны бел-чырвона-белы Сцяг учынкамі крымінальнага характару, зафіксаванымі судовымі выракамі.

Арт. 7. Узнагароджаныя Медалём атрымоўваюць яго бясплатна. Разам з Медалём выдаецца сертыфікат усталяванага ўзору.

Арт. 8. Статут Медаля ўваходзіць у жыццё дня 11 лістапада 2024 г.

Старшыня Геральдычнай рады “Пагоня” Мікіта Забуга
11 лістапада 2024 г.

## Медаль Сцяга.
## Візуальна-семантычнае апісанне

Медаль Сцяга ўяўляе сабой авальны медальён серабрыстага колеру, на аверсе якога ў цэнтры змешчаны партрэт Клаўдзія Дуж-Душэўскага ў профіль, скіраваны ў левы бок. Пад партрэтам надпіс "КЛАЎДЗІЙ ДУЖ-ДУШЭЎСКІ".

На адваротным баку медальёна (рэверсе) змешчана выява рукі Бога, якая выходзіць з воблака і трымае бел-чырвона-белы Сцяг на тронку з навершам. Вышэй Сцяга змешчаны надпіс "IN HOC VEXILLO VINCES" ("З гэтым Сцягам пераможаш").

Медальён мацуецца да вертыкальнай шасцікутнай калодкі з трапецападобным нізам серабрыстага колеру пры дапамозе вушка. На калодцы змешчана стужка бел-чырвона-белага колеру, дзе па цэнтры белых палос пушчаны чырвоныя, у выніку чаго ствараецца каляровая камбінацыя са спалучэння трох бел-чырвона-белых Сцягоў — вялікага па цэнтры і двух малых па баках, што сведчыць пра яго нацыянальна-дзяржаўны статус. Медаль Сцяга мацуецца да адзення пры дапамозе заколкі-шпількі.

Памеры Медаля: вышыня медальёна — 42 мм, шырыня — 32 мм; вышыня калодкі — 50 мм, шырыня — 28 мм, шырыня палос — 3 мм.

У аснове задумы сюжэта Медаля — мемарыялізацыя аўтара беларускага нацыянальнага Сцяга Клаўдзія Дуж-Душэўскага ў спалучэнні з гларыфікацыяй самога вексілума праз сімвал Божай наканаванасці — руку, што выходзіць з аблокаў, і надпіс "IN HOC VEXILLO VINCES", які тлумачыць назву і сэнс узнагароды: бел-чырвона-белы Сцяг — знак пераможцаў.

Галоўным элементам сюжэта Медаля з'яўляецца профіль Клаўдзія Дуж-Душэўскага на аверсе, які сваімі рысамі адпавядае часу паўстання каляровага бел-чырвона-белага спалучэння ў 1917 г. Выява Божай наканаванасці са Сцягам на рэверсе сімвалічна ўказвае на сапраўднага аўтара ідэі вексілума, ажыццёўленай Клаўдзіем Дуж-Душэўскім, а таксама на Божую ласку і дапамогу тым, хто ўздымае нацыянальны Сцяг.

Надпіс "З гэтым Сцягам пераможаш" паходзіць ад вядомай гісторыі пра Божую наканаванасць і прадбачанне знака-крыжа рымскім імператарам Канстанцінам І Вялікім перад пераможнай бітвай. Надпіс вытворны ад "In hoc signo vinces" ("З гэтым знакам пераможаш").

Калодка вытрымана ў колерах трох спалучаных паміж сабой нацыянальных бел-чырвона-белых Сцягоў.

Срэбра ў геральдыцы азначае чысціню, ахвярнасць і перамогу.

Медаль вырабляецца з латуні з пакрыццём срэбрам 925-й пробы.

ГЕРАЛЬДЫЧНАЯ РАДА “ПАГОНЯ”

---

## МЭДАЛЬ СЦЯГА




**нададзены**

______________________________________________

______________________________________________

**згодна з Пастановай ад** ____________________

СТАРШЫНЯ ГЕРАЛЬДЫЧНАЙ РАДЫ “ПАГОНЯ”

Мікіта Забуга

№ ______________




ГЕРАЛЬДЫЧНАЯ РАДА
ПАГОНЯ

МЭДАЛЬ СЦЯГА

**нададзены**

________________________________________

________________________________________

СТАРШЫНЯ ГЕРАЛЬДЫЧНАЙ РАДЫ “ПАГОНЯ”

**Мікіта Забуга**

№ __________

# Медаль Францыска Скарыны

ПАСТАНОВА
ад 16 лістапада 2024 г.

## Аб заснаванні новага ўзору медаля Францыска Скарыны

Для адзначэння беларускіх і замежных грамадзян — працаўнікоў у галіне навукі, адукацыі і культуры — за выдатныя заслугі ў прафесійнай дзейнасці, значны асабісты ўнёсак у развіццё і павелічэнне духоўнага і інтэлектуальнага патэнцыялу беларускага народа на падставе Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г. засноўваецца новы ўзор медаля Францыска Скарыны (далей — Медаль).

Арт. 1. Страчваюць дзеянне ўказ прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР № 2675 ад 20 красавіка 1989 г. аб заснаванні медаля Францыска Скарыны (далей — Медаль старога ўзору) і пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 13 красавіка 1995 г. аб заснаванні ордэна Францыска Скарыны. З-за сістэматычных парушэнняў статутных дакументаў і крытэрыяў адзначэння, якія прывялі да іх дыскрэдытацыі ўладамі А. Лукашэнкі, усе ўзнагароджванні Медалём старога ўзору за 1994–2023 гг. і ордэнам Францыска Скарыны за 1995–2023 гг. абвяшчаюцца скасаванымі. Захоўваюць сілу ўзнагароджванні Медалём старога ўзору, здзейсненыя ў 1989–1993 гг.

Арт. 2. Медаль новага ўзору з'яўляецца ўзнагародай Беларусі (Беларускай дзяржавы).

Арт. 3. Медаль новага ўзору ўяўляе сабой круглы медальён залацістага колеру (дыяметр — 32 мм).

Av: у цэнтры — партрэт Францыска Скарыны, а злева і справа надпісы "ФРАНЦЫСК СКАРЫНА".

Rv: у цэнтры размешчаны мяшчанскі герб Францыска Скарыны, на шчыце якога злучаныя антрапаморфныя сонца і месяц.

Медаль новага ўзору носіцца на калодцы са стужкай сіняга колеру, дзе па цэнтры размешчаны вертыкальны беларускі

арнамент жоўтага колеру. Вышыня калодкі — 50 мм, шырыня — 28 мм, шырыня арнаменту — 14 мм.

Арт. 4. Выкананне гэтай пастановы ўскладаецца на Геральдычную раду “Пагоня”, Раду БНР, Аб’яднаны Пераходны Кабінет, Нацыянальна-вызвольны рух.

Арт. 5. Пастанова набывае моц у дзень яе прыняцця.

Кіраўніца Аб’яднанага Пераходнага Кабінета Беларусі

С. Г. Ціханоўская

16 лістапада 2024 г.

# Статут медаля
# Францыска Скарыны новага ўзору

Арт. 1. Замест скасаваных пастановай ад 16 лістапада 2024 г. медаля Францыска Скарыны старога ўзору (1989 г.) і ордэна Францыска Скарыны (1995 г.) засноўваецца новы ўзор медаля Францыска Скарыны (далей — Медаль) з мэтай адзначэння заслуг беларускіх і замежных грамадзян у галіне навукі, адукацыі і культуры.

Арт. 2. Медаль уяўляе сабой круглы медальён залацістага колеру, на аверсе якога ў цэнтры — партрэт Францыска Скарыны, а злева і справа надпісы "ФРАНЦЫСК СКАРЫНА". На рэверсе ў цэнтры размешчаны мяшчанскі герб Францыска Скарыны: на шчыце злучаныя антрапаморфныя сонца і месяц. Медаль носіцца на калодцы са стужкай сіняга колеру, дзе па цэнтры размешчаны вертыкальны беларускі арнамент жоўтага колеру. Дэталёвае апісанне і выява Медаля змешчаны ў дадатку да гэтага статута.

Арт. 3. Медаль можа ўручацца беларускім і замежным грамадзянам, якія працуюць у галіне навукі, адукацыі і культуры, за выдатныя заслугі ў прафесійнай дзейнасці, значны асабісты ўнёсак у развіццё і павелічэнне духоўнага і інтэлектуальнага патэнцыялу беларускага народа.

Арт. 4. Медаль надаецца адной і той жа асобе адзін раз, а пры паўторным учынку дае магчымасць намінацыі на ўзнагароджванне вышэйшымі ўзнагародамі.

Арт. 5. Узнагароджванне Медалём можа адбывацца пасмяротна.

Арт. 6. Асоба, якая скампраметавала сябе ўчынкамі крымінальнага характару, зафіксаванымі судовымі выракамі, можа быць пазбаўлена Медаля.

Арт. 7. Узнагароджаныя Медалём атрымоўваюць яго бясплатна. Разам з ім выдаецца сертыфікат усталяванага ўзору.

Арт. 8. Гэты статут уваходзіць у жыццё дня 16 лістапада 2024 г.

Кіраўніца Аб'яднанага Пераходнага Кабінета Беларусі

С. Г. Ціханоўская

16 лістапада 2024 г.

## Медаль Францыска Скарыны новага ўзору. Візуальна-семантычнае апісанне

Медаль Францыска Скарыны новага ўзору (далей — Медаль) уяўляе сабой круглы медальён залацістага колеру, у цэнтры якога партрэт Францыска Скарыны, а злева і справа надпісы “ФРАНЦЫСК СКАРЫНА”.

На адваротным баку медальёна ў цэнтры размешчаны герб Францыска Скарыны залацістага колеру — сонца і паўмесяц у барочнай тарчы.

Медальён мацуецца да вертыкальнай шасцікутнай калодкі з трапецападобным нізам залацістага колеру пры дапамозе вушка. На калодцы размешчана стужка сіняга колеру, у цэнтры — вертыкальны беларускі арнамент жоўтага колеру. Медаль мацуецца да адзення пры дапамозе заколкі-шпількі.

Памер Медаля: дыяметр медальёна — 32 мм.

Вышыня калодкі — 50 мм, шырыня калодкі — 28 мм, шырыня арнамента — 14 мм.

У аснове задумы сюжэта Медаля — вобраз Францыска Скарыны. Галоўнымі элементамі сюжэта з’яўляюцца яго партрэт з “Бібліі Рускай” і мяшчанскі герб: у блакітным полі залатыя выявы антрапаморфных сонца і месяца.

Блакітны колер стужкі Медаля разам з жоўтым колерам арнаменту з’яўляюцца адлюстраваннем геральдычных колераў мяшчанскага герба Францыска Скарыны — блакіту і золата. Арнамент узяты з ручніка на партрэце і падкрэслівае этнічнае паходжанне беларускага першадрукара. Блакіт нясе таксама сімвалічную нагрузку неба Беларусі. Золата ў геральдыцы азначае славу, гонар, багацце.

Медаль вырабляецца з латуні з пакрыццём золатам 999-й пробы.

**АБ’ЯДНАНЫ ПЕРАХОДНЫ КАБІНЭТ БЕЛАРУСІ**

---

## МЭДАЛЬ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ



**нададзены**

______________________________________________

______________________________________________

**згодна з Пастановай ад** ____________________

**КІРАЎНІЦА АБ’ЯДНАНАГА ПЕРАХОДНАГА КАБІНЭТУ БЕЛАРУСІ**

**Сьвятлана Ціханоўская**

№ ______________



АБ'ЯДНАНЫ ПЕРАХОДНЫ КАБІНЭТ БЕЛАРУСІ

МЭДАЛЬ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

нададзены

______________________________

______________________________

КІРАЎНІЦА АБ'ЯДНАНАГА ПЕРАХОДНАГА КАБІНЭТУ БЕЛАРУСІ

Сьвятлана Ціханоўская

№ __________

# Медаль “Гонар і Годнасць”

ПАСТАНОВА № 3

## Аб медалі “Гонар і Годнасць”

У адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, Законам Рэспублікі Беларусь “Аб дзяржаўных узнагародах Рэспублікі Беларусь” і Рэгламентам дзейнасці Аб’яднанага Пераходнага Кабінета Беларусі, Аб’яднаны Пераходны Кабінет Беларусі ПАСТАНАЎЛЯЕ:

Заснаваць медаль “Гонар і Годнасць”, зыходзячы з прапаноў грамадзянскай супольнасці.
Зацвердзіць Часовае палажэнне аб медалі “Гонар і Годнасць”, яго апісанне і выяву.
Фінансаванне вырабу медаля “Гонар і Годнасць” ажыццяўляецца за кошт дабрачынных ахвяраванняў, дзяржаўных і іншых крыніц, якія не забаронены заканадаўствам.
Даручыць прадстаўніцы па нацыянальным адраджэнні ў месячны тэрмін унесці на разгляд Кабінета праект палажэння аб Камісіі па ўзнагароджаннях.

Дадзеная пастанова ўступае ў сілу з моманту падпісання і дзейнічае да ўнясення змен у закон Рэспублікі Беларусь “Аб дзяржаўных узнагародах Рэспублікі Беларусь” легітымным вышэйшым органам прадстаўнічай і заканадаўчай улады Рэспублікі Беларусь.

Кіраўніца Аб’яднанага Пераходнага Кабінета Беларусі
С. Г. Ціханоўская

11.02.2023 г. / 08.06.2023 г.
Вільня, Варшава

# Статут медаля "Гонар і Годнасць"

Арт. 1. Медаль "Гонар і Годнасць" — першая дзяржаўная ўзнагарода Беларусі, заснаваная пасля Рэвалюцыі Годнасці 2020 г. па ініцыятыве грамадзянскай супольнасці Беларусі.

Арт. 2. Медалём "Гонар і Годнасць" (далей — Медаль) узнагароджваюцца грамадзяне Рэспублікі Беларусь вайсковага і цывільнага стану:

– за грамадска значны асабісты ўнёсак у руйнаванне злачыннага аўтакратычнага рэжыму, у тым ліку за ініцыятыву ў стварэнні валанцёрскага руху, структур грамадзянскага супраціву тыраніі;

– выяўленыя ў крытычнай для Айчыны сітуацыі асабістыя мужнасць і годнасць у змаганні за свабоду, нацыянальныя каштоўнасці, дэмакратыю і правы чалавека з рызыкай для жыцця і здароўя;

– годнае і беззаганнае выкананне прафесійных і службовых абавязкаў ва ўмовах парушэння законнасці ці акупацыі краіны з рызыкай для жыцця і здароўя;

– вернасць прысязе народу Беларусі, невыкананне злачынных загадаў і распараджэнняў, самаадданую службу дзеля аднаўлення законнасці і правапарадку з рызыкай для жыцця і здароўя;

– доўгатэрміновае годнае спрыянне ў палітычнай, грамадскай ці прафесійнай дзейнасці ўмацаванню рэспубліканскага дзяржаўнага ладу і дэмакратыі.

У выключных выпадках Медалём могуць быць узнагароджаны замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства за доўгатэрміновую шчырую салідарнасць з народам Беларусі і выяўленую ў пэўных дзеяннях падтрымку прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці Беларусі ў барацьбе за адстойванне каштоўнасцяў дэмакратычнага ладу, прынцыпу падзелу ўладаў і дэмакратыі.

Арт. 3. Прызнаючы і рэалізуючы права беларускага народа на супраціўленне тыраніі і ў адсутнасці легітымнага органа прадстаўнічай і заканадаўчай улады, рашэнне аб узнагароджванні Медалём прымаецца пастановай Аб'яднанага Пераходнага Кабінета Беларусі.

Арт. 4. Медаль уручаецца ад імя беларускага народа кіраўніцай Аб'яднанага Пераходнага Кабінета Беларусі або па яе даручэнні сябрамі Аб'яднанага Пераходнага Кабінета Беларусі ва ўрачыстай абстаноўцы.

Пры неабходнасці ў мэтах бяспекі па рашэнні Аб'яднанага Пераходнага Кабінета Беларусі забяспечваецца ананімнасць асоб, якія ўзнагароджваюцца.

Арт. 5. Асобам, якія ўзнагароджаны Медалём, выдаецца пасведчанне па форме, згодна з дадаткам да гэтага палажэння.

Арт. 6. Медаль носіцца на левым баку грудзей і размяшчаецца пасля вайсковых медалёў.

Кіраўніца Аб'яднанага Пераходнага Кабінета Беларусі
С. Г. Ціханоўская

11.02.2023 г. / 08.06.2023 г.
Вільня, Варшава

## Медаль “Гонар і Годнасць”. Візуальна-семантычнае апісанне

Медаль “Гонар і Годнасць” уяўляе сабой круглы медальён серабрыстага колеру, у цэнтры якога — герб “Пагоня” ў тарчы, а па перыметры — лаўровы вянок.

На адваротным баку медальёна ў цэнтры размешчаны надпіс “БЕЛАРУСЬ ПЕРАДУСІМ”, а па перыметры — лаўровы вянок.

Медальён мацуецца да вертыкальнай шасцікутнай калодкі з трапецападобным нізам серабрыстага колеру пры дапамозе вушка. На калодцы размешчана стужка блакітнага колеру, у цэнтры якой тры паласы белага, чырвонага і белага колераў. Медаль “Гонар і Годнасць” мацуецца да адзення пры дапамозе заколкі-шпількі.

Памеры медаля “Гонар і Годнасць”: дыяметр медальёна — 32 мм.

Вышыня калодкі — 50 мм, шырыня калодкі — 28 мм, шырыня палос — 2,5 мм.

У аснове задумы сюжэта медаля — спалучэнне гістарычнага беларускага герба “Пагоня” з лаўровым вянком пашаны і нацыянальным поклічам “Беларусь перадусім”, што павінна адлюстроўваць гонар за Айчыну і годнасць, праяўленую ў крытычнай для яе сітуацыі.

Галоўным элементам сюжэта медаля з’яўляецца герб “Пагоня” ў характэрнай ізаграфіі, якая прыпісваецца мастаку Язэпу Драздовічу. Лаўровы вянок узяты з найбуйнейшага манетнага наміналу часоў ВКЛ — залатога партугала Жыгімонта Аўгуста 1562 г., які выкарыстоўваўся пераважна ў якасці ўзнагароды за службу. Сабраныя разам, яны не толькі характарызуюць пераемнасць паміж ВКЛ і Беларуссю, але і ўказваюць на глыбокія карані ўласнай традыцыі ўзнагароджвання за заслугі перад краінай. Надпіс “БЕЛАРУСЬ ПЕРАДУСІМ” акцэнтуе ўвагу на заслугі перад Беларускай дзяржавай і народам.

Блакітны колер стужкі медаля падкрэслівае чысціню неба над Беларуссю. Бел-чырвона-белая ўстаўка апелюе да колераў беларускага нацыянальнага Сцяга. Срэбра ў геральдыцы азначае сумленнасць, ахвярнасць і бескарыслівасць.

Медаль вырабляецца з латуні з пакрыццём срэбрам 925-й пробы.

АБ'ЯДНАНЫ ПЕРАХОДНЫ КАБІНЭТ БЕЛАРУСІ

МЭДАЛЬ „ГОНАР І ГОДНАСЬЦЬ“




**нададзены**

______________________________________________

______________________________________________

**згодна з Пастановай ад** ____________________

КІРАЎНІЦА АБ'ЯДНАНАГА ПЕРАХОДНАГА КАБІНЭТУ БЕЛАРУСІ

Сьвятлана Ціханоўская

№ ____________




**АБ’ЯДНАНЫ ПЕРАХОДНЫ КАБІНЭТ БЕЛАРУСІ**

**МЭДАЛЬ „ГОНАР І ГОДНАСЬЦЬ“**

**нададзены**

________________________________________

________________________________________

КІРАЎНІЦА АБ’ЯДНАНАГА ПЕРАХОДНАГА КАБІНЭТУ БЕЛАРУСІ

**Сьвятлана Ціханоўская**

№ __________

# Медаль
# “За дапамогу Беларускаму войску”

## Пастанова
## аб заснаванні ўзнагарод “Партызанскі народны крыж” і медаля “За дапамогу Беларускаму войску”

Для ўзнагароджвання беларускіх вайскоўцаў пастанаўляецца:

Заснаваць узнагароды “Партызанскі народны крыж” і медаль “За дапамогу Беларускаму войску” (далей — Узнагароды).

Зацвердзіць статуты Узнагарод уключна з апісаннямі і эскізамі.

Даручыць Геральдычнай радзе “Пагоня” і адпаведным структурам БВА арганізаваць выраб Узнагарод і сертыфікатаў да іх, а таксама іх захаванне.

Даручыць Камісіі па ўзнагароджаннях БВА арганізаваць:
- працэс прадстаўлення да Узнагарод;
- вядзенне рэгістра ўзнагароджаных;
- улік не ўручаных Узнагарод.

Пастанова набывае моц у дзень яе прыняцця.

Зацверджана Часовай вайсковай камісіяй БВА.

24 сакавіка 2024 г. Пячатка, подпіс

## Статут медаля “За дапамогу Беларускаму войску”

На падставе Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г. і Пастановы ад 24 сакавіка 2024 г. сведчым, што:

Арт. 1. Засноўваецца медаль “За дапамогу Беларускаму войску” (далей — Медаль) з мэтай узнагароджвання беларускіх і замежных грамадзян за заслугі перад Беларускім войскам у справе спрыяння і дапамогі яму ў мірны і ваенны час, а таксама за асабістую службу ў фармаваннях Беларускай Вызвольнай Арміі, партызанскую і падпольную дзейнасць.

Арт. 2. Медаль уяўляе сабой круглы медальён серабрыстага колеру (дыяметр — 32 мм), на Av у цэнтры змешчана васьміканцовая Беларуская вайсковая зорка, на якой ляжыць герб “Пагоня” ўзору 1991 г. Пад зоркай па коле медальёна падкладзены лаўровы вянок. На Rv у цэнтры эмблема БВА — васьміканцовая зорка з круглай тарчай і шасціканцовым крыжам у цэнтры. Па коле размешчаны надпіс “ЗА ДАПАМОГУ БЕЛАРУСКАМУ ВОЙСКУ / БВА / 2023”.
Медаль носіцца на грудзях злева на калодцы са стужкай зялёна-шэрага колеру, якая складаецца з дзвюх роўных палос. Медаль мацуецца да адзення пры дапамозе заколкі-шпількі.
Вышыня калодкі — 50 мм, шырыня — 28 мм, шырыня палос — 2 мм.
Медаль носіцца пасля айчынных ордэнаў, крыжоў і баявых медалёў (пасля медалёў “За баявыя заслугі”), перад медалямі Францыска Скарыны, “Няскораных Ларысы Геніюш”, “За адвагу”, “За плённую працу”, “Гонар і Годнасць”, медалём Сцяга і замежнымі ўзнагародамі.

Арт. 3. Медаль можа ўручацца беларускім і замежным грамадзянам, якія сваёй актыўнай палітычнай, вайсковай і грамадскай дзейнасцю спрыялі і дапамагалі Беларускаму войску і фармаванням БВА ў выкананні іх вайсковых мэтаў і задач, забеспячэнні матэрыяльнай і тэхнічнай базы, мабілізацыі і арганізацыі людскіх рэсурсаў, фінансаванні паўсядзённых патрэб і вырашэнні праблем медычнага, адукацыйнага, эканамічнага і культурнага характару беларускіх вайскоўцаў.

Арт. 4. Медаль надаецца адной і той жа асобе адзін раз, а пры паўторным учынку дае магчымасць намінацыі на ўзнагароджванне крыжам Змагання Тадэвуша Касцюшкі, Партызанскім

народным крыжам, крыжам Ахвярнасці Эміліі Плятэр, крыжам Свабоды, крыжам Адраджэння Беларусі ці крыжам Добрасуседства (для замежных грамадзян).

Арт. 5. Узнагароджванне Медалём можа адбывацца пасмяротна.

Арт. 6. Медаль можа быць адабраны ў асобы, якая скампраметавала сябе ўчынкамі крымінальнага характару, зафіксаванымі судовымі выракамі.

Арт. 7. Узнагароджаныя Медалём атрымоўваюць яго бясплатна ва ўрачыстай абстаноўцы, згодна з адпаведным цырыманіялам. Разам з ім выдаецца сертыфікат усталяванага ўзору.

Арт. 8. Статут Медаля ўваходзіць у жыццё дня 24 сакавіка 2024 г.

24 сакавіка 2024 г. Пячатка, подпіс

## Медаль “За дапамогу Беларускаму войску”. Візуальна-семантычнае апісанне

Медаль “За дапамогу Беларускаму войску” уяўляе сабой круглы медальён серабрыстага колеру. На аверсе ў цэнтры змешчана васьміканцовая Беларуская вайсковая зорка, на якой ляжыць герб “Пагоня” ўзору 1991 г. Пад Беларускай вайсковай зоркай па коле медальёна падкладзены лаўровы вянок.

На адваротным баку медальёна (рэверсе) размешчана эмблема БВА — васьміканцовая Беларуская вайсковая зорка з круглай тарчай і шасціканцовым крыжам у цэнтры. Па перыметры размешчаны надпіс “ЗА ДАПАМОГУ БЕЛАРУСКАМУ ВОЙСКУ / БВА / 2023”.

Медальён мацуецца да вертыкальнай шасцікутнай калодкі з трапецападобным нізам серабрыстага колеру пры дапамозе вушка. На калодцы размешчана стужка зялена-шэрага колеру, якая складаецца з дзвюх роўных палос.

Медаль мацуецца да адзення пры дапамозе заколкі-шпількі.

Памеры медаля: дыяметр медальёна — 32 мм; вышыня калодкі — 50 мм, шырыня — 28 мм.

У аснове задумы сюжэта медаля — беларуская вайсковая і нацыянальная сімволіка — Беларуская вайсковая зорка і герб “Пагоня”, якія складаюць галоўныя элементы кукарды БВА з далучэннем лаўровага вянка — сімвала заслуг і перамог. На рэверсе размешчана эмблема БВА, якая выкарыстоўваецца на баявым Сцягу, нарукаўным і нагрудным знаках БВА.

Калодка вытрымана ў карпаратыўных колерах БВА — ахоўна-зялёным, які выкарыстоўваецца на баявой і паўсядзённай форме, а таксама шэрым — асноўным колеры парадна-прадстаўнічай формы БВА. Срэбра ў геральдыцы азначае чысціню, ахвярнасць і перамогу.

Медаль вырабляецца з латуні з пакрыццём срэбрам 925-й пробы.

# БЕЛАРУСКАЯ ВЫЗВОЛЬНАЯ АРМІЯ

**МЕДАЛЬ «ЗА  ДАПАМОГУ БЕЛАРУСКАМУ ВОЙСКУ»**




нададзены

______________________________

______________________________

згодна з Загадам ______________________

Старшыня Часовай вайсковай камісіі ______________

№ ____________






**БЕЛАРУСКАЯ ВЫЗВОЛЬНАЯ АРМІЯ**

**МЕДАЛЬ**
**«ЗА ДАПАМОГУ БЕЛАРУСКАМУ ВОЙСКУ»**

нададзены

______________________________

______________________________

Старшыня Часовай вайсковай камісіі

№ ________

# Медаль
# “За плённую працу на карысць Беларусі”

ПАСТАНОВА
ад 16 лістапада 2024 г.

## Аб заснаванні медаля
## “За плённую працу на карысць Беларусі”

Для адзначэння беларускіх і замежных грамадзян за значныя працоўныя здзяйсненні ў мірны і ваенны час на карысць беларускага народа і дзяржавы на падставе Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г. засноўваецца медаль “За плённую працу на карысць Беларусі”.

Арт. 1. Медаль “За плённую працу на карысць Беларусі” (далей — Медаль) з’яўляецца ўзнагародай Беларусі (Беларускай дзяржавы).

Арт. 2. Медаль уяўляе сабой круглы медальён серабрыстага колеру (дыяметр — 32 мм).

Av: у цэнтры змешчана выява вершніка з мячом і тарчай, на якой — шасціканцовы крыж і якая паходзіць ад герба “Пагоня” Рэспублікі Беларусь узору 1991 г., а па перыметры — лаўровы вянок з кветкамі геральдычнай ружы.

Rv: у цэнтры — надпіс “ПІЛЬНАСЬЦЮ І ПРАЦАЙ”, а па перыметры такі ж самы, як і на аверсе, лаўровы вянок з кветкамі геральдычнай ружы.

Медаль носіцца на вертыкальнай шасцікутнай калодцы з трапецападобным нізам серабрыстага колеру са стужкай светла-зялёнага колеру, у цэнтры якой тры палосы белага, чырвонага і белага колераў. Медаль мацуецца да адзення пры дапамозе заколкі-шпількі. Вышыня калодкі — 50 мм, шырыня — 28 мм, шырыня палос — 2,5 мм.

Арт. 3. Выкананне гэтай пастановы ўскладаецца на Геральдычную раду “Пагоня” і Аб’яднаны Пераходны Кабінет Беларусі. Парадак прысваення Медаля вызначае Камісія па ўзнагароджаннях.

Арт. 4. Пастанова набывае моц у дзень яе прыняцця.

Кіраўніца Аб’яднанага Пераходнага Кабінета Беларусі
С. Г. Ціханоўская

16 лістапада 2024 г.

## Статут медаля “За плённую працу на карысць Беларусі”

Арт. 1. Засноўваецца медаль “За плённую працу на карысць Беларусі” (далей — Медаль) з мэтай адзначэння працоўных заслуг перад Беларуссю і беларускім народам.

Арт. 2. Медаль уяўляе сабой круглы медальён серабрыстага колеру, на аверсе якога ў цэнтры змешчана выява вершніка з дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь 1991 г., а па перыметры — лаўровы вянок з кветкамі ружы. На рэверсе ў цэнтры змешчаны надпіс “ПІЛЬНАСЬЦЮ І ПРАЦАЙ”, а па перыметры — такі ж самы, як і на аверсе, лаўровы вянок з кветкамі ружы. Дэталёвае апісанне і выява Медаля змешчаны ў дадатку да гэтага статута.
Медаль носіцца на левым баку грудзей на калодцы са стужкай светла-зялёнага колеру, у цэнтры якой тры палоскі белага, чырвонага і белага колераў. Медаль мацуецца да адзення пры дапамозе заколкі-шпількі.
Медаль носіцца пасля беларускіх ордэнаў, крыжоў і баявых медалёў, а таксама пасля медаля Францыска Скарыны і перад замежнымі ўзнагародамі.

Арт. 3. Медаль можа ўручацца беларускім і замежным грамадзянам і асобам без грамадзянства за выбітныя дасягненні ў прафесійнай і грамадскай дзейнасці на карысць беларускага народа і Беларускай дзяржавы ў сацыяльнай, эканамічнай, культурнай, палітычнай сферах.

Арт. 4. Медаль можа надавацца адной і той жа асобе адзін раз і пры будучых заслугах дае магчымасць намінацыі на атрыманне больш высокіх узнагарод.

Арт. 5. Узнагароджанне Медалём можа адбывацца пасмяротна.

Арт. 6. Асоба, якая скампраметавала сябе ўчынкамі крымінальнага характару, зафіксаванымі судовымі выракамі, можа быць пазбаўлена Медаля.

Арт. 7. Узнагароджаныя Медалём атрымоўваюць яго бясплатна. Разам з Медалём выдаецца сертыфікат усталяванага ўзору.

Арт. 8. Гэты статут уваходзіць у жыццё дня 16 лістапада 2024 г.

Кіраўніца Аб’яднанага Пераходнага Кабінета Беларусі
С. Г. Ціханоўская

16 лістапада 2024 г.

## Медаль “За плённую працу на карысць Беларусі”. Візуальна-семантычнае апісанне

Медаль “За плённую працу на карысць Беларусі” (далей — Медаль) уяўляе сабой круглы медальён серабрыстага колеру, дзе на аверсе ў цэнтры змешчана выява вершніка з мячом і тарчай, на якой — шасціканцовы крыж і якая паходзіць ад герба “Пагоня” Рэспублікі Беларусь узору 1991 г., а па перыметры — лаўровы вянок з кветкамі геральдычнай ружы.

На рэверсе медальёна ў цэнтры змешчаны надпіс “ПІЛЬНАСЬЦЮ І ПРАЦАЙ”, а па перыметры такі ж самы, як і на аверсе, лаўровы вянок з кветкамі геральдычнай ружы.

Медальён мацуецца да вертыкальнай шасцікутнай калодкі з трапецападобным нізам серабрыстага колеру пры дапамозе вушка. На калодцы размешчана стужка светла-зялёнага колеру, у цэнтры якой тры палосы белага, чырвонага і белага колераў. Медаль мацуецца да адзення пры дапамозе заколкі-шпількі.

Памер Медаля: дыяметр медальёна — 32 мм.

Вышыня калодкі — 50 мм, шырыня калодкі — 28 мм, шырыня палосак — 2,5 мм.

У аснове задумы сюжэта Медаля ляжыць спалучэнне гербавай выявы Беларусі — вершніка з “Пагоні” — з вянком пашаны і падзякі, якія складзены з пераплеценых лаўровага лісця і кветак ружы.

Надпіс “ПІЛЬНАСЬЦЮ І ПРАЦАЙ” узяты з прадмоваў і пасляслоўяў нашага першадрукара Францыска Скарыны да “Біблii Рускай” (Прага, 1517–1519 гг.). З аднаго боку, ён указвае на асобу, якая сваімі працоўнымі дасягненнямі служыць непадважальным узорам для ўсіх беларусаў, а з другога — сведчыць пра мірны і цывільны характар самой узнагароды.

Лаўровы вянок з’яўляецца знакам пашаны і высокай адзнакі працы на карысць Беларусі, якая на Медалі персаніфікавана ў выяве вершніка з “Пагоні”. У сваю чаргу, ружа праз свой высокі геральдычны статус сімвалізуе падзяку за працоўныя дасягненні.

Зялёны колер стужкі Медаля сімвалічна ўказвае на прагрэс, развіццё і росквіт Беларусі. Бел-чырвона-белая ўстаўка апелюе да колераў беларускага нацыянальнага Сцяга. Срэбра ў геральдыцы азначае чысціню, поспех, пашану, ахвярнасць і шчырасць.

Медаль вырабляецца з латуні з пакрыццём срэбрам 925-й пробы.

**АБ'ЯДНАНЫ ПЕРАХОДНЫ КАБІНЭТ БЕЛАРУСІ**

---

**МЭДАЛЬ**
**„ЗА ПЛЁННУЮ ПРАЦУ НА КАРЫСЬЦЬ БЕЛАРУСІ“**




**нададзены**

____________________________________________

____________________________________________

**згодна з Пастановай ад** ____________________

**КІРАЎНІЦА АБ'ЯДНАНАГА ПЕРАХОДНАГА КАБІНЭТУ БЕЛАРУСІ**

**Сьвятлана Ціханоўская**

№ _______________




**АБ’ЯДНАНЫ ПЕРАХОДНЫ КАБІНЭТ БЕЛАРУСІ**

**МЭДАЛЬ**
**„ЗА ПЛЁННУЮ ПРАЦУ НА КАРЫСЬЦЬ БЕЛАРУСІ“**

**нададзены**

______________________________

______________________________

**КІРАЎНІЦА АБ’ЯДНАНАГА ПЕРАХОДНАГА КАБІНЭТУ БЕЛАРУСІ**

**Сьвятлана Ціханоўская**

№ __________

# Рэкамендацыі аб парадку нашэння знакаў нацыянальных узнагарод Беларусі

ЗАЦВЕРДЖАНЫЯ
рашэннем Геральдычнай рады “Пагоня”

## I. Агульныя нормы

1. Рэкамендацыі даюць неабходныя тлумачэнні пра парадак нашэння нацыянальных узнагарод Беларусі ў выглядзе зорак, крыжоў і медалёў, мініяцюрных копій, стужак ордэнаў і медалёў у выглядзе плечавых стужак, калодак, планак або разетак.

2. Нашэнне нацыянальных узнагарод Беларусі (далей — нацыянальныя ўзнагароды) ажыццяўляецца ў адпаведнасці з патрабаваннямі Палажэння аб нацыянальных узнагародах і статутаў нацыянальных узнагарод.

## II. Парадак нашэння нацыянальных узнагарод Беларусі

3. Нацыянальныя ўзнагароды ў выглядзе зорак, крыжоў і медалёў на шыйнай стужцы, на ланцугу, на калодках, на плечавой стужцы, на разетцы, як правіла, носяцца ў асабліва ўрачыстых выпадках, падчас цырымоній з нагоды дзяржаўных і прафесійных святаў, на пасяджэннях (сходах) і іншых мерапрыемствах, звязаных з афіцыйнымі святамі Беларусі, а таксама святочнымі датамі калектываў. Нацыянальныя ўзнагароды носяцца, як правіла, на фраку, смокінгу, класічным мужчынскім касцюме чорнага, цёмна-шэрага або цёмна-сіняга колераў, на жаночым касцюме з жакетам або святочнай сукенцы, на парадным вайсковым (службовым) мундзіры, на нацыянальным строі.

4. Нацыянальныя ўзнагароды на разетцы, на планцы, як правіла, носяцца ў іншых выпадках, у тым ліку на паўсядзённай цывільнай вопратцы ці вайсковым (службовым) мундзіры.

5. На афіцыйных мерапрыемствах з удзелам афіцыйных асоб Рэспублікі Беларусь або такіх, што праводзяцца ад імя органаў улады Рэспублікі Беларусь, парадак нашэння знакаў нацыянальных узнагарод, іх мініяцюрных копій і стужак да ордэнаў

(медалёў) у выглядзе разетак або планак вызначаецца асобамі, адказнымі за правядзенне мерапрыемства ў адпаведнасці з вызначаным для дадзенага мерапрыемства пратаколам.

6. Знакі нацыянальных узнагарод у адпаведнасці са статутамі ордэнаў і палажэннямі аб медалях носяцца: на ордэнскім ланцугу, на плечавой стужцы, якая праходзіць праз правае плячо, на шыйнай стужцы, на калодцы, на разетцы, на планцы.

7. Рэкамендуецца агульны парадак нашэння знакаў ордэнаў на шыйнай стужцы, ордэнскім ланцугу або плечавой стужцы ў асабліва ўрачыстых выпадках:

а) на шыйнай стужцы носіцца зорка Герояў, ордэн Пагоні і Камандорскі крыж ордэна Жалезнага рыцара;
б) на ордэнскім ланцугу носіцца знак ордэна Нябеснай Апякункі Беларусі;
в) на плечавой стужцы, якая праходзіць праз правае плячо, носяцца: знак ордэна Усяслава Чарадзея, знак ордэна Нябеснай Апякункі Беларусі (калі не носіцца ланцуг ордэна), знак ордэна Кастуся Каліноўскага.

Пры наяўнасці ва ўзнагароджанага вышэй пералічаных узнагарод на святочнай цывільнай вопратцы носіцца зорка Герояў на шыйнай стужцы, ордэнскі ланцуг ордэна Нябеснай Апякункі Беларусі і плечавая стужка ордэна Усяслава Чарадзея.
Для розных камбінацый узнагародаў існуе правіла: не болей за два крыжы на шыйных стужках (або ланцугах) і толькі адна плечавая стужка вышэйшага паводле статусу ордэна.
Пры нашэнні знакаў ордэнаў на ланцугу і шыйнай стужцы на цывільным адзенні таксама носяцца зоркі гэтых ордэнаў, а на парадным вайсковым мундзіры зоркі і дадаткова крыжы ордэнаў на калодках.

8. Парадак нашэння знака ордэна Герояў на шыйнай стужцы прадугледжвае: з класічным гальштукам — верхні край знака ордэна павінен знаходзіцца на 10 мм ніжэй, чым ніжні край вузла гальштука; з мятлікам — верхні край знака ордэна павінен знаходзіцца на 20 мм ніжэй, чым вузел мятліка. Пры нашэнні двух і больш знакаў ордэнаў на шыйнай стужцы знак малодшага ордэна размяшчаецца такім чынам, каб яго верхні край знаходзіўся на 20 мм ніжэй, чым ніжні край знака вышэйшага ордэна.

9. Знак ордэна Нябеснай Апякункі Беларусі на ордэнскім ланцугу носіцца, як правіла, пры фраку, смокінгу, парадным мундзіры,

жакеце ці вячэрняй сукенцы, пры гэтым плечавая стужка са знакам гэтага ордэна не носіцца. Пры нашэнні жаночай сукенкі з адкрытай шыяй знак ордэна Нябеснай Апякункі Беларусі на ланцугу, як правіла, не носіцца.

10. Пры нашэнні на класічным мужчынскім касцюме або жаночым жакеце знака ордэна Усяслава Чарадзея, Нябеснай Апякункі Беларусі або Кастуся Каліноўскага на плечавой стужцы яна праходзіць праз правае плячо, запраўляецца пад правы лацкан пінжака і апускаецца такім чынам, каб знак ордэна размяшчаўся на 35 мм ніжэй, чым клапан кішэні. Пры нашэнні смокінга і вайсковага (службовага) мундзіра знакі ордэнаў на плечавой стужцы, як правіла, не носяцца.

11. Пры нашэнні на фраку знака ордэна Усяслава Чарадзея, Нябеснай Апякункі Беларусі або Кастуся Каліноўскага плечавая стужка апранаецца пад фрак паверх белай фрачнай камізэлькі і прапускаецца пад левы борт фрака такім чынам, каб знак ордэна размяшчаўся на ўзроўні сцягна левай нагі.
Пры нашэнні жаночай сукенкі з адкрытымі плячамі знакі ордэнаў на плечавой стужцы і зорках, як правіла, не носяцца. Пры гэтым дапускаецца нашэнне названых знакаў ордэнаў на правым баку грудзей на калодках у выглядзе мініяцюрных копій або разетак.
Ордэны на ордэнскім ланцугу, шыйнай і плечавой стужцы на паўсядзённым адзенні, як правіла, не носяцца.

12. Рэкамендуецца наступны парадак нашэння знакаў нацыянальных узнагарод на калодцы: на левым баку грудзей вышэй за іншыя нацыянальныя ўзнагароды Беларусі носіцца знак ордэна Герояў. Знакі нацыянальных узнагарод размяшчаюцца на агульнай планцы (або асобна, але шчыльна) справа налева ад узнагароджанага ў адпаведнасці з зацверджаным старшынствам нацыянальных узнагарод.
Пры гэтым на адной агульнай планцы можа быць размешчана не больш за чатыры знакі нацыянальных узнагарод на калодках. Пры нашэнні на левым баку грудзей больш за чатыры знакі нацыянальных узнагарод пяты і наступныя размяшчаюцца на новай ніжняй умоўнай або стандартнай агульнай планцы так, каб падвескі-медальёны верхняга шэрага знаходзіліся на стужках калодак ніжняга шэрага, а сярэдні вугал шасцікутнай калодкі верхняга шэрага супадаў з верхнім вуглом калодкі ніжняга шэрага.
Рэкамендуецца насіць нацыянальныя ўзнагароды не больш чым у тры шэрагі. Размяшчэнне знакаў нацыянальных узнагарод на

калодках (агульных планках) ажыццяўляецца такім чынам, каб верхні край калодкі (край агульнай планкі) першага шэрага размяшчаўся: на класічным гарнітуры (аднабортным) — на 70 мм ніжэй, чым узровень уступа лацкана пінжака; на класічным гарнітуры (двухбортным) — на 70 мм ніжэй, чым узровень кута лацкана пінжака; на фраку — на 70 мм ніжэй, чым узровень уступа лацкана. Пры гэтым узнагароды носяцца ў адзін шэраг: на жаночай сукенцы — у верхняй частцы грудзей, на парадным вайсковым (службовым) мундзіры — каб ніжні край узнагароды верхняга шэрага супадаў з верхнім краем клапана кішэні, а ніжні вугал калодкі другога шэрага таксама супадаў з верхнім краем клапана кішэні.

13. Зоркі ордэнаў Беларусі і замежных ордэнаў носяцца на левым баку грудзей, на 10 мм ніжэй за нацыянальныя ўзнагароды, нашэнне якіх прадугледжана на калодках. Нашэнне зоркі ордэна рэкамендуецца толькі разам са знакам адпаведнага ордэна на плечавой стужцы ці калодцы. Рэкамендуецца насіць адначасова не больш за тры зоркі ордэнаў Беларусі і ордэнаў замежных дзяржаў. Пры наяўнасці ва ўзнагароджанай асобы больш за адзін ордэн, які прадугледжвае нашэнне зоркі ордэна, зоркі ордэнаў размяшчаюцца адна пад адной у адпаведнасці са старшынствам ордэна. Пры гэтым адлегласць паміж канцамі найбліжэйшых прамянёў зорак складае 10 мм. На парадным мундзіры, дзе прадугледжана нашэнне паса, дазваляецца размяшчэнне зорак у два шэрагі.

## III. Парадак нашэння мініяцюрных копій знакаў нацыянальных узнагарод і стужак ордэнаў і медалёў у выглядзе планак або разетак

14. Рэкамендуецца наступны парадак нашэння мініяцюрных копій знакаў нацыянальных узнагарод:

а) пры нашэнні мініяцюрных копій знакаў нацыянальных узнагарод нашэнне нацыянальных узнагарод не дапускаецца, за выключэннем знакаў нацыянальных узнагарод, нашэнне якіх прадугледжваецца на ордэнскім ланцугу, плечавой ці шыйнай стужцы;

б) пры нашэнні мініяцюрных копій знакаў нацыянальных узнагарод выконваюцца агульныя правілы, прадугледжаныя для нашэння знакаў нацыянальных узнагарод на калодцы. Пры гэтым рэкамендуецца адначасовае нашэнне ў адзін шэраг да васьмі мініяцюрных копій нацыянальных узнагарод, якія мацуюцца

шчыльна на агульнай планцы або паасобку. Мініяцюрныя копіі носяцца толькі ў адзін шэраг. Пры нашэнні да трох мініяцюрных копій знакаў нацыянальных узнагарод на класічным гарнітуры яны размяшчаюцца на левым лацкане адзення ўзнагароджанай асобы, пры гэтым верхні край агульнай планкі або калодкі размяшчаецца на 30 мм ніжэй, чым узровень ніжняга краю пятліцы лацкана, пры нашэнні больш за тры мініяцюрныя копіі знакаў — над нагруднай кішэняй. Пры гэтым ніжні край мініяцюрных копій знакаў нацыянальных узнагарод размяшчаецца на 30 мм вышэй, чым верхняе шво нагруднай кішэні. Мініяцюрныя копіі на вайсковых (службовых) мундзірах не носяцца.

15. Рэкамендуюцца наступныя правілы нашэння стужак ордэнаў і медалёў на планках:

а) стужкі ордэнаў і медалёў на планках носяцца на левым баку грудзей і размяшчаюцца паводле парадку старшынства дзяржаўных узнагарод;

б) ордэнскія стужкі і стужкі медалёў на планках носяцца на 70 мм ніжэй, чым узровень уступа лацкана класічнага мужчынскага касцюма. На парадным або паўсядзённым вайсковым (службовым) мундзіры ніжні шэраг планак абапіраецца на шво верхняй нагруднай кішэні.

На цывільным касцюме і форменнай вопратцы рэкамендуецца нашэнне стужак ордэнаў і медалёў на планках не больш, чым у чатыры шэрагі па чатыры планкі ў кожным з іх.

16. Рэкамендуюцца наступныя правілы нашэння стужак ордэнаў нацыянальных узнагарод і разетак:

а) стужкі ордэнаў у выглядзе разетак прызначаныя для паўсядзённага нашэння на лацкане класічнага касцюма, фрака, смокінга або на жаночай сукенцы;

б) пры наяўнасці ва ўзнагароджанай асобы некалькіх ордэнаў Беларусі носіцца толькі стужка ў выглядзе разеткі, якая адпавядае найвышэйшаму ордэну;

в) дапускаецца адначасовае нашэнне стужкі ордэна Герояў у выглядзе разеткі са стужкай ордэна Усяслава Чарадзея, Нябеснай Апякункі Беларусі або Кастуся Каліноўскага ў выглядзе разеткі, але не больш за дзве;

г) не рэкамендуецца нашэнне стужкі ордэна ў выглядзе разеткі разам са знакамі нацыянальных узнагарод. Стужка ордэна ў выглядзе разеткі на класічным касцюме або смокінгу носіцца ў пятліцы левага лацкана, на фраку на левым лацкане на 35 мм ніжэй, чым узровень уступа лацкана.

## IV. Парадак нашэння ведамасных узнагарод, а таксама ўзнагарод грамадскіх аб’яднанняў і арганізацый

17. Ведамасныя ўзнагароды і ўзнагароды грамадскіх аб’яднанняў і арганізацый носяцца толькі пасля нацыянальных узнагарод. Падчас афіцыйных мерапрыемстваў на цывільным гарнітуры не рэкамендуецца нашэнне з нацыянальнымі ўзнагародамі ведамасных, у якіх узнагароджаная асоба непасрэдна не праходзіць службу, а таксама ўзнагарод грамадскіх арганізацый і аб’яднанняў. На вайсковым (службовым) мундзіры нашэнне ўзнагарод грамадскіх арганізацый і аб’яднанняў не рэкамендуецца.

18. Знакі ўзнагарод замежных дзяржаў са знакамі нацыянальных узнагарод Беларусі носяцца пасля (ніжэй) нацыянальных узнагарод. Знакі ўзнагарод замежных дзяржаў на калодцы, штыфце ці шпільцы размяшчаюцца ў алфавітным парадку ў адпаведнасці з найменнем краін на беларускай мове. Размяшчэнне знакаў узнагарод замежных дзяржаў, нашэнне якіх прадугледжана на шыйным ланцугу, плечавой або шыйнай стужцы, ажыццяўляецца ў наступным парадку:

а) пры нашэнні ўзнагароджанай асобай знакаў ордэнаў Беларусі, нашэнне якіх прадугледжана на ордэнскім ланцугу або плечавой стужцы, знакі ўзнагарод замежных дзяржаў на шыйным ланцугу або плечавой стужцы не носяцца;
б) пры наяўнасці ва ўзнагароджанай асобы нацыянальных узнагарод, нашэнне якіх прадугледжана на шыйнай стужцы, узнагароды замежных дзяржаў на шыйнай стужцы размяшчаюцца ніжэй за нацыянальныя ўзнагароды. Пры гэтым агульная колькасць узнагарод, якія носяцца на шыйнай стужцы, не павінна перавышаць дзве. Зоркі ордэнаў замежных дзяржаў размяшчаюцца на левым баку грудзей і пры наяўнасці ва ўзнагароджанага зорак ордэнаў Беларусі размяшчаюцца ніжэй за іх. Пры гэтым рэкамендуецца, каб агульная колькасць зорак не перавышала тры.

19. Пры нашэнні нацыянальных узнагарод не носяцца ўзнагароды рэжыму А. Лукашэнкі (дзяржаўныя ўзнагароды Рэспублікі Беларусь, уручаныя пасля 24 лістапада 1996 г.), а таксама ўзнагароды Расійскай Федэрацыі і СССР.

20. Рэкамендаваны парадак (іерархія) нашэння нацыянальных узнагарод Беларусі:

1) Ордэн Герояў Беларусі (АПК).
2) Ордэн Усяслава Чарадзея (АПК).
3) Ордэн Нябеснай Апякункі Беларусі (АПК).
4) Ордэн Пагоні (Рада БНР).
5) Ордэн Жалезнага рыцара (Рада БНР).
6) Ордэн Кастуся Каліноўскага (ЧВК БВА).
7) Крыж Змагання Тадэвуша Касцюшкі (ЧВК БВА).
8) Крыж Ахвярнасці Эміліі Плятэр (ЧВК БВА).
9) Партызанскі народны крыж (ЧВК БВА).
10) Крыж Свабоды (АПК).
11) Крыж Адраджэння Беларусі (братоў Луцкевічаў) (АПК).
12) Крыж Добрасуседства (АПК).
13) Медаль "За баявыя заслугі" (Рада БНР).
14) Медаль "За адвагу" (ЧВК БВА).
15) Партызанскі медаль (Рада БНР).
16) Медаль "Няскораных Ларысы Геніюш" (АПК).
17) Медаль да 100-годдзя Беларускай Народнай Рэспублікі (Рада БНР, больш не ўручаецца).
18) Медаль ордэна Пагоні (Рада БНР).
19) Медаль Сцяга (ГР "Пагоня").
20) Медаль Францыска Скарыны (АПК).
21) Медаль "Гонар і Годнасць" (АПК).
22) Медаль "За дапамогу Беларускаму войску" (ЧВК БВА).
23) Медаль "За плённую працу на карысць Беларусі" (АПК).

# Рэкамендацыі аб парадку хадайніцтваў аб прадстаўленні да нацыянальных узнагарод Беларусі

Нацыянальныя (дзяржаўныя) узнагароды з'яўляюцца знакам прызнання заслуг асобы перад народам Беларусі ў адпаведнай сферы дзейнасці. Рашэнне аб узнагароджанні прымаецца высокімі інстанцыямі, якія маюць на гэта ўпаўнаважанне ад беларускага народа.

У цяперашні час уручэнне ўзнагарод, якія ўтвараюць Нацыянальную сістэму ўзнагарод Беларусі, часова ажыццяўляюць адпаведныя інстытуцыі беларускага вызвольнага руху: Рада БНР, Аб'яднаны Пераходны Кабінет Беларусі, Часовая вайсковая камісія БВА і Геральдычная рада "Пагоня".

Рада БНР з'яўляецца часовым найвышэйшым дзяржаўным органам Беларускай Народнай Рэспублікі і мае непасрэдную юрыдычную пераемнасць з агульнанацыянальным Усебеларускім з'ездам, які прайшоў у снежні 1917 г. Яна ўвасабляе волю беларускага народа мець уласную суверэнную дэмакратычную дзяржаву, выказаную нашымі продкамі больш за сто гадоў таму, а таксама пераемнасць беларускага вызвольнага руху, ягоную непахіснасць у барацьбе за свабоду да перамогі.

Аб'яднаны Пераходны Кабінет Беларусі сфармаваны паводле рашэння С. Г. Ціханоўскай як пераможцы выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь з мэтай аднаўлення законнасці і дэмакратыі ў Рэспубліцы Беларусь, правядзення свабодных выбараў і фармавання законных пастаянных органаў дзяржаўнай улады. Рашэнні аб узнагароджванні падпісваюцца С. Г. Ціханоўскай як упаўнаважанай прадстаўніцай беларускага народа.

Беларуская Вызвольная Армія, чыя дзейнасць каардынуецца Часовай вайсковай камісіяй, падзяляе мэту аднаўлення законнасці і дэмакратыі ў Беларусі і прымае меры па гуртаванні беларускіх вайскоўцаў, якія падзяляюць гэтыя мэты, і арганізацыі збройнага вызвольнага руху.

Нацыянальныя ўзнагароды Беларусі маюць быць дэмакратычным інструментам адзначэння заслугаў перад беларускім народам і дзяржавай. Выкананне гэтай ролі патрабуе актыўнага ўзаемадзеяння беларускага грамадства і названых вышэй інстытуцый.

Беларускія грамадскія арганізацыі, суполкі грамадзян і асобы ў індывідуальным парадку маюць права падаваць прадстаўленні на ўзнагароджванне беларускімі нацыянальнымі ўзнагародамі

ў адпаведныя інстытуцыі. Прадстаўленні маюць адлюстроўваць заслугі кандыдата і ягоную строгую адпаведнасць статуту ўзнагароды, да якой кандыдат прадстаўлены, а таксама адсутнасць кампраметуючых звестак пра кандыдата, якія ў выпадку ўзнагароджвання маглі б скампраметаваць узнагароду.

Дакладны парадак прадстаўлення кандыдатаў да ўзнагароджвання, разгляду прадстаўленняў і прыняцця рашэнняў па іх у дадзены момант рэгламентуецца інстытуцыямі-заснавальніцамі адпаведных узнагарод.

У адпаведнасці з агульнапрынятай практыкай рэкамендуецца ўключаць у прадстаўленне наступныя дадзеныя:

– дакладную інфармацыю пра заслугі, якія адпавядаюць крытэрыям узнагароджвання адпаведнай узнагародаю, са спасылкай на адпаведныя палажэнні статута ўзнагароды;
– агульную біяграфічную даведку пра кандыдата, у якой падкрэслівалася б уся вядомая інфармацыя, якая мае значэнне для прыняцця рашэння пра ўзнагароджванне;
– інфармацыю пра ўзнагароды, якія ўжо мае кандыдат;
– кантактныя звесткі групы або асобы, якія прадстаўляюць кандыдата да ўзнагароды.

Прадстаўленні (хадайніцтвы) маюць складацца на беларускай мове, па магчымасці ў электронным выглядзе (з выкананнем правілаў інфармацыйнай бяспекі), не павінны перавышаць 3-4 старонкі друкаванага тэксту. Да хадайніцтваў могуць дадавацца спасылкі на публікацыі ў медыя або іншыя дапаможныя матэрыялы.

Паводле агульнапрынятай практыкі, інстытуцыі-заснавальніцы ўзнагарод могуць звярнуцца да аўтара прадстаўлення па дадатковую інфармацыю пра кандыдата і правесці ўласны аналіз атрыманых дадзеных, у тым ліку з прыцягненнем трэціх бакоў.

Перад падачай прадстаўлення пажадана ацаніць верагоднасць адмовы кандыдата прыняць узнагароду ад інстытуцыі-заснавальніцы па тых ці іншых прычынах. У выпадку, калі такая верагоднасць ацэньваецца як высокая, належыць устрымацца ад падачы прадстаўлення.

Недапушчальна публічна разгалошваць звесткі пра прадстаўленне кандыдата да ўзнагароды і аказваць публічны або непублічны ціск на інстытуцыі-заснавальніцы ўзнагарод з мэтай дасягнення таго ці іншага рашэння па ўзнагароджванні кандыдата.

# Рэкамендацыі па арганізацыі і правядзенні цырымоніі ўзнагароджвання

Уручэнне нацыянальных узнагарод па магчымасці павінна быць арганізавана як асаблівая ўрачыстасць, якая падкрэслівала б пашану да ўзнагароджаных і іхных заслуг, а таксама падкрэслівала б важнасць узнагароды. У адпаведнасці з гэтым павінны вызначацца фармат, месца і час уручэння.

Цырымонія ўручэння нацыянальных узнагарод павінна па магчымасці адбывацца з выкарыстаннем беларускіх нацыянальных сімвалаў: у прысутнасці на пачэсным месцы беларускага нацыянальнага сцяга, з выкананнем нацыянальнага гімна “Мы выйдзем шчыльнымі радамі”.

## 1. Цывільныя ўзнагароджванні

Уручэнне можа адбывацца ў выглядзе публічнай цырымоніі, прыватна ці ў цалкам непублічным парадку (без фота і відэа) у залежнасці ад арганізацыйных магчымасцяў і пажаданняў асобы, якая ўзнагароджваецца, прычым апошняе грае вызначальную ролю.

Перад арганізацыяй цырымоніі неабходна загадзя звязацца з асобай, якая ўзнагароджваецца, паведаміць пра рашэнне аб узнагароджванні, атрымаць згоду прыняць узнагароду і пракансультавацца пра пажаданае месца, час і фармат узнагароджвання.

Па магчымасці ўручэнне павінна ажыццяўляць упаўнаважаная на гэта высокая асоба (напрыклад, сябар органа, які прыняў рашэнне аб узнагароджванні: сябар АПК, сябар ЧВК БВА, рады БНР).

Сертыфікат да ўзнагароды перад уручэннем павінен быць змешчаны ў рамку.

Асоба, якая ўручае ўзнагароду, павінна мець урачысты знешні выгляд. Да ўзнагароджаных патрабаванні па форме вопраткі прад’яўляцца не павінны, але пажадана, каб яны былі апрануты ў дзелавы строй.

У месцы правядзення цырымоніі па магчымасці побач з непасрэдным месцам уручэння знака (напрыклад, на сцэне) павінен прысутнічаць беларускі нацыянальны сцяг (паводле закона “Аб дзяржаўным сцягу Рэспублікі Беларусь” ад 19 верасня 1991 г., палотнішча з трыма гарызантальнымі палосамі — белай, чырвонай,

белай, прапорцыі шырыні сцяга да ягонай даўжыні — 1 да 2, без “Пагоні” або іншых выяваў на палотнішчы).

На пачатку і ў канцы цырымоніі (або як мінімум на пачатку цырымоніі) у якасці беларускага нацыянальнага гімна выконваецца “Мы выйдзем шчыльнымі радамі”. Перад выкананнем гімна ўсіх прысутных просяць устаць.

Перад уручэннем узнагароды неабходна зачытаць віншавальны зварот ад найвышэйшага кіраўніцтва інстытуцыі-заснавальніцы ўзнагароды і/або асабісты віншавальны зварот ад асобы, якая ўпаўнаважана ўручыць узнагароду. Пасля ўручэння ўзнагароды слова можа быць прадстаўлена ўзнагароджанай асобе. Дапушчальна дадатковае прадстаўленне слова для віншавальнага звароту асобе, якая мае непасрэднае дачыненне да дзейнасці ўзнагароджанай асобы (напрыклад, прадстаўнік арганізацыі, якая хадайнічала аб узнагароджванні).

Уручэнне ўзнагароды можа адбывацца ў межах іншага публічнага мерапрыемства (напрыклад, канферэнцыі або мітынгу). Пры гэтым рэкамендацыі аб прысутнасці нацыянальнага сцяга і выкананні гімна застаюцца ў сіле.

Дапускаецца перадача ўзнагароды ў прыватным парадку (напрыклад, у шпіталі або ў хатніх умовах) без арганізацыі цырымоніі. Пры вызначэнні гэтага неабходна арыентавацца на пажаданні ўзнагароджанага.

Пры ўручэнні ўзнагарод розных ступеняў у межах адной цырымоніі спачатку ўручаюцца ўзнагароды ніжэйшага ўзроўню, а затым — вышэйшага ўзроўню (напрыклад, спачатку медалі, затым крыжы, потым знакі ордэнаў). Пры ўручэнні ўзнагарод аднаго ўзроўню некальком асобам рэкамендуецца ўручаць іх паводле прозвішчаў у алфавітным парадку (ад А да Я) або паводле ўзросту (ад старэйшых да малодшых). Не рэкамендуецца ўручаць узнагароды паводле гендару (спачатку жанчынам, потым мужчынам ці наадварот).

## 2. Вайсковыя ўзнагароджванні

Вайсковыя цырымоніі ўзнагароджвання могуць праводзіцца як у тылавых умовах, так і ў палявых (напрыклад, у месцы дыслакацыі вайсковага аддзела).

У палявых умовах прыярытэтам павінна быць бяспека асабовага складу, дзеля забеспячэння якой пэўныя элементы цырымоніі могуць быць скарочаны. Таксама ўзнагароджванне можа адбывацца ва ўмовах шпіталя, дзе прыярытэтам мае быць фізічны стан параненых вавяроў.

Ніжэй прыведзены стандартныя рэкамендацыі па правядзенні поўнай цырымоніі ў тылавых умовах.

Удзельнікі цырымоніі:

– асабовы склад (як тыя, хто атрымлівае ўзнагароды, так і пабрацімы);
– маршалак — афіцэр, які кіруе цырымоніяй;
– штандаравы звяз: чатыры чалавекі, якія ўрачыста выносяць два сцягі (дзяржаўны і вайсковай часткі) адзін побач з другім, а падчас цырымоніі — трымаюць іх у наступным парадку: адзін чалавек нясе і трымае нацыянальны сцяг Беларусі (паводле закона “Аб дзяржаўным сцягу Рэспублікі Беларусь” ад 19 верасня 1991 г., палотнішча з трыма гарызантальнымі палосамі — белай, чырвонай, белай, прапорцыі шырыні сцяга да ягонай даўжыні — 1 да 2, без “Пагоні” або іншых выяваў на палотнішчы); адзін чалавек нясе і трымае штандар вайсковай часткі; два дадатковыя чалавекі з узбраеннем суправаджаюць першых двух і стаяць за іх спінай у якасці ганаровай варты;
– прадстаўнік органа дзяржаўнай улады або камандавання, упаўнаважаны ўручаць узнагароды;
– ганаровыя госці;
– тэхнічныя асістэнты, фатографы, відэаапературы.

# Сцэнар цырымоніі

## I. Першапачатковая пазіцыя

а) асабовы склад арганізавана прыбывае на месца правядзення цырымоніі і шыхтуецца;
б) госці цырымоніі стаяць убаку;
в) маршалак прысутнічае побач з асабовым складам;
г) асоба, упаўнаважаная для ўручэння ўзнагарод, і штандаравы звяз знаходзяцца па-за памяшканнем;
д) тэхнічны асістэнт за некалькі хвілін перад пачаткам можа ўключыць адпаведную нагодзе музыку;
е) дакладная расстаноўка ўдзельнікаў павінна быць вызначана на месцы.

## II. Пачатак цырымоніі

1. Маршалак аддае каманду “Зважай!”.
2. Уваходзіць асоба, упаўнаважаная для ўручэння ўзнагарод. Вітаецца з ганаровымі гасцямі за руку. Становіцца перад маршалкам і асабовым складам.
3. Маршалак звяртаецца да асобы, упаўнаважанай уручыць узнагароды: “Асабовы склад (найменне вайсковага аддзела) для цырымоніі ўзнагароджвання сабраны”.
4. Асоба, упаўнаважаная для ўручэння ўзнагарод, вітае асабовы склад: “Вітаю вас, спадарства”.
5. Асабовы склад адказвае: “Вітаем вас, (зварот да асобы, упаўнаважанай уручыць узнагароды)”.
6. Упаўнаважаная для ўручэння ўзнагарод асоба займае месца побач з ганаровымі гасцямі.

## III. Вынясенне сцяга

7. Маршалак падае каманды: “На штандар — зважай! Раўнуй! Штандаравы звяз, наперад!”
8. Выконваецца (гучыць) кант-гімн з “Полацкага сшытку”.
9. Пад музыку штандаравы звяз урачыста выносіць сцягі і займае вызначанае яму месца.

## IV.Уступныя прамовы

10. Маршалак: "Прашу стаяць для выканання нацыянальнага гімна".
11. Выконваецца (гучыць) гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".
12. Маршалак прамаўляе перад асабовым складам.
13. Упаўнаважаная для ўручэння ўзнагарод асоба прамаўляе перад асабовым складам.

## V. Узнагароджванне

14. Упаўнаважаная для ўручэння ўзнагарод асоба зачытвае загад аб узнагароджванні.
15. Як толькі пачынаецца спіс узнагароджаных і называецца імя і прозвішча або пазыўны ўзнагароджанага, маршалак аддае каманду: "Для атрымання ўзнагароды выйсці з шыхту!"
16. Названы ваяр выходзіць з шыхту, маршыруе да ўпаўнаважанай для ўручэння ўзнагарод асобы.
17. Упаўнаважаная для ўручэння ўзнагарод асоба ўручае названаму ваяру ўзнагароду (у выпадку медаля ці знака ордэна — замацоўвае на форме).
18. Узнагароджаны ваяр аддае гонар, гледзячы на ўпаўнаважаную для ўручэння ўзнагарод асобу, і прамаўляе: "Жыве Беларусь!"
19. Упаўнаважаная для ўручэння ўзнагарод асоба адказвае: "Жыве вечна!" Затым паціскае руку ваяру. Пры магчымасці робіцца памятны фотаздымак.
20. Узнагароджаны ваяр вяртаецца ў шыхт.
21. Упаўнаважаная для ўручэння ўзнагарод асоба называе наступнага ваяра паводле п. 15.
22. Маршалак аддае каманду, як у п. 15, далей паўтараюцца пп. 16–20.
23. У выпадку, калі названы ваяр не прысутнічае на цырымоніі, узнагарода застаецца на месцы і называецца наступны ваяр.

## VI. Заключныя прамовы

24. Пасля ўзнагароджвання апошняга ваяра маршалак можа даць слова аднаму з прадстаўнікоў асабовага складу і ганаровым гасцям. Перад цырымоніяй неабходна дакладна вызначыцца з тымі, хто будзе прамаўляць на гэтым этапе.
25. Пры магчымасці робіцца ўрачыстае агульнае фота.
26. Маршалак: "Прашу стаяць для выканання нацыянальнага гімна".
27. Выконваецца (гучыць) гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

## VII. Занясенне сцяга

28. Маршалак падае каманду: “На штандар — зважай! Раўнуй! Штандаравы звяз — наперад!”
29. Выконваецца (гучыць) кант-гімн з “Полацкага сшытку”.
30. Пад музыку штандаравы звяз маршыруе з месца цырымоніі.
31. Маршалак: “Спачні! Роскід!”
32. Удзельнікі разыходзяцца.

# ПРЫСЯГА
## БЕЛАРУСКАЙ ВЫЗВОЛЬНАЙ АРМІІ

Я — ______________________________________,

уступаючы ў Беларускую вызвольную армію,
станаўлюся ў адзін шэраг з сваімі гераічнымі продкамі,
якія спрадвеку баранілі Беларусь ад варожай навалы.

Я абяцаю, што аддам усе сілы для перамогі над ворагам,
буду варты памяці продкаў і сучасных герояў,
якія аддалі жыццё, каб жыла Бацькаўшчына.

Як службовец Беларускай вызвольнай арміі я ведаю,
што сіла ня ў колькасьці, а ў гарце духу і волі,
у гонары беларускага жаўнера.

Я абяцаю, што ня выпушчу зброі з рук, пакуль не ўсталюю
свабоду, законнасьць і правапарадак на Беларускай зямлі.

Я абяцаю выконваць гэтую прысягу добрахвотна
і неаспрэчна, абяцаю сумленна выконваць ўсе загады
камандзіраў, дапамагаць сваім пабрацімам.

Калі я парушу гэтую прысягу, няхай мяне пакарае суровы
закон вайны і спасьцігне пагарда Беларускага народу.

Жыве Беларусь!
Жыве вечна!

КУПЯНСК ХАРКАЎ

Polk Kalinoŭskaha 1863 2022

# ЗАРОК БЕЛАРУСКАГА ВАЯРА

**Беларусь! Маці мая, Радзіма!**
**Клянуся:**
**Вызваляць і бараніць Цябе**
**Там, где знаходжуся зараз**
**І куды прывядзе мяне лёс Твайго вызваленьня;**
**Біцца да перамогі за Тваю свабоду,**
**Як біліся нашы продкі**
**З ардынскім прыгнётам маскавітаў**
**Пад Оршай, Смаленскам, Палонкай;**
**Бязьлітасна гнаць**
**Бязродных апрычнікаў зь зямель Тваіх,**
**Як гналі ваяры Вялікага Княства Літоўскага**
**І беларускай шляхты,**
**Касінеры Касьцюшкі**
**І паўстанцы Каліноўскага,**
**Жаўнеры Народнай Рэспублікі**
**І партызаны Супраціву;**
**Бараніць кроў Тваёй нацыі,**
**Моц Тваёй зямлі**
**І Боскі Дух Твайго існаваньня**
**У шэрагах вольных братоў і ў палоне**
**На Айчыне і ў выгнаньні,**
**У баі і ў падпольлі!**
**Няхай рукі мае сьціскаюць зброю,**
**Пакуль шыбеніцы ня скончаць**
**Сьціскаць шыі сыноў Тваіх!**
**Няхай ляск майго затвора не сьціхае,**
**Пакуль чутны ляск кратаў**
**За сьпінамі герояў Тваіх!**
**Няхай хопіць мне жыцьця,**
**Каб адпомсьціць**
**За ўсіх закатаваных,**
**Згвалтаваных і забітых дзяцей Тваіх!**
**Да астатняга бляску рэк Тваіх**
**У маіх вачах,**
**Пакуль будзе чутны тупат Пагоні ў сэрцы маім,**
**Жыці Табою,**
**Памерці за Цябе**
**І адрадзіць веліч Тваю!**

**Жыве Беларусь! Жыве вечна!**
**Беларусь перадусім!**

ХЕРСОН СЕВЕРАДАНЕЦК БУЧА

ЛІСІЧАНСК БАХМУТ ІРПЕНЬ

ЗАПАРОЖЖА ГУЛЯЙПОЛЕ

# ЗМЕСТ


Нацыянальны гімн Беларусі.......... 7
Канцэпцыя ўзнагарод Беларусі .......... 9
Часовае палажэнне пра нацыянальныя ўзнагароды Беларусі.......... 15
Ордэн Герояў Беларусі.......... 19
Ордэн Усяслава Чарадзея .......... 31
Ордэн Нябеснай Апякункі Беларусі .......... 43
Ордэн Пагоні.......... 55
Ордэн Кастуся Каліноўскага .......... 63
Ордэн Жалезнага рыцара.......... 71
Крыж Змагання Тадэвуша Касцюшкі .......... 79
Крыж Ахвярнасці Эміліі Плятэр .......... 87
Партызанскі народны крыж.......... 93
Крыж Свабоды .......... 101
Крыж Адраджэння Беларусі (братоў Луцкевічаў) .......... 107
Крыж Добрасуседства .......... 117
Медаль "За баявыя заслугі".......... 125
Медаль "За адвагу" .......... 131
Мэдаль Партызана.......... 139
Мэдаль да 100-годдзя Беларускай Народнай Рэспублікі .......... 141
Мэдаль ордэна Пагоні .......... 145
Медаль "Няскораных Ларысы Геніюш" .......... 151
Медаль Сцяга.......... 157
Медаль Францыска Скарыны .......... 163
Медаль "Гонар і Годнасць".......... 171
Медаль "За дапамогу Беларускаму войску" .......... 179
Медаль "За плённую працу на карысць Беларусі".......... 187
Рэкамендацыі аб парадку нашэння
знакаў нацыянальных узнагарод Беларусі .......... 193
Рэкамендацыі аб парадку хадайніцтваў
аб прадстаўленні да нацыянальных узнагарод Беларусі .......... 217
Рэкамендацыі па арганізацыі
і правядзенні цырымоніі ўзнагароджвання.......... 219
Сцэнар цырымоніі.......... 223
Прысяга Беларускай вызвольнай арміі.......... 227
Зарок беларускага ваяра.......... 229